Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка на часопіс «Грамадзянская альтэрнатыва» абавязковая.

Змест матэрыялаў адлюстроўвае пункт гледжання аўтараў і можа не падзяляцца рэдакцыяй.



# Змест

*Яраслаў Раманчук*

# Параўнальны аналіз рэалізацыі асноўных эканамічных мадэляў

Чэхія, Польшча, Венгрыя атрымалі запрашэнне ўступіць у элітны ваенны клуб. Славенія — пакуль толькі ў ЕС. Як узнагароду за стараннасць, руплівасць, цяжкую працу і прарыў у новую, капіталістычную будучыню. Вацлаў Клаус, былы прэм'ер Чэхіі, ужо тры гады таму казаў гасцям, якія прыехалі прасачыць працэс пераходу ад цэнтралізаванай планавай эканомікі да рынку, што яны спазніліся — працэс даўно завяршыўся. Галасы з Венгрыі і Польшчы гучалі менш самаўпэўнена, але эйфарыі наконт вынікаў эканамічных пераўтварэнняў хапала. Пакінуўшы далёка ззаду краіны былога Савецкага Саюза, суседзяў па СЭУ, перадавая тройца пераключылася на вырашэнне знешнепалітычных задач, якія ёй падаюцца прыярытэтнымі. Размова перш за ўсё ідзе пра ўступленне ў НАТА, мерапрыемстве дастаткова дарагім. Аднак уступленне першай пяцёркі краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў ЕС раней 2004 года з'яўляецца праблематычным.

Чэхія, Венгрыя, Польшча, Славенія дастаткова хутка зразумелі неабходнасць шпаркіх трансфармацый цэнтралізаванай планавай эканамікі ў рынкавую. Вацлаў Клаус, Лешэк Бальцаровіч, Міклаш Немет узначалілі смелыя эканамічныя рэформы, якія павінны былі забяспечыць канчатковы зварот сваіх краін у Еўропу. Нацыянальныя асаблівасці, безумоўна, прысутнічалі, але асноўныя параметры рэформ былі ідэнтычнымі: вырашэнне задач стабілізацыі, лібералізацыі і інстытуцыянальных пераўтварэнняў; стварэнне інфраструктуры прыватнай рынкавай гаспадаркі, канкурэнтнага асяроддзя, якое забяспечвае роўнасць умоў гаспадарання для ўсіх суб'ектаў гаспадарання; стварэнне прававых механізмаў гарантыі правоў чалавека і ўласнасці; забеспячэнне эканамічнай свабоды з мэтаю вызвалення стымулаў для вытворчай і творчай працы. Логіка ўсіх рэформаў мела на ўвазе прыкладна аднолькавы алгарытм дзеянняў: спачатку стабілізаваць нацыянальную валюту, выкараніць дэфіцыт шляхам лібералізацыі знешняга гандлю і развіццём прыватнага сектара і пачаць патроху рухацца наперад. Толькі Чэхіі пашанцавала ў кіраўніцтве рэформамі.

З трох галоўных рэфарматараў толькі Клаусу ўдалося ўтрымацца ва ўладзе. Нецярплівыя сацыялісты, якія раз-пораз выйгравалі ўсеагульныя выбары ў Варшаве і Будапешце, аператыўна выкарысталі як пралікі рынкавікоў, так і інерцыйныя, кансерватыўныя настроі ў грамадстве. Палітыкі рабілі ўсё магчымае, каб пазбегнуць чыста эканамічных вырашэнняў гаспадарчых праблем. Нядзіўна, бо такі адміністратыўны перадзел уласнасці надараецца аднойчы ў стагоддзе, і пераважная большасць палітыкаў не хацела губляць свой шанц. Чыстыя мадэлі эканамістаў-рэфарматараў былі «разбаўленыя» дзеяннямі прыхільнікаў постсацыялістычнага планавання, якія пад лозунгамі «сацыяльнай справядлівасці», «мяккай пасадкі», недапушчэння іншаземцаў практычна сабатавалі рэальныя рэформы, працуючы на карысць буйных лабісцкіх груповак. Да таго ж для ўсіх трох краін прыкладам для пераймання былі абраны краіны ЕС, якія самі вострa патрабуюць рэформ сваіх соцыя-эканамічных сістэм. Тактычная хітрасць сацыял-дэмакратычнай Еўропы была ў тым, каб пераканаць транзітыўныя краіны гуляць па сваіх правілах. Гэта давала магчымасць Бруселю кантраляваць працэсы, што адбываюцца, і паспяхова перашкаджаць станаўленню магутных какурэнтаў на доўгатэрміновую перспектыву. Якія ж прамежкавыя вынікі еўрапейскага выбару Чэхіі, Венгрыі і Польшчы?

## Польшча

Польшча з'яўляецца краінай транзітыўнай эканомікі, якая аддала перавагу ў якасці стартавай метадалогіі правядзення трансфармацыі шокавую тэрапію, аўтарамі якой былі міністр фінансаў Л.Бальцэровіч і эканаміст Дж.Сакс. 1992—1997 гады — гэта рэалізацыя палітыкі мяккай пасадкі. Пасля вяртання Бальцэровіча ва ўрад рэформы ў 1998—1999 гг. зноў набываюць ліберальны комплексны характар. Па многіх параметрах палякі пераўзышлі нават «планавыя» паказчыкі. Больш паловы ВУП вырабляецца прыватным сектарам. у якім занята 6 з 10 чалавек. Рост ВУП з 1992 па 1999 год склаў каля 36,8%. Аб'ём прамысловай вытворчасці за 1995—1998 гады павялічыўся амаль на 40%. Больш за 50% прадукцыі экспартуецца ў краіны ЕС, што сведчыць аб параўнальна хуткай пераарыентацыі знешняй гандлёвай дзейнасці з Усходу на Захад. Пасля стабілізацыі беспрацоўя на ўзроўні 15% у 1995 годзе даны паказчык знізіўся да пачатку 1999 года да 10,3%, менш, чым, напрыклад, у Іспаніі або Бельгіі. Польшча ўжо пачала перамовы па ўступленню ў ЕС. Праблема знешняга доўгу была пазітыўна вырашана. Лонданскі клуб скасаваў палову знешняга доўгу Польшчы, што складае каля 14 млрд. USD. Да пачатку 1999 года валютныя рэзервы краіны дасягнулі рэкорднай адзнакі — 24,5 млрд. долараў. У перыяд 1989 — пачатку 1999 г. прамыя замежныя інвестыцыі ў эканоміку Польшчы склалі 26,6 млрд. долараў. Было рэінвеставана 85% прыбытку.

План Бальцэровіча спалучаў у сабе кароткатэрміновыя антыкрызісныя стабілізацыйныя меры, накіраваныя на доўгатэрміновыя інстытуцыйныя пераўтварэнні. Ён улічваў высокую канцэнтрацыю састарэлых прамысловых структур і тэхналогій, адсутнасць развітой фінансавай інфраструктуры, адсутнасць эфектыўнай банкаўскай сістэмы, спецыфічную сацыяльную інфраструктуру (людзі з іхнімі звычкамі, паводзінамі, адносінамі да працы і г.д.), моцны ўплыў прафсаюзаў на прыняцце эканамічных рашэнняў, шырокую сетку неэфектыўных сацыяльных праграм.

Першачарговай задачай было спыненне гіперінфляцыі, стварэнне клімату даверу для знешніх і ўнутраных інвестараў. Эканамічная палітыка сфакусавалася на спыненні індэксацыі зарплат, увядзенні прагрэсіўнагападатку на перавышэнне ліміту зарплаты толькі дзяржпрадпрыемствам (падатак называўся «popiwek»), дэвальвацыі злотага ў 1990 г. Асноўнымі пунктамі плана Бальцэровіча былі: 1) лібералізацыя цэн і знешняга гандлю; 2) дэрэгуляцыя дзелавых адносін і забеспячэнне дынамічнага, а не статычнага права ўласнасці; 3) прамысловая рэструктурызацыя, складнікамі якой была прыватызацыя, разбуйненне, акцыянаванне; 4) значнае зніжэнне або адмена субсідый і датацый; 5) канвертуемасць злотага на аснове фіксаванага абменнага курсу; 6) збалансаванасць бюджэту; 7) алмена «лёгкіх» і танных крэдытаў для дзяржпрадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі.

Аднак да пачатку 1998 года дзяржава па-ранейшаму кантралявала большую частку плыняў капіталу. У выніку ціску розных сацыяльных груп і прафсаюзаў шокавая тэрапія ўжо ў 1990 годзе стала менш вострай. Мякчэйшай стала крэдытна-грашовая палітыка (зніжэнне працэнтных ставак), павышэнне інфляцыйнага індэкса аплаты працы. У практыку ўвайшло выдзяленне практычна беззваротных крэдытаў неэфектыўнаму дзяржсектару, які замест правядзення рэструктурызацыі выбіваў сабе асаблівы, надрынкавы статус. Гданьская суднаверф, трактарны завод «Урсус», шматлікія сельскагаспадарчыя аб'яднанні бaставалі ў сярэдзіне 1998 г. і пачатку 1999 г., патрабуючы пратэкцыяністскіх мер абароны ад замежных тавараў.

Некаторыя сцвярджаюць, што Польшча заплаціла вельмі вялікі кошт за «шокавую тэрапію». За першыя два гады рэформ у параўнанні з 1989 годам ВУП упаў на 20%, прамысловая вытворчасць — на 35 , рэальная зарплата — на 25%. Да таго ж асноўныя фонды былі амартызаваны на 50%, а знос асноўнага абсталявання і машын склаў амаль 68%. Афіцыйны ўзровень беспрацоўя ўзняўся да 11%. У 1990 годзе інфляцыя складала 586%, а ў 1991 — 70%. Гэтыя вынікі лёгка было прадказаць з пункту гледжання эканамічнай тэорыі. Рэакцыя ў адказмоцна манапалізаванага дзяржсектара эканомікі на першыя макраэканамічныя рэфарматарскія меры была класічным прыкладам рэакцыі манаполіі на вызваленне цэн і вялікі цяжар прамых і ўскосных падаткаў. Аб'ём прамысловай вытворчасці упаў, а цэны ўзняліся. Нягледзячы на змяншэнне прыбытку, у 1991 годзе практычна не было банкруцтваў. Сярэдняя рэнтабельнасць у 1990 годзе складала 29,9%, а ў 1991 годзе ўсяго 6,9%.

У 1992 годзе ўдалося спыніць падзенне УВП. Больш таго, рост склаў 1,0%. Прамысловая вытворчасць павялічылася на 2,6%, а ўзровень беспрацоўя склаў 13,6%. Зменшылася і інфляцыя, але не на столькі, каб гаварыць аб стабілізацыі нацыянальнай валюты. Яна склала 43%. Працягвалася падзенне рэальнай зарплаты, якое склала 2,7%.

Дзяржпрыбыткі, нягледзячы на жорсткія карпаратыўныя і падаходныя падаткі, таксама скараціліся. Гэта прывяло да павелічэння дэфіцыту бюджэту ў 1992 годзе да 6,1%. Дэфіцыт адлюстроўвае растучую неэфектыўнасць і выдаткі сістэмы сацыяльнай абароны, якая ўключала ў сябе бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, аплатныя дэкрэтныя адпачынкі, бясплатную сярэднюю і вышэйшую адукацыю, страхоўку і пенсійнае забеспячэнне. Сюды трэба дадаць і выплату дапамогі па беспрацоўю. У 1992 годзе сацыяльныя выдаткі складалі 56% дзяржвыдаткаў, а ў 1993 годзе яны павялічыліся да 60%.

Неабходна адзначыць і ўплыў прыватызацыі на дэфіцыт дзяржбюджэта. Паводле агульнапрынятага перакanання прыватызаваныя прадпрыемствы працуюць больш эфектыўна і прыбыткова, што азначае павелічэнне падатковых паступленняў у бюджэт. Як паказвае афіцыйная статыстыка, падатковыя паступленні ад прыватызаваных прадпрыемстваў былі значна меншыя, чым паступленні ад дзяржпрадпрыемстваў. Адсюль не вынікае, што Польшча не прымае прыватны сектар. Нізкія паступленні ў бюджэт ад прыватызаваных прадпрыемстваў тлумачыцца перш за ўсё тым, што большая частка прыбытку пайшла ў «шэрую» эканоміку. Недасканаласць уліку і падатковых законаў дазволілі прыбытковым прадпрыемствам паказваць страты і ўхіляцца ад выплаты падаткаў. Да таго ж прыватызаваныя прадпрыемствы патрабавалі вялікіх інве-

стыцыйныў укладанняў дзеля вываду іх на канкурэнтны сусветны рынак. Да 1999 года ў Польшчы было створана каля 2,9 млн. прыватных прадпрыемстваў. У хатніх гаспадарках сканцэнтраваны асноўны капітал, паходжанне якога мае яўна спекулятыўны характар.

Негатыўным аспектам першага этапу правядзення рэформ была таксама палітыка абменнага курсу. Адкрыццё рынку і моцная дэвальвацыя злотага значна павялічылі польскі экспарт у 1990—1991 гадах. Аднак канвертуемасць валюты на аснове фіксаванага намінальнага курсу, што працягвалася да сярэдзіны 1991 года, ва ўмовах гіперінфляцыі драматычна скарацілі колькасць унутраных фінансаў. Фіксаваны абменны курс, на якім настойвалі замежныя эксперты, прывёў да таго, што пакупная здольнасць польскага злотага павялічылася ў восем разоў у параўнанні з асноўнымі валютамі свету.

Абмен замежнай валюты на злотыя, адкрыццё дэпазітаў у польскіх банках і потым адваротная канвертацыя дазволілі знешнім «інвестарам» атрымаць у 10—20 разоў большыя прыбыткі, чым дзе б гэта ні было ў свеце. За першыя два гады толькі выплата працэнтаў склала 2,4 млрд. долараў з рэзерваў Нацбанка. Гэтая страта капіталу была значна вышэйшая, чым прамыя знешнія інвестыцыі. Рэзкая падаражанне польскай валюты прывяло да павелічэння аб'ёму таннага імпарту.

Перад запускам рэформ прагназавалася, што рэстрыкцыйная фіскальная палітыка можа прывесці да кароткачасовай рэцэсіі, але хуткі працэс прыватызацыі, знешнія інвестыцыі і вызваленне цэн здольныя генерыраваць пазітыўны эфект прапановы. У першыя два гады рэформаў нічога падобнага не адбылося. Знешнія інвестыцыі былі значна меншыя, бо не была прынята праграма ўсеагульнай прыватызацыі, і проста не было інвестыцыйных праектаў. Праграма малой прыватызацыі была ажыццёўлена, але асноўны прамысловы сектар працягваў заставацца ў дзяржавы. Да сярэдзіны 1995 года каля 3500 фірм знаходзілася ў руках дзяржавы. Палітыка міністра фінансаў Г.Калодкі заключалася ў наступным: на пачатковым этапе не прадаваць акцый дзяржпрадпрыемстваў, а акцыяніраваць іх, узмацніць кантроль за работай прадпрыемстваў, палепшыць іх эфектыўнасць і толькі потым прыватызаваць.

На старце малой прыватызацыі функцыянавала 8441 дзяржпрадпрыемства. Да канца 1994 года форму ўласнасці змяніла 4722, або 56% прадпрыемстваў. Аж да 1995 года і размовы не было аб прыватызацыі асноўных дзяржаўных банкаў. Прыватным банкам былі створаны яўна няроўныя ўмовы гаспадарання. Польскі эквівалент беларускага Аграпрамбанка абанкруціўся, але быў выратаваны дзяржавай, якая пакрыла страты ў памеры 700 млн. долараў. Нягледзячы на палітыку стрымлівання прыватызацыі, прыватны сектар забяспечвае працай ужо каля 68% насельніцтва і фарміруе каля 70% ВУП.

Да сярэдзіны 1995 года была прынята праграма сярэдняй і вялікай прыватызацыі. Праграма прадугледжвала падзел 414 малых і сярэдніх прадпрыемстваў усіх галін эканомікі паміж 15 нацыянальнымі інвестыцыйнымі фондамі, якія ў суме кантралююць 60% усіх акцый. У ліпені 1995 года Міністэрства прыватызацыі арганізавала латарэю, якая і дазволіла размеркаваць прадпрыемствы, якія прыватызуюцца, сярод нацыянальных інвестыцыйных фондаў (НІФ). 25% захоўвае за сабой дзяржава і 15% пераходзіць рабочым прадпрыемстваў. На рынку з'яўляюцца тры тыпы каштоўных папер: 1) якія выдаюцца рабочым прадпрыемстваў; 2) якія выдаюцца інвестфондам; 3) прыватызацыйныя сертыфікаты, якія былі прададзены 28 млн. палякаў па кошту каля 30 USD за адзін сертыфікат. Акцыі некаторых вялікіх кампаній каціруюцца на Варшаўскай фондавай біржы. Прыватызацыйныя сертыфікаты пачалі выдавацца з лістапада 1995 года. У пачатку 1997 года яны былі ператвораны ў акцыі 15 НІФаў, якія распараджаюцца маёмасцю на суму каля 1,5 млрд. долараў. Удалая схема работы інвестфондаў, неабходнасць палепшыць эканамічныя паказчыкі прымусілі кааліцыйны ўрад паступова адкрываць польскі рынак для замежных інвестыцый. Дзякуючы гэтаму ў 1996 годзе ўдалося прыцягнуць 5,2 млрд. USD прамых інвестыцый. Гэта лепшы паказчык сярод усіх транзітыўных краін Еўропы.

Фаміраванне фіскальнай палітыкі адбывалася непаслядоўна, з вялікімі ўступкамі для аб'яднаных груп ціску. Хатнія гаспадаркі патрабуюць павелічэння выдаткаў на сацыяльныя праграмы, фірмы — змяншэння падаткаў, інвестары — стабільнасці і адсутнасці інфляцыі ў фінансава-крэдытнай сферы, а ўрад — павелічэння дапамогі стратнаму дзяржсектару. Асноўнымі прыкметамі фінансавай нестабільнасці з'яўляюцца хуткарастучыя ўнутраная і знешняя запазычанасці і змяншэнне рэальнага кошту бюджэтных выдаткаў, што вядзе да нарастання доўгу бюджэтных арганізацый і да іх фактычнага банкруцтва. У 1992 годзе выдаткі на абслугоўванне доўгу складалі 9,2% ад бюджэтных выдаткаў, у 1993 — ужо 12%, а ў 1998 — перавысілі 18%.

Поспехі НІФаў і прыватызацыя некалькіх гігантаў хавае яўнае зацягванне прыватызацыі астатніх 6300 дзяржпрадпрыемстваў, кошт якіх з кожным днём памяншаецца. Каля 30% выбраных для НІФаў суб'ектаў працуюць са стратамі, яшчэ 30% кампаній неабходна будзе ліквідаваць, бо няма камерцыйных падстаў утрымліваць іх на плаву. Па ацэнцы аднаго з упраўляючых інвестфонду, сярэднестатыстычная польская кампанія мае лішак рабочых месцаў — 20—40%. Гэта азначае, што ў бліжэйшыя 3—5 гадоў польскі рынак працы наўрад ці ўдасца стабілізаваць на ўзроўні ніжэй за 10% беспрацоўных. Заблытаная нарматыўная база, якая рэгулюе работы НІФаў і вызначае адносіны ўласнасці, таксама стварыла масу цяжкасцей з рэструктурызацыяй абранай

пяцісоткі. Палітыкі часта прымалі рашэнні не на карысць механізмам карпаратыўнай рэструктурызацыі, а для стварэння палітычна выгаднага іміджу вакол прыватызацыі, прадавалі прадпрыемствы па вельмі нізкім кошце. Сёння цэны на сертыфікаты ў 8 разоў вышэйшыя за першапачатковыя. У сярэдзіне 1997 года быў абнародаваны план прыватызацыі да 2000 года, які прадугледжвае продаж праз фондавую біржу 400 прадпрыемстваў: за грошы — 2900 кампаній і 3000 прадпрыемстваў — праз рэгіянальныя інвестфонды.

Полісі-мейкеры хочуць звязаць прыватызацыю гэтых прадпрыемстваў з пенсійнай рэформай, якая была аб'яўлена ў сярэдзіне 1998 года. Даная «звязка» блакіруе сапраўды наспелыя рэформы ў вугальнай прамысловасці, паліўна-энергетычным сектары. Некаторыя праекты продажу дзяржпрадпрыемстваў (АТ «Аліма», «Рух») былі заблакіраваны міністэрствам фінансаў пад ціскам сялянскай партыі, нягледзячы на тое, што папярэднія ўрады падпісалі адпаведныя дакументы з амерыканскай фірмай «Гербер» і французскай «Хашэт». Няўдалая спроба ўрада рэфармаваць «Банк господаркі жывносьцёвэй» каштаваў падаткаплацельшчыкам больш за 1 млрд. USD чыстых страт, не кажучы ўжо пра злоўжыванні пры размеркаванні квот на імпарт сыравіны і асобных прадуктаў. Па гэтай прычыне сярод усіх спажывецкіх цэн найбольшы рост назіраўся ў сектары прадуктаў харчавання.

Сярод транзітыўных краін Польшча мае адну з самых ліквідных, добра функцыянуючых фондавых бірж. Доларавы кошт каштоўных папер Варшаўскай фондавай біржы (ВФБ) павысіўся на 65% у 1996 годзе і на 23% у 1997 годзе. Сусветны фінансавы крызіс у 1998 годзе прывёў да падзення фондавага індэкса WIG на 21,3%. Эксперт Варшаўскага банка Ч.Сэм'юэл меў рацыю: «Добра функцыянуючыя капітальныя рынкі стымулююць эканамічны рост таму што праз іх адбываюцца інвестыцыі ў кампаніі, яны служаць індыкатарам правільнага выбару менеджэраў і каталізатарам паляпшэння карпаратыўнага кіравання». ВФБ з'ўляецца важным элементам у матывацыйнай сістэме ўнутраных эканамічных суб'ектаў, якія вырашаюць, колькі спажываць, а колькі зберагаць. Механізмы рэгулявання польскага фондавага рынку, патрабаванні да справаздачнасці і падачы інфармацыі не саступаюць амерыканскім па сваёй прыцягальнасці для інвестараў. У пачатку 1999 года на Варшаўскай фондавай біржы (ВФБ) каціраваліся 193 кампаніі. Рынкавая капіталізацыя ВФБ склала 19,2 млрд. USD. У 1998 годзе завяршылася прыватызацыя такіх гігантаў, як KGHM, самага буйнога вытворцы медзі ў Еўропе, і Банка Гандлёвага, найбуйнейшага ў Польшчы. Спецыялісты не выказваюць заклапочанасці адносна недахопу капіталу для размяшчэння акцый гэтых прадпрыемстваў.

У Польшчы заўважна вырасла рэальная зарплата ў прамысловасці, якая склала на пачатак 1999 года 395 USD — лепшы паказчык сярод краін Вышаградскай групы. У даным выпадку гэта адлюстраванне не столькі сілавога ціску прафсаюзаў (Чэхія, Венгрыя), колькі значнага павелічэння прадукцыйнасці працы. Атрыманне міжнароднага сертыфіката якасці ISO 9000 — ужо дастаткова распаўсюджаная з'ява для польскіх вытворцаў. Гэта датычыць прадпрыемстваў прыватнага сектара, якія адкрыта канкурыруюць з унутранымі і знешнімі суб'ектамі гаспадарання як на таварным, так і на фінансавым рынках.

Дзякуючы растучай кан'юнктуры і стымулюючаму заканадаўству Польшча стала буйнейшым у Еўропе вытворцам легкавых аўтамабіляў. Да 2000 года плануецца давесці вытворчасць аўтамабіляў (тут прадстаўлены практычна ўсе вядучыя вытворцы свету) да 1 млн. у год. Інтэнсіўна развіваецца вытворчасць мэблі. Без падтрымкі дзяржавы сектар рэалізаваў на 1,5 млрд. USD, абагнаўшы нават апекаваную ўладамі вугальную прамысловасць (1,13 млрд. USD).

Разам з тым высокія падаткі і бюракратызм утрымліваюць аб'ём шэрай эканомікі на ўзроўні 25—30% ад ВУП. Далёкі ад лібералізацыі рынак працы. Сацыяльныя выплаты работадаўцы і наёмнага рабочага складаюць амаль 50%. Ні дзяржаўныя навучальныя праграмы, ні шматлікія праграмы дапамогі розным сацыяльным групам не прывялі да рэальнага паляпшэння на рынку працы. Нерэфармаваная сельская гаспадарка не гатовая да эфектыўнай канкурэнцыі з краінамі ЕС. Праблемнымі застаюцца прадпрыемствы ПЭК, вугальнай прамысловасці, нягледзячы на пачатую ў 1998 годзе праграму рэформ данай галіны.

Польская эканоміка паспяхова вытрымала расійскі і сусветны фінансавыя крызісы. Дыверсіфікацыя гандлю (на долю Расіі прыпадае толькі 6,7% экспарту), моцны фондавы рынак, дакладная палітыка незалежнага Цэнтрабанка і заканадаўства, якое увесь час паляпшаецца, сталі прычынай таго, што многія азіяцкія капіталы апынуліся ў Польшчы.

## Венгрыя

Венгрыя з канца 80-ых гадоў была лідэрам эканамічных рэформаў, бо венгерская мадэль сацыялістычнай планавай эканомікі мела на ўвазе існаванне прыватнай уласнасці, некаторых элементаў рынкавай сістэмы цэнаўтварэння. Яе эканоміка працягвала працаваць без значных збояў, забастовак. Да 1994 года пастаянна павялічваўся аб'ём укладанняў у інвестыцыйныя тавары. Рост склаў 16% у год, пачынаючы з 1992 года. У адрозненне ад астатніх краін Вышаградскай групы праблема неплацяжоў не стала крытычнай. У сярэдзіне 80-ых адна трэцяя частка ВУП фарміравалася прыватным і змешаным вытворчымі сектарамі ў галіне будаўніцтва, у сферы паслуг і ў сельскай гаспадарцы. Перад свабоднымі выбарамі ўрад М.Немета ўзяў курс на экана-

мічныя пераўтварэнні, пачаў лібералізацыю знешняга гандлю і прывядзенне да рынкавых стандартаў сістэмы цэнаўтварэння. Урад пачаў заканадаўча пазбаўляцца перашкод на шляху развіцця прыватнага сектара, адкрываючы дарогу для замежных інвестыцый.

У сярэдзіне 90-ых гадоў пачалі праяўляцца адмоўныя наступствы макраэканамічных паўмер, непаслядоўнай палітыкі і частай змены ўрада, градуалісцкага падыходу да вырашэння праблем транзітыўнай эканомікі ў цэлым. У сакавіку 1995 года ўзнікла неабходнасць прыняцця жорсткіх фіскальных і манетарных мер, каб пазбегнуць пагаршэння і без таго складанай сітуацыі. План Бокраса прадугледжваў падаўленне попыту, скарачэнне спажывання, дзяржвыдаткаў, далейшую дэвальвацыю форынта, бо ў краіне быў вялізны дэфіцыт бюджэту і бягучага рахунку, знешні доўг у памеры 22 млрд. долараў. Гэтыя меры, у сваю чаргу, маглі павялічыць інфляцыю і прывесці да рэцэсіі, скарачэння сукупнага попыту, адтоку капіталаў. У выніку складвалася сітуацыя, калі краіна, якая мела лепшыя стартавыя магчымасці для пабудовы рынкавай эканомікі, да канца сёмага года рэформаў не выкарыстала многіх пераваг з прычыны выбару градуалісцкага падыходу і канцэптуальных схем мяккай пасадкі.

Пачынаючы з 1990 года, Венгрыя праводзіла лібералізацыю ўнутраных цэн, ініцыіравала працэс адмены большай часткі субсідый і датацый прамысловасці і сельскай гаспадарцы, закрыцця неканкурэнтаздольных прадпрыемстваў. Побач з гэтым ішоў працэс лібералізацыі знешняга гандлю і імпарту. У адрозненне ад Польшчы і Чэхіі прэм'ер-міністр Е.Антал абвясціў мэтаю рэформаў будаванне сацыяльнай рынкавай эканомікі без шокавай тэрапіі. Гэта азначала, што дзяржава не збіралася выпускаць з-пад кантролю асноўныя эканамічныя працэсы. Але для атрымання фінансавай падтрымкі МВФ неабходна было даць план паляпшэння такіх макраэканамічных паказчыкаў, як узровень інфляцыі, план абслугоўвання і пагашэння знешняга доўгу і скарачэння дэфіцыту бюджэту. Для гэтага было зусім мала толькі «касметычнага» рамонту эканомікі, і градуалізм Антала ішоў уразрэз з патрабаваннямі дэманапалізацыі эканомікі, стварэння роўных магчымасцей гаспадарання для прадпрыемстваў розных форм уласнасці. Той факт, што элементы рынку прысутнічалі ў эканоміцы краіны на працягу 20 гадоў, тлумачыць непапулярнасць ідэі шокавай тэрапіі і прыхільнасць да плаўных мер, якія выказвалі жаданне ўрада пазбегнуць сацыяльных патрасенняў і стагфляцыі. За 1990—1991 гады аб'ём прамысловай вытворчасці скараціўся на 28,4%. у 1993 годзе — яшчэ на 9,8%. З 1993 па 1995 г. адзначаецца рост гэтага паказчыка з 3,9% да 5,8%. Прычым рост вытворчасці некаторых інвестыцыйных тавараў перавысіў выпуск спажывецкіх тавараў, што паказвала рост унутранага попыту. Доля прамысловасці ў ВУП скарацілася з 27% у 1990 годзе да 26% у 1993 і 24% у 1998 годзе. Доля сектара паслуг за той самы час павялічылася з 55% да 64%. А ў сельскай гаспадарцы доля ВУП скарацілася з 13% да 5% у 1998 годзе.

Сельская гаспадарка, якая была вядучай экспартнай галіною, перажывала рэзкі спад. Венгрыя ўваходзіла ў пяцёрку вядучых краін свету па вытворчасці зерня і мяса на душу насельніцтва. Аб'ём вытворчасці данай галіны скараціўся на 55%, плошчы апрацаваных земляў — на 28%. Меў месца вялікі адток капіталу з сельскай гаспадаркі. Банкаўскія дэпазіты абяцалі ў 4 разы большы прыбытак, чым інвестыцыі ў жывёлагадоўлю і раслінаводства. Фермеры перасталі выкарыстоўваць штучныя ўгнаенні. У канцы 1991 года не было грошай нават на правядзенне сельгасработ у 1992 годзе. Страта ўсходніх рынкаў, рэзкае павелічэнне сабекошту прадукцыі, пераарыентацыя экспарту былі галоўнымі прычынамі крызісу сельскай гаспадаркі.

У 1949 годзе 56% насельніцтва было занята ў сельскай гаспадарцы. На пачатку 90-ых гэтая лічба складала ўсяго 12%. Многія кааператыўныя гаспадаркі, якія маглі б проста юрыдычна змяніць свой статус і выраблять канкурэнтную прадукцыю на еўрапейскі рынак, былі разбураны. Урад адмяніў субсідыі фермерам, што прывяло да падзення аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі на фоне датацыйнай і абароненай еўрапейскай сельскай гаспадаркі. Так агульная еўрапейская палітыка інтэрвенцыянізму ў сельскай гаспадарцы стала адной з прычын крызісу венгерскай сельскай гаспадаркі.

Наперакор прагназаванаму на 1991—1993 гады штогадоваму росту ВУП на 2—3% адзначалася падзенне данага паказчыка на 12,5 і 2% адпаведна. Эканоміка паступова губляла лепшыя стартавыя магчымасці. Змяніўшы сістэму цэнаўтварэння, скараціўшы датацыі, малая адкрытая эканоміка Венгрыі перайшла ў рэцэсійны рэжым. Хоць вялікі дэфіцыт бюджэту і высокая знешняя запазычанасць аказвалі ціск на стан грашовай сістэмы, ураду ўдалося утрымаць інфляцыю на ўзроўні 25% у 1990 і 35% у 1991 годзе. У 1998 годзе інфляцыя знізілася да 13%. Беспрацоўе з 7,4% у 1991 годзе павялічылася да 12,6% у 1993 годзе, але потым пачало паступова зніжацца да 10,3% у 1995 і 9,5% у 1998 годзе. Рэальны даход на душу насельніцтва упаў за два першыя гады на 28%. Асобныя сацыяльныя групы (у тым ліку пенсіянеры), якія складалі 22% насельніцтва, апусціліся ніжэй за рысу беднасці. Інтэнсіўна ішло размыванне сярэдняга класа. З 1989 года па 1991 год спажыванне харчовых прадуктаў скарацілася на 35%. Адначасова 40% рахункаў на электраэнергію і ваду былі не аплачаны.

У першыя чатыры гады рэформаў амаль не відазмянілася абсалютна ірацыянальная сістэма сацыяльнага забеспячэння. Падтрыманне яе ў старым выглядзе толькі паглыбіла дэфіцыт бюджэту. Спробы адстаяць сацыяльныя заваёвы мінулага — бясплатныя адукацыя, медыцына, ранні выхад на пенсію, трохгадовыя аплатныя дэкрэтныя адпачынкі, датацыйныя дзіцячыя садкі, адзенне і харчаванне — без аналізу матэрыяльных магчымасцей краіны сталі адной з галоўных прычын вяртання і нарастання крызісных з'яў.

Ураду неабходна было, перш за ўсё, спыніць спад вытворчасці, стабілізаваць фінансава-крэдытную сістэму, распрацаваць стратэгічны план скарачэння дэфіцыту бюджэту і знешняга доўгу. Прычынамі рэцэсіі былі многія фактары, якія аказваюць уплыў як на попыт, так і на прапанову. Занадта жорсткія, як і занадта мяккія меры разам з няправільным вызначэннем раўнавагавага стану эканомікі маглі прывесці да дэстабілізацыі. На пачатку рэформаў не спраўдзілася чаканне экспертаў, што адыход ад планавай цэнтралізаванай эканомікі вызваліць патэнцыял «Х-эфектыўнасці» (скарачэнне розніцы паміж рэальным і максімальным аб'ёмамі вытворчасці) і прывядзе да павелічэння, а не скарачэння аб'ёмаў вытворчасці. У выніку кампрамісу прафесіяналаў-эканамістаў і палітыкаў-папулістаў дэклараваная палітыка выконвалася далёка не заўсёды. Узважаныя фіскальныя і манетарныя меры ўжо да 1992 года прывялі да пэўных дасягненняў у галіне макраэканамічнага рэгулявання. Быў дасягнуты станоўчы знешні гандлёвы баланс, а ў галіне прыцягнення інвестыцый Венгрыя атрымала больш, чым Польшча, Чэхія і Славакія разам — больш за 7 млрд. USD. На пачатак 1999 года акумулятыўны аб'ём прамых замежных інвестыцый склаў 22,5 млрд. USD.

Пасля няўдачы палітыкі мяккага варыянта трансфармацыі ўрад зноў быў вымушаны ў 1994 годзе прымаць жорсткія фіскальныя і манетарныя меры, але ён так і не змог рэалізаваць іх, размыўшы ўсю строгасць імкнення захаваць сацыяльную раўнавагу і захаваць прынцып справядлівай платы кожнай катэгорыі насельніцтва за рэформы. Таму Венгрыі было адмоўлена ў дачы чарговай траншы ў 400 млн. долараў і доўгачаканага крэдыту ў 1,2 млрд. USD ад Сусветнага банка. З-за нежадання праводзіць інстытуцыянальныя пераўтварэнні аўтарытэт і давер да Венгрыі былі падарваныя. Нягледзячы на рэстрыкцыйную фінансавую і манетарную паўгадовую палітыку міністра фінансаў Л.Бокраса і ўпраўляючага Нацбанка Г.Сіракуі, макраэканамічныя паказчыкі сведчылі пра нарастанне крызісных з'яў. Ні дэвальвацыя, ні 10%-ны падатак на імпарт не скарацілі імпарт і не палепшылі знешні гандлёвы баланс. За першы квартал 1995 года дэфіцыт склаў 720 млн. долараў, а па выніках года перавысіў 3 млрд. ЗША, што склала 8,6% ВУП. Прычым 92% прыпадалі на абслугоўванне знешняга доўгу. Толькі працэнтныя плацяжы па ўнутранаму доўгу дасягнулі 8% ад ВУП. Нагадаем, што яшчэ ў 1993 годзе дэфіцыт бюджэту складаў «усяго» 5,7% ад ВУП, а ў 1994 — 7,5%. Урад выпускаў сярэднетэрміновыя і доўгатэрміновыя казначэйскія вэксалі і аблігацыі. Сам факт паспяховага іхнага размяшчэння гаворыць пра давер да Венгрыі, як краіны-эмісіянера, а таксама аб дыверсіфікацыі фінансавых інструментаў. Аднак умовы размяшчэння гэтых каштоўных папер указваюць на дастаткова высокую ступень рызыкі і інфляцыйныя чаканні. Прыкладам удалай пазыкі з'яўляецца выпуск у сярэдзіне 1995 года 12-гадовых казначэйскіх білетаў у Samurai банк у Токіо на суму 330 млн. долараў пад 6% гадавых.

Яшчэ адной крыніцай фінансавання стаў інфляцыйны падатак. Інфляцыя пераразмяркоўвае багацце — ад крэдытораў да ўрада. Калі ж рэальная стаўка банкаўскага працэнта па дэпазітах адмоўная, то гэта, у сваю чаргу, вядзе да пераразмеркавання багацця — ад трымальнікаў дэпазітаў да банкаў і/або пазычальнікаў. Тым самым інфляцыйны падатак выгадны краінам з вялікімі даўгамі, у тым ліку і Венгрыі. Важнай характарыстыкай эканомікі з'яўляецца абслугоўванне знешняга доўгу. У свой час Венгрыя не змагла дамовіцца са знешнімі крэдыторамі наконт спісання ці рэструктурызацыі сваёй запазычанасці. У выніку ў 1994 годзе яна выдаткавала 4,5 млрд. долараў на абслугоўванне знешняга доўгу. Гэта склала больш за 50% усяго экспарту. Валавы знешні доўг няўхільна рос: з 21,3 млрд. долараў у 1990 годзе да 30 млрд. у 1995 годзе.

Сальда бягучага рахунку хоць і дасягнула станоўчай велічыні ў 1992 годзе — 324 млн. долараў, але да 1995 года зноў стала адмоўным на 3,5 млрд. долараў. Венгрыя была вельмі актыўная ў выкарыстанні абменнага курсу для стымулявання экспарту і скарачэння дысбалансу бягучага рахунку. Краіна прытрымлівалася палітыкі «моцнага форынта» з 1991 па 1993 г. Гэта садзейнічала таксама дасягненню макраэканамічнай стабілізацыі і прыцягненню замежных інвестыцый. Але перманентная ўнутраная інфляцыя прывяла да значнай дэвальвацыі. У выніку гандлёвы баланс рэзка пагоршыўся да 1993 года. З сярэдзіны гэтага года ўрад змяніў палітыку ў адносінах да абменнага курсу і пачаў выкарыстоўваць палітыку дэвальвацыі форынта спачатку да 4, потым да 8 разоў на год. Самыя вялікія дэвальвацыі ў 8% і 9% былі зроблены ўрадам без ўзгаднення з Нацбанкам.

Падатковая сістэма Венгрыі нямногім адрозніваецца ад сістэм Польшчы або Чэхіі. Карпаратыўны падатак складае 36%, НДВ мае шкалу 0, 10, 25%. Падаходны падатак з фізічных асоб — ад 10 да 44%; падаткі на зарплату складаюць 53%, а падаходны падатак на юрыдычныя асобы — 20—44%. З 1994 года адменены падатковыя ільготы для замежных інвестараў. Але калі актывы фірмы перавышаюць 1 млн. долараў і палова абароту прыпадае на вытворчасць экалагічна чыстых прадуктаў, то карпаратыўны падатак змяншаецца на 50%. Урад пакінуў за сабою права разглядаць асобныя выпадкі вызвалення ад падаткаў. У падатковым заканадаўстве пра-

дугледжаны таксама ільготы фірмам, якія ствараюць новыя рабочыя месцы. Збіранне падаткаў і развіццё шэрай эканомікі таксама ўяўляюць сабой сур'ёзную праблему. Па даных падатковай інспекцыі до 3 млрд. долараў штогод хаваецца ад падаткаў. Гэта прыкладна 100 долараў на душу насельніцтва. Вось вынік эфектыўнай работы шэрай эканомікі, якая, як сцвярджаюць спецыялісты, адыгрывае стабілізуючую ролю і змякчае вынікі эканамічных рэформаў. У 1990 годзе 7,2% насельніцтва працавала ў шэрай эканоміцы. Сярэднегадавы аб'ём складае прыкладна 25% ВУП, або 8,5 млрд. долараў.

На першым этапе прыватызацыі амаль не было выпадкаў выкупу прадпрыемстваў працоўнымі калектывамі або ўпраўляючымі. Рэстрыкцыйная манетарная і фіскальная палітыка стварыла востры недахоп абаротных сродкаў, прывяла многія прадпрыемствы на мяжу банкруцтва. Другі этап прыватызацыі (1990—1992 гг.) можна назваць цэнтралізаваным. У дзяржаўную праграму было ўключана 366 малых і сярэдніх прадпрыемстваў, якія трэба было прадаць як па частках, так і стратэгічным інвестарам. Трэці этап (1992—1993 гг.) таксама меў свае адрозныя рысы. У 1992 годзе была ўтворана дзяржаўная холдынгавая кампанія (SHC), задачай якой быў кантроль за дзяржпрадпрыемствамі, якія не падлягалі поўнай або частковай прыватызацыі. У гэтую структуру ўвайшлі 163 арганізацыі з агульнымі актывамі 1,5 млрд. USD. Усе астатнія дзяржпрадпрыемствы былі непасрэдна падпарадкаваны Агенцтву дзяржаўнай уласнасці (State Property Agency — SPA). Утварэнне SHC зноў рабіла акцэнт на паляпшэнні кіравання і рэструктурызацыі, а не на змене формы ўласнасці. З мэтаю павелічэння ўнутранага попыту закон прадугледжваў прыярытэтнае і ільготнае атрыманне холдынгавай кампаніяй крэдытаў, дзяржпадтрымкі, стварэнне асаблівых умоў для лізінгу абсталявання і прадпрыемстваў. Адэкватныя змены ў структуры прапановы павінна была забяспечыць арганізацыйная рэструктурызацыя. Нягледзячы на дэкларатыўную роўнасць форм уласнасці, урад праводзіў палітыку штучнага выдзялення дзяржсектара, ствараючы яму ільготныя ўмовы гаспадарання, акцэнтуючы ўвагу на кароткачасовай стабілізацыі. Паўмеры не прывялі да паляпшэння работы дзяржсектара. Да 1993 года 58% дзяржпрадпрыемстваў былі стратныя. Новы закон аб банкруцтве даваў крэдыторам і даўжнікам значна больш свабоды задавальняць узаемныя прэтэнзіі. Чацвёртая частка банкруцтваў заканчвалася дамоўленасцю зацікаўленых бакоў.

Як бы часта ні дэкларавалі паступовасць венгерскіх рэформаў, змяненне адносін прыватнай і дзяржаўнай уласнасці нязменна вяло да стварэння рынкавых інстытутаў і структур. За апошнія 5 гадоў зарэгістравана каля 170000 прыватных прадпрыемстваў, якія на сёння вырабляюць каля 70% ВУП. Колькасць СП і ІП павялічылася да 14500. Доля замежных уласнікаў у венгерскіх фірмах склала 13% — яўная прыкмета зацікаўленасці міжнароднага капіталу. Аб'ём прамых замежных інвестыцый на пачатак 1999 года склаў 2220 USD на душу насельніцтва. Акрамя некалькіх буйных праектаў, такіх як інвестыцыі General Motors, General Electric, Suzuki і Opel, вялікую частку інвестыцый склалі дробныя і сярэднія праекты: 90% з іх не перавышала 130000 долараў. Дробныя інвестары не былі зацікаўлены ў рэінвеставанні прыбытку ў эканоміку Венгрыі.

Прыватызацыя ішла крайне марудна. Да 1993 года толькі 44% прадпрыемстваў былі прададзены прыватным інвестарам. Акрамя аўтамабілебудавання, не атрымалі сур'ёзнага развіцця новыя прамысловыя экспартныя галіны Венгрыі. Дзяржаўнае агенцтва па ўласнасці вызначыла спіс прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, і блакіравала пашырэнне гэтага працэсу. Сярод венгерскіх рэфарматараў пераважаў пункт гледжання, што пасля сацыялістычнай планавай эканомікі лепшай мадэллю будзе welfare state з уплывовай прысутнасцю дзяржавы ў эканоміцы. Гэтая тэарэтычная схема і адпаведная інтэрпрэтацыя канцэптуальных паняццяў і прывялі краіну да чарговага застою і нарастання крызісных з'яў у 1995 годзе. Палітыка «захавання фамільнага срэбра» ў краіне прывяла да таго, што доля замежных інвестыцый у прыватызуемых аб'ектах не перавысіла 50%, хоць у 1992 годзе было 80%. У 1994 годзе ў Венгрыі было праведзена даследаванне 201 вядучага прадпрыемства, з якіх 61 было прыватным (30% ад агульнай колькасці). Даследаванні паказалі, што прыватны сектар аптымальней выкарыстоўвае рэсурсы і мае лепшыя эканамічныя паказчыкі на адзінку інвестыцый. Паказчык «прыбытак» у прыватных фірм у пяць разоў вышэйшы, чым у дзяржпрадпрыемстваў. Аналагічныя даследаванні былі праведзены ў Польшчы і Чэхіі. Вынікі адназначна паказваюць большую эфектыўнасць прыватнай уласнасці.

У 1997 годзе Венгрыя пачала прыватызацыю вялікіх прамысловых прадпрыемстваў, да якіх адносяцца «Ікарус», «Дунафер» і «Раба». Па ацэнках спецыялістаў, даныя прадпрыемствы працуюць на мяжы сваіх магчымасцей. Аднак Агенцтва па прыватызацыі ўсё яшчэ не страціла надзеі захаваць даныя прадпрыемствы ў якасці флагманаў венгерскай прамысловасці. Былы міністр прыватызацыі Сухман вызначыў 12 буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, якія не будуць прыватызавацца. Спробы забяспечыць іх дзейнасць па-за камерцыйным кантэкстам прывялі іх да банкруцтва.

У 1992 годзе ўрад выдзеліў 14 прыярытэтных прадпрыемстваў (83000 рабочых месцаў), аб'ём продажу якіх складаў 3 млрд. USD (25% экспарту краіны). Фінансавая дапамога была ў дараванні даўгоў (700 млн. долараў), ільготным рэжыме імпарту і выплаты падаткаў (скасаванне запазычанасці мытні на 330 млн. USD), разлік з банкамі за даўгі даных прадпрыемстваў (500 млн. USD), накіраванне прыбытку ад прыватызацыі на рэструктурызацыю прадпрыемстваў (510 млн. USD). Агульны аб'ём дапамогі перавысіў 2 млрд. USD. У 1999 годзе можна падвесці прамежкавыя вынікі. Толькі 4 з 14 кампаній працуюць з пастаянным прыбыткам. 3 кампаніі былі прададзены замежным інвестарам (бюджэтныя грошы, па сутнасці, пайшлі ў кішэню іншаземцаў). 7 прадпрыемстваў сталі практычна банкрутамі. Фінансавыя ўліванні і асобы статус не дапамаглі. «Ікарус» мае чарговыя 85 млн. USD доўгу і дамагаецца чарговага яго спісання. Астатнія кампаніі проста абанкруціліся.

Палітычны фактар перашкаджае правядзенню паслядоўных сістэмных эканамічных трансфармацый. Пра гэта сведчаць і ўмовы размяшчэння доўгатэрміновых дзяржаўных пазык, і падзенне аб'ёму прамых замежных інвестыцый, і бюджэтны дэфіцыт, і запазычанасць краіны, якая перавышае 80% ад ВУП (12 млрд. USD складае дзяржаўны доўг). Аднак план Бокраса пачаў прыносіць свой плён. З 1997 года паступова зніжаецца беспрацоўе. Рабочыя месцы ствараюцца ў асноўным у сектары паслуг, але 6—7% прыпадае таксама на прамысловую вытворчасць. У 1998 годзе рост ВУП склаў 4,6%, у 1997 — 4,6%. Гэта сведчыць, што шокавая тэрапія Бокраса пачала дзейнічаць (нагадаем, што ў 1996 годзе рост ВУП склаў усяго 1,3%). Дзяржвыдаткі скараціліся з 61% ВУП у 1994 годзе да 50% у 1996 годзе і 46% у 1998 годзе.

Венгрыя ў ліку першых завяршыла прыватызацыю энергетычнага комплексу. Створана канкурэнтнае асяроддзе ў сферы тэлекамунікацый, завершана прыватызацыя банкаў і фінансавага сектара ў цэлым. Хоць аб'ём гандлю з Расіяй складае толькі 4% экспарту, многія венгерскія прадпрыемствы, асабліва ў сферы перапрацоўкі сельгаспрадукцыі, будматэрыялаў, закончылі 1998 год (год фінансавага крызісу ў Расіі) з вялікімі стратамі. Таму індэкс фондавай біржы BUX упаў у 1998 годзе на 30,2%. Капіталізацыя рынку склала на пачатак 1999 года 12,5 млрд. USD. Нявырашаным застаецца пытанне з прыватызацыяй пенсійнай сістэмы, аховы здароўя. Пры ўсёй супярэчнасці трансфармацыйнага шляху Венгрыі можна сказаць, што ліберальныя сістэмныя рэформы, а не ітэрацыйныя пераўтварэнні забяспечылі Венгрыі месца ў першай траншы пашырэння ЕС.

## Чэхія

Чэхія адной з першых стала на шлях рынкавых пераўтварэнняў і прадэманстравала, што, дакладна выконваючы сфармуляваныя алгарытмы развіцця, можна прайсці трансфармацыйны перыяд з найменшымі затратамі і стратамі, максімальна знізіўшы ціск цяжару мінуўшчыны на кожнага чалавека.

У дарэформенныя часы прыватны сектар у эканоміцы Чэхіі практычна адсутнічаў як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Гэтым яна адрознівалася ад Польшчы і Венгрыі. Да пачатку 1999 года больш за 82% уласнасці было ў прыватных руках. Аднак дасягненні шасці першых гадоў рэформаў у выглядзе збалансаванага бюджэту, нізкай інфляцыі і трохпрацэнтнага беспрацоўя адышлі ў мінулае. Міжнародныя фірмы «Standard and Poor's» і «Moody's», якія ацэньвалі патэнцыял і крэдытаздольнасць Чэхіі нават вышэй, чым у Грэцыі, сёння вымушаны зніжаць рэйтынгі.

Урад Клаўса зыходзіў з таго, што пры высокай канцэнтрацыі ўлады неабходна палітычная воля для вырашэння чыста эканамічных праблем. Бо зацягванне працэсу азначае, па-першае, павелічэнне балючых эфектаў у выглядзе гіперінфляцыі, беспрацоўя, дэфіцыту бюджэту, па-другое, адмоўнае ўздзеянне на імідж рынку ў вачах простых людзей. Са студзеня 1991 года адбылася лібералізацыя цэн, амаль поўная адмена субсідый і датацый, забяспечана канвертаванасць кроны для гандлёвых аперацый. Потым настаў час для рашучых дзеянняў у фінансавай сферы. З 1989 года па 1992 год дзяржвыдаткі адносна ВУП скараціліся на 14% — лепшы паказчык у краінах Цэнтральнай Еўропы. Гэта азначае, што дзяржава ініцыявала працэс аддзялення палітычнай улады ад эканамічнай.

У выніку гэтых мер у 1994 годзе бюджэт быў практычна бездэфіцытны. Урад не ўвязваўся ў непралічаныя, высокавыдаткоўныя праграмы, не рабіў буйных пазык у Цэнтрабанка, крэдытнай эмісіі. У выніку адмены датацый і субсідый сельскай гаспадарцы, страты рынкаў збыту і канкурэнцыі з боку заходніх дзяржаў выпуск сельгаспрадукцыі скараціўся на 50%, у той час як прамысловая вытворчасць з 24,4-працэнтнага спаду ў 1991 годзе ўзрасла амаль на 6% да 1996 года.

Другім складнікам чэшскіх рэформаў стала ажыццяўленне хуткай і эфектыўнай праграмы прыватызацыі. Як сказаў Вацлаў Клаўс: «Мэта хуткай прыватызацыі — знайсці першага, а не канчатковага ўладальніка дзяржмаёмасці». У 1991 годзе прыватны сектар складаў усяго 2% сукупнай уласнасці. Да пачатку 1999 года ён перавышае 80%. Урад, упэўнены, што любы прыватны або асацыіраваны ўласнік лепш за дзяржаву выкарыстае маёмасць, не рабіў акцэнту на маральным аспекце прыватызацыі, а сканцэнтраваўся на хутчэйшым яе ажыццяўленні.

Методыка прыватызацыі была розная. Былыя ўладальнікі атрымалі маёмасць на 4 млрд. долараў ЗША. Дзесяткі тысяч магазінаў, рэстаранаў і іншых прадпрыемстваў сферы паслуг былі прададзены з аўкцыёнаў сваім і замежным інвестарам. Чэхія абрала шырокамаштабную ваўчарную прыватызацыю. Ваўчарная прыватызацыя праходзіла дзвюма хвалямі. Першы этап закончыўся ў сярэдзіне 1993 года, у выніку чаго было перададзена ў прыватны сектар маёмасці на суму 5,8 млрд. USD. Другая хваля чэ-

кавай прыватызацыі папоўніла дзяржбюджэт яшчэ на 5,2 млрд. USD. У выніку такой схемы каля 80% грамадзян Чэхіі сталі ўладальнікамі маёмасці — трымальнікамі каштоўных папер.

Лібералізацыя не закранула некаторых найважнейшых сфер эканомікі: па-ранейшаму кантралюецца рэнта, аплата камунальных паслуг. Незалежны ад формы ўласнасці прагрэсіўны падатак стрымлівае павелічэнне зарплаты, што падобна на польскі варыянт. Урад умешваецца ў працэс санацыі прадпрыемстваў зусім не рынкавым спосабам. Многія прадпрыемствы-банкруты былі «выцягнутыя» і трымаюцца на плавуза кошт дзяржбюджэту. Хоць закон аб банкруцтве быў прыняты ў красавіку 1993 года, на працягу першага года толькі 133 пераважна дробныя фірмы трапілі пад дзеянне гэтага нарматыўнага акта. Да сакавіка 1995 года іх колькасць узрасла да 1300. Аднак для такога гіганта, як Skoda Plzen, дзяржава выдаткавала 66,2 млн. USD у выглядзе скасавання доўгу. Скептыкі сцвярджаюць, што прыватызацыя прайшла фармальна, бо ўладальнікі акцый не аказваюць ніякага ўплыву на паводзіны фірм. Іхныя маёмасныя долі мізэрныя. Аналагічная сітуацыя і ў краінах з развітой рынкавай эканомікай, ананімная ўлада ў акцыянерных таварыствах і кампаніях стала вынікам эфекту «разваднення» капіталу.

Практыка трансфармацый сведчыць, што нізкі узровень беспрацоўя можа быць вынікам адсутнасці інстытуцыянальных пераўтварэнняў або вынікам таго, што пасля правядзення рэформ беспрацоўным удалося хутка выйсці на новыя ўнутраныя рынкі рабочай сілы. Чэхія дасягнула значных поспехаў у барацьбе з беспрацоўем у першыя гады рэформаў, калі ўзровень беспрацоўя складаў 3% . Гэта было звязана з тым, што каля 300000 рабочых пенсійнага ўзросту пайшлі на пенсію або ў «шэры» рынак рабочай сілы, вякікая колькасць жанчын стала хатнімі гаспадынямі і каля 50000 чэхаў працаўладкаваліся ў Аўстрыі і Германіі. Пасля 1995 года колькасць беспрацоўных пачала расці з-за адсутнасці рэформаў буйных дзяржпрадпрыемстваў і страты імі канкурэнтаздольнасці. На пачатак 1999 года колькасць беспрацоўных склала ўжо 7%.

Рэзка знізілася прадукцыйнасць працы з-за дзяржрэгулявання рынку працы. Па меркаванню экспертаў, унутраная запазычанасць застаецца вельмі вялікай, кшталту 400 млрд. чэшскіх крон (амаль 50% ВУП). Цэнтральны банк лічыць, што гэтая запазычанасць не перавышае 150 млрд. крон. Пазітыўных змен у любым выпадку больш. Так, надзіва хутка адбылася пераарыентацыя Чэхіі на знешніх рынках. У 1989 годзе 2/3 гандлю было арыентавана на рынкі СЭУ. У 1994 годзе гэтыя краіны атрымлівалі толькі 1/5 частку чэшскага экспарту. Трэцяя частка экспарту ідзе ў Германію, больш, чым экспарт самой Германіі ў краіны Еўрапейскага Саюза. З усіх краін Цэнтральнай Еўропы расійскі крызіс у найменшай ступені адбіўся на эканоміцы Чэхіі.

Паспяховая прыватызацыя стварыла добрую базу для правядзення рэформаў і ў банкаўска-фінансавай сферы. Цэнтральны банк праводзіць незалежную палітыку і своечасова рэагуе на змены сітуацыі на рынку. З 1993 года Цэнтрабанк павялічыў свае валютныя рэзервы з 0,8 млрд. USD да 23 млрд. USD у 1995 годзе. У 1998 годзе валютныя рэзервы змяншыліся да 19 млрд. USD з-за інтэрвенцый Цэнтральнага банка. Трэба падкрэсліць высокую ступень незалежнасці галоўнага банка краіны ад органаў выканаўчай улады дзякуючы прынятаму закону аб Цэнтральным банку, што адбілася на павышэнні эфектыўнасці ўсёй манетарнай палітыкі ў краіне.

У канцы мая 1997 года В.Клаўс прыйшоў да высновы, што замежныя інвестары губляюць давер да Чэхіі. Закончыўся перыяд стабільнай чэшскай кроны. Пасля імклівага ўзлёту працэнтных ставак Цэнтрабанк Чэхіі змушаны быў выдаткаваць 3 млрд. долараў (1/5 усяго валютнага рэзерву краіны) для захавання існуючай прывязкі да нямецкай маркі і амерыканскага долара. Чэхія адмовілася ад прывязкі, і крона трапіла ў «свабоднае плаванне». Гэта адразу ж прывяло да яе падзення адносна нямецкай маркі на 12% і на 10% адносна долара ЗША. 1998 год Чэхія закончыла з 11-працэнтнай інфляцыяй.

На пачатку 1997 года Чэхія мела шасцімільярдны гандлёвы дэфіцыт і адзін з самых высокіх у свеце дэфіцытаў бягучага рахунку — 8,6% ВУП (4,5 млрд. USD). Нарастанне напружання ў манетарнай сферы суправаджалася і ростам праблем рэальнага сектара эканомікі. Большая частка чэшскай прамысловасці заставалася нерэструктураванай. Чэхія ўжо практычна згубіла сваю перавагу ў таннай рабочай сіле. Прыбытак на акцыянерны капітал склаў 3,5%, што ніжэй узроўню інфляцыі больш чым на 7%. Больш за 90% акцыянерных таварыстваў аб'явілі, што выплаты дывідэндаў па акцыях не будзе. Еўрапейскі банк развіцця і рэканструкцыі правёў аналіз 50 буйных чэшскіх прадпрыемстваў (акрамя банкаў і замежных кампаній) і даў сапраўды сумную статыстыку: даўгавыя абавязацельствы складаюць 43% кансалідаванага балансу, а для інжынерных кампаній — асновы чэшскай прамысловасці — даны паказчык складае 58%. Аб'ём працэнтных выплат па крэдытах пастаянна павялічваецца. Пры гэтым выніікі дзейнасці замежных кампаній значна лепшыя, чым мясцовых, пры захаванні нізкага ўзроўню аплаты рабочым. «Мяккая пасадка» не можа працягвацца доўга з-за рэзкага росту намінальнай зарплаты і параўнальна высокай інфляцыі. Тэмпы трансфармацыйнага выздараўлення вызначаны аб'ектыўнай эканамічнай сітуацыяй эканомікі. Яно не можа ісці хутчэй, бо створыць новыя, часам больш цяжкія праблемы, да якіх адносяцца павышэнне інфляцыі, стварэнне напружання на рынку працы, павелічэнне імпарту і змяншэнне экспарту.

Фінансавая эвалюцыя краіны характарызуецца наяўнасцю шэрага падобных праблем трансфармацыйнай эканомікі. Пры наяўнасці замежнага капіталу ёсць параўнальна вялікая «вілка» паміж стаўкамі дэпазітаў і крэдытаў. У агульным аб'ёме крэдытавання працэнт доўгатэрміновых крэдытаў малы. Дылема для ўрада ў тым, ці адпускаць хутка абменны курс, рызыкуючы атрымаць высокую інфляцыю, ці ажыццяўляць марудную дэвальвацыю. У любым выпадку канкурэнтаздольнасць чэшскай прадукцыі пацерпіць, нават калі крона стане цалкам канвертаванай валютай, што яшчэ больш узмоцніць прысутнасць заходняга капіталу. Напрыклад, за першыя восем месяцаў 1995 года імпарт вырас на 31%, а экспарт толькі на 8,6%. Гандлёвы дэфіцыт склаў за гэты перыяд 2,4 млрд. USD.

Існуюць праблемы з інвестфондамі (кантралююцца чэшскімі банкамі), якія адначасова з'яўляюцца крэдыторамі прадпрыемстваў, акцыямі якіх яны ж і валодаюць. Тут выразна прасочваецца канфлікт інтарэсаў, які можа прывесці да спекуляцыі і патэнцыяльнаму краху шэрага фінансавых інстытутаў, што дзейнічаюць на фондавай біржы. Нягледзячы на быццам бы вялікую колькасць акцый, іхная ліквіднасць вельмі нізкая, а механізм кантролю за фондавым рынкам пакуль не працуе. Капіталізацыя чэшскага рынку складае 13,7 млрд. USD. На працягу 1998 года фондавы індэкс РХ-50 упаў на 23,6%. У выніку чэкавай прыватызацыі Чэхія стварыла структуры, якія нагадваюць англа-амерыканскую сістэму, дзе важнай крыніцай капіталу для фірм з'яўляецца рынак каштоўных папер, а банкі кантралююць усе фінансавыя плыні, як у Германіі. Як сказаў Р.Зальцман, старшыня праўлення буйнейшага чэшскага «Komercni Banka»: «Мы размаўляем па-англійску, прымаем парады амерыканцаў. Але паглядзіце на карту! Мы ідзём да германскай сістэмы».

В.Клаўс у многім не змог ажыццявіць рэформы ў адпаведнасці са сваёй парадыгмай. Да сярэдзіны 1997 года набралі моцы чэшскія прафсаюзы, пастаянна патрабуючы павышэння зарплаты, падпісання жорсткіх трохбаковых пагадненняў, якія абмяжоўваюць свабоду рынку рабочай сілы. Урад ужо пайшоў на повадзе самых магутных лабістаў, павысіў зарплату рабочым чыгункі на 17,2%. Кароткачасовыя інтарэсы асобных прамысловых груп рабочых — вось што адстойваюць прафсаюзы не толькі ў Чэхіі, але і ў Венгрыі і Польшчы. Размова ўжо не ідзе пра банкруцтва і санацыі вялікай колькасці прадпрыемстваў. Па сутнасці, ніводнае буйное дзяржпрадпрыемства не было ліквідавана з пачатку рэформаў. Гэта звязана з заганнай практыкай кіравання дзяржпрадпрыемствамі праз інвестыцыйныя кампаніі, уладальнікамі якіх з'яўляюцца банкі. Чатыры буйнейшыя банкі, фармальна прыватызаваныя, па-ранейшаму знаходзяцца пад кантролем дзяржавы. Згодна аналізу кампаніі «Merrill Lynch», 35% крэдытнага партфеля банкаў вельмі рызыкоўныя, толькі трэць усіх крэдытаў выдадзена пад надзейныя гарантыі. У 1992—1994 гадах, у час правядзення масавай прыватызацыі, калі 1600 кампаній былі прададзены прыватным інвестарам, банкі адкрывалі інвестыцыйныя фонды і займаліся размяшчэннем акцый грамадзян (каля 4,2 млн. чэхаў узялі ўдзел у даным працэсе). Кіраванне прадпрыемствамі было неэфектыўнае. Структура адносін «банк — інвестфонд — прадпрыемства» стварыла ахоўны фон для дзейнасці інсайдэраў і злоўжыванняў у сферы дзеляжу найбольш прывабных маёмасных пакетаў. За 1996 год 500 млн. долараў партфельных інвестыцый было пераведзена з Чэхіі, што сведчыць аб слабой прававой абароне капіталу замежных інвестараў і нестабільнасці эканомікі ў цэлым.

Чэхія мела стабільны палітычны складнік рэформаў на працягу 7 гадоў. Аднак празмернае захапленне эвалюцыйна-ітэрацыйнымі схемамі, асабліва

**Дынаміка асноўных макраэканамічных паказчыкаў Чэхіі, Венгрыі, Польшчы 1995-1998 гадоў**

| ПАКАЗЧЫК | ЧЭХІЯ | | | | ВЕНГРЫЯ | | | | ПОЛЬШЧА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | '95 | '96 | '97 | '98 | '95 | '96 | '97 | '98 | '95 | '96 | '97 | '98 |
| Дынаміка рэальнага ВУП у % | 6,4 | 3,9 | 1,0 | –1,5 | 1,5 | 1,3 | 4,6 | 4,6 | 7,0 | 6,1 | 6,9 | 5,2 |
| Інфляцыя | 9,1 | 8,8 | 8,5 | 11,0 | 28,2 | 23,6 | 18,3 | 13,0 | 27,8 | 19,9 | 14,9 | 10,0 |
| Удзел прыватнага сектара у ВУП, % | 70 | 75 | 78 | 80 | 60 | 70 | 74 | 82 | 60 | 60 | 63 | 67 |
| Дынаміка прамысловай вытворчасці. % змен год ад году | 9,2 | 6,8 | 1,3 | –1,2 | 4.6 | 3,3 | 2,1 | 2,7 | 9,4 | 9,1 | 6,9 | 4,8 |
| Прамыя замежныя інвестыцыі, млрд. USD | 2,5 | 1,4 | 0,9 | 0,6 | 4,45 | 1,8 | 0,8 | 1,2 | 0,9 | 5,6 | 4,2 | 5,2 |
| Баланс бягучага рахунку | –2,7 | –7,6 | –6,1 | –3,1 | –5,6 | –3,7 | –2.2 | –3,4 | 4,6 | –1,0 | –3,1 | –4,5 |

ў банкаўскай сферы і інстытуцыянальных зменах буйной прамысловасці, прывяло да эскалацыі крызісных з'яў у 1997—1998 г. Чэшскі вопыт трансфармацыі яшчэ раз даказвае, што без ліберальна-сістэмных мер выйсці на доўгатэрміновую станоўчую дынаміку асноўных макраэканамічных паказчыкаў практычна немагчыма.

Вось як выглядае дынаміка развіцця асноўных макраэканамічных індыкатараў Чэхіі, Венгрыі і Польшчы (глядзі стар. 13). Сінусаідальнае ваганне параметраў сведчыць пра адсутнасць комплекснасці ў праводзімых рэформах у доўгатэрміновай парадыгме і пра супярэчнасці паміж асноўнымі дэсіжн-мейкерамі.

**Індэкс эканамічнай свабоды Чэхіі, Венгрыі, Польшчы (1993—1995 гг.)**

| Кампанент эканамічнай свабоды | Чэхія | Венгрыя | Польшча |
|---|---|---|---|
| 1. Грошы і інфляцыя | 4,6 | 1,0 | 3,6 |
| 2. Дзейнасць дзяржавы | 4,5 | 5,5 | 5,7 |
| 3. Падатковая сістэма | 3,1 | 1,9 | 3,1 |
| 4. Міжнародны гандаль і абмен | 8,1 | 3,6 | 5,6 |

Чым вышэйшы колькасны паказчык кожнага з кампанентаў, тым вышэйшая ступень эканамічнай свабоды. Даны індэкс быў распрацаваны 47 навукова-даследчымі інстытутамі свету пры ўдзеле Нобелеўскіх лаўрэатаў Мілтана Фрыдмана, Дугласа Норта і Гары Бекера пад агульным кіраўніцтвам Джэймса Гвортні, Роберта Лосана, Уолтэра Блока. Максімальны бал — 10. Ганконг, лідэр спісу, мае індэкс 9,0.

Па індэксу эканамічнай свабоды Польшча займае 57-ае месца ў свеце, Чэхія — 51-ае, Венгрыя — 85-ае. Лідэры эканамічнай трансфармацыі Еўропы значна адстаюць ад эканамічных лідэраў іншых рэгіёнаў: Новая Зеландыя — 2-ое месца, Ірландыя — 8-ае, Таіланд — 15-ае, Коста-рыка — 16-ае, Аргенціна, Чылі — 26-ае, Балівія — 31-ае, Філіпіны — 36-ае, Трынідад і Табага — 36-ае, Батсвана — 46-ае. Кожная з гэтых краін патэнцыяльна здольная прыцягнуць больш інвестараў, хутчэй пазбавіцца галечы, чым лідэры Цэнтральнай Еўропы. Лацінская Амерыка, Усходняя Азія, нават некаторыя афрыканскія краіны пацяснілі еўрапейцаў і стварылі больш прыцягальныя ўмовы для вытворчасці капіталу і свабодных аперацый з прыватнай уласнасцю.

## Славенія

З краін былой Югаславіі Славенія зрабіла акцэнт не на этнічны, нацыянальны або рэлігійны аспект, а на ўкараненне ў практыку чыста эканамічных канцэптуальных схем. Як паказвае васьмігадовы вопыт пераўтварэнняў, такі шлях і з'яўляецца найбольш падыходзячым для нацыянальнага адраджэння любой краіны.

Славенцы звялі да мінімуму нацыянальныя асаблівасці ў рэалізуемых схемах і практычна ў поўным аб'ёме выкарысталі тое, што далі прырода, геаграфічнае становішча, тое, што гістарычна было закладзена ў традыцыях, а таксама тое, да чаго ўжа не раз прыбягалі посттаталітарныя краіны — заканамернасці пераходу ад дзяржаўнай манапалістычнай эканомікі ірацыянальнага выкарыстання рэсурсаў да эканомікі аб'ектыўных законаў. Менавіта паслядоўнасць, комплекснасць хуткіх эканамічных рэформаў вывелі Славенію ў лідэры эканамічных пераўтварэнняў. У 1998 годзе часопіс «Business Central Europe» зрабіў вывад, што з 26 транзітыўных краін Славенія займае 2-ое месца пасля Чэхіі па прыцягальнасці для развіцця бізнесу. Рост ВУП за 1998 год склаў 4% пры інфляцыі 8,5%. Пры стабільнай грашовай адзінцы, развітой інфраструктуры, разумнай фіскальнай і манетарнай палітыцы Славенія з'яўляецца прыцягальным месцам для замежных інвестыцый. Даход на душу насельніцтва самы высокі з краін Цэнтральнай Еўропы — больш за 10000 USD. Дачыная арганізацыя часопіса «Economist» «Economic Intelligence Unit» лічыць, што па дзесяці асноўных эканамічных індыкатарах Славенія займае першае месца сярод краін з пераходнымі эканомікамі. Сярод гэтых фактараў — палітычная стабільнасць, высокі стартавы ўзровень эканамічнага развіцця, інфраструктура, узровень адукацыі, ступень эканамічнай адкрытасці, памер унутранага і знешняга доўгу.

Разумеючы важнасць і прыбытковасць транспартнай інфраструктуры, EBRD у красавіку 1994 года дала пазыку ў памеры 15,3 млн. долараў і 60,3 млн. нямецкіх марак на мадэрнізацыю і рамонт дарог. У краіне працуюць 9 італьянскіх фірм, якія ўдасканальваюць аўтастрады і чыгуначныя пуці. Да таго ж урад на гэтыя мэты выдзеліў 1,85 млрд. долараў. Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя тут была заснавана адна з мацнейшых тэхнічных школ Еўропы. Яна рыхтавала высокакваліфікаваных спецыялістаў для ўсяго свету. Нават падчас пяцідзесяцігадовага дыктату сацыялістаў школа мела асаблівы статус і прыярытэтнае фінансаванне. Дзякуючы асобаму статусу адукацыі славенскія рабочыя лічацца аднымі з самых высокакваліфікаваных і адукаваных у Цэнтральнай Еўропе.

Дзякуючы разумнай і ўзважанай палітыцы Мілана Куцана, тады яшчэ галавы ўрада нацыянальнага выратавання, а пазней і прэзідэнта, Славенія пачала праводзіць палітыку эканамічнай стабілізацыі. Прычым урад не разлічваў на масіраваную фінансавую і кансультацыйную дапамогу Захаду. Іва Баніч, дзяржсакратар Славеніі, сказаў: «Мы самі ажыццявілі стабілізацыю народнай гаспадаркі. Зрабілі гэта параўнальна хутка. Зараз мы заяўляем сусветнай супольнасці, што наша эканоміка працуе збалансавана, мы гатовыя супрацоўнічаць са стратэгічнымі партнёрамі».

У выніку набыцця незалежнасці Славенія страціла галоўнае, што было неабходна для малой адкрытай эканомікі, — традыцыйны рынак Югаславіі і ў многім магчымасць гандлю з іншымі рэгіёнамі. Няма такой эканомікі, якая б безбалючна перажыла страту 22-мільённага рынку збыту. Да таго ж Славенія пазбавілася доступу да таннай сыравіны Сербіі. Вайна спужала мільёны турыстаў, якія штогод прыносілі немалы прыбытак, адпачываючы на Далмацінскім узбярэжжы і ў маляўнічых Альпах. У 1991 годзе ў Славеніі было праведзена 5098000 турысцкіх начэй. Прыбытак ад турызму складаў недзе каля 1,2 млрд. долараў у год.

На прадпрыемствы сацыяльнага сектара (калектыўнай формы ўласнасці) прыпадала 75% продажаў Славеніі. Яна залежала ад імпарту паўфабрыкатаў і сыравіны. У часы Федэрацыі 2 млн. славенцаў, якія складалі 8% насельніцтва Югаславіі, стваралі 22% ВУП усёй краіны. Відавочна, што яны давалі значна больш, чым атрымлівалі. Таму большасць падтрымала ідэю незалежнасці і дыстацыявання ад балканскага рэгіёна. Многія эксперты чакалі, што змяншэнне аб'ёму гандлю з краінамі Федэрацыі не будзе такое вялікае. Аднак многія прадпрыемствы страцілі да 30% рынкаў. Харватыя, Боснія, Герцагавіна, у многім Сербія былі зачынены для славенскага імпарту. Да гонару рэфарматараў трэба адзначыць, што ўсяго за паўтара года Славенія змагла пераарыентаваць свой экспарт, павялічыўшы пастаўкі ў краіны ЕС і Вышаградскай групы на 30%. Ужо ў 1992 годзе на Германію прыпадала 27,1% славенскага экспарту, на Італію — 13,1%, Францыю — 9,3%, Аўстрыю — 5,1%, ЗША — 2,9%. Імпарт адпаведна з Германіі — 22,8%, Італіі — 13,8%, Аўстрыі — 8,2%, Францыі — 8%, ЗША — 2,7%. Астатнія 40% экспарту і імпарту прыпадала на краіны Вышаградскай групы.

Першыя гады незалежнасці былі самымі складанымі. Славенскія тэхналогіі не маглі забяспечыць пастаўкі канкурэнтаздольнай прадукцыі на рынкі Заходняй Еўропы. Па ацэнках спецыялістаў, тэхналагічнае адставанне складала прыкладна 20 гадоў. Галоўным фактарам для паспяховай канкурэнцыі мог быць толькі кошт. Падчас пачатковага, стабілізацыйнага перыяду многія тавары экспартаваліся па цэнах ніжэй за сабекошт.

Славенія пачала з прыняцця і строгага выканання стабілізацыйнай праграмы. Менавіта таму яна стала ці не адзінай краінай, якая пазбегла гіперінфляцыі. Ужо ў красавіку 1993 года месячная інфляцыя складала каля 1% у параўнанні з 53% у красавіку 1992 года. Жорсткая рэстрыкцыйная манетарная палітыка прывяла да хуткай стабілізацыі толара — нацыянальнай славенскай валюты. Літаральна за паўгода была дасягнута яе ўнутраная канверсрўнасць. Ужо з 1992 года пазначыўся рост экспарту і быў дасягнуты станоўчы гандлёвы баланс. Пры гэтым запасы замежнай валюты павялічыліся да 1,2 млрд. долараў, а знешняя запазычанасць засталася на ранейшым узроўні і нават зменшылася. На пачатак 1993 года яна складала 1,7 млрд. долараў. Дэфіцыт бюджэту ўтрымліваўся ў межах кіруемасці і дзякуючы фіскальнаму абмежаванню і змяншэнню дзяржвыдаткаў ужо ў 1993 годзе склаў 1,7% ад ВУП. Не пазбегла Славенія і спажывецкага буму, выкліканага адкрытасцю эканомікі. Адначасова назначылася тэндэнцыя змяншэння аб'ёму зберажэнняў у параўнанні з аб'ёмам даходаў. У 1994 годзе намінальныя даходы павялічыліся на 58%, а намінальныя зберажэнні — толькі на 22%/. Такім чынам, індэкс зберажэнняў упаў з 17,7% у 1992 годзе да 13,2% у 1994. Агульны ўздым эканомікі прывёў і да павелічэння рэальнай зарплаты на 16% у 1993 годзе. Да пачатку 1999 года сярэднямесячная зарплата склала 936 USD. Ні ў якой іншай пераходнай краіне не быў адзначаны такі вялікі рост гэтага паказчыка. Можна сказаць, што стабілізацыя была дасягнута за кошт прымянення артадаксальных мер: рэстрыкцыі прапановы грошай, абмежавання крэдытных рэсурсаў, лібералізацыі цэн. Абменны курс выкарыстоўваўся спачатку хутчэй як антыінфляцыйны механізм, а не як механізм кантролю знешняга балансу. Але потым палітыка абменнага курсу «кіруемае плаванне» (managed float) дазволіла паспяхова вырашаць і гэтую праблему.

Поспех масавай прыватызацыі залежыць ад таго, як вы вызначыце гэтае паняцце. Чэхія вырашыла, што гэта толькі трансферт уласнасці або спосаб рэструктурызацыі. Калі масавая прыватызацыя — гэта перадача фірм у патрэбныя рукі пры дапамозе продажу прадпрыемстваў, дык лепш за ўсё гэта атрымалася ў Германіі. Калі мэтай масавай прыватызацыі з'яўляецца прыцягненне заходняга капіталу і інвестыцый, дык тут няма роўных венграм. На гэты адзін з ключавых момантаў трансфармацыі ўплывае столькі палітычных, эканамічных і сацыяльных фактараў, што ў кожнай асобнай краіны свой шлях прыватызацыі.

Славенія не адразу вызначылася ў метадыцы і мэтах масавай прыватызацыі. Першы этап пачаўся толькі ў чэрвені 1993 года, калі быў дасягнуты доўгачаканы кампраміс паміж тымі, хто рабіў упор на перадачу прадпрыемстваў ва ўласнасць калектывам бясплатна або па заніжаных цэнах, і тымі, хто хацеў прыцягнуць унутраны і знешні капітал, прадаючы акцыі прыватызуемых прадпрыемстваў без абмежавання на аўкцыёнах, таргах для стратэгічных інвестараў. Пан Сіманецi, які ўзначальваў ва ўрадзе Агенцтва па прыватызацыі, сцвярджае, што практычна поўная адсутнасць сродкаў у бюджэце ад прыватызацыі за 1992—1993 гады была менавіта вынікам невыразна пастаўленай мэты. Вопыт Славеніі яшчэ раз пацвярджае, што поспеху дамагаецца той, хто хутка і дакладна распрацоўвае адзі-

ную методыку правядзення рэформаў і паслядоўна яе рэалізуе.

1992 год быў практычна страчаны для прыватызацыі. Толькі ў 1993 годзе пачалася рэформа малога і сярэдняга дзяржсектараў і невялікай часткі буйных дзяржпрадпрыемстваў. 400 кампаній змянілі форму ўласнасці. У 1994 годзе ўжо каля 2000 дзяржпрадпрыемстваў перайшлі ў прыватныя рукі. Двухэтапная прыватызацыя праходзіла без адкатаў і прыпынкаў. Не было перагляду раней прынятых рашэнняў. На першым этапе былі ўтвораны інвестфонды, якія дзейнічалі як пасрэднікі, а таксама адбылося размеркаванне акцый прыватызуемых прадпрыемстваў. 60% акцый было перададзена бясплатна: у кампенсацыйны фонд (10%), пенсійны фонд (10%), для наёмных рабочых (20%) і 20% для 30—50 прыватных інвестыцыйных фондаў. Астатнія 40% акцый былі або выкуплены кіраўніцтвам прадпрыемстваў і калектывамі, або напрамую былі прададзены на тэндэрнай аснове ці на аўкцыёнах. Выкуп акцый калектывамі быў вельмі частай формай змянення ўласнасці, бо большую частку прадпрыемстваў складалі так званыя сацыяльныя кампаніі, якія былі формай калектыўнай уласнасці. Да таго ж усім жадаючым былі прапанаваны ваўчары, на якія славенцы маглі набыць акцыі інвестфондаў. Пры гэтым пэўная колькасць ваўчараў была перададзена бясплатна. Гэта таксама выклікала вялікія спрэчкі сярод аўтараў праграмы прыватызацыі. Акцэнт на сацыяльны аспект прыватызацыі прывёў да зніжэння эфектыўнасці работы прадпрыемстваў, бо многія з іх планавалі сваю дзейнасць не з пазіцыі атрымання прыбытку, а з мэтаю захавання рабочых месцаў, не прымаючы ніякіх мер для тэхналагічнага абнаўлення, навучання персаналу і кіруючага звяна. Да таго ж раздробненасць капіталу з-за шматлікіх уладальнікаў акцый рабіла кіраванне прадпрыемствамі неэластычным і марудным.

На прыкладзе Славеніі найбольш паказальна відна прагрэсіўнасць прыватнай ўласнасці. Вось як выглядае дынаміка росту прыватнага сектару пры фарміраванні ВУП.

| 1990 | 1991 | 1992 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 10 | 15 | 25 | 42 | 58 | 67 | 72 | 77 | 83 |

У выніку масавай прыватызацыі гандаль і сфера паслуг цалкам сталі прыватнымі, дзяржава засталася малым уласнікам у будаўніцтве, прамысловасць на 2/3 перайшла ў прыватныя рукі. У параўнанні з Польшчай і Венгрыяй гэтыя паказчыкі значна бліжэйшыя да рэчаіснасці, бо аб'ём шэрай эканомікі намнога ніжэйшы ў Славеніі, чым у любой іншай краіне з-за збалансаванай і стымулюючай сістэмы падаткаабкладання. Падатак складае 7—10% ВУП (у Чэхіі — 18—18%, у Польшчы — каля 20%, а ў краінах СНД — значна вышэйшы). Адсутнасць НДВ і акцызаў робяць бессэнсоўным перавод тавараабароту ў «цень». Дарэчы, пад ціскам ЕС Славенія ўсё ж увяла НДВ у пачатку 1999 года ў рамках праграмы адаптацыі нацыянальнага эканамічнага заканадаўства да еўрапейскага. Прадпрымальнікам проста няма патрэбы хаваць даходы, парушаць тым самым падатковае заканадаўства, калі дзяржава паводзіць сябе цалкам цывілізавана ў адносінах да бізнесу. Адзінае, за што карае падатковая паліцыя славенскіх бізнесменаў, гэта за ўключэнне ў сабекошт ірацыянальна высокіх, часам не сутычных з дзейнасцю выдаткаў або заніжэнне аб'ёму зарплаты. Адрэгуляваны фінансавы кантроль, малы працэнт супярэчнасцей у нарматыўных актах, адназначная іх трактоўка падаткавікамі і прадпрымальнікамі толькі павышаюць эканамічную актыўнасць. Відавочна, таму ў Славеніі вельмі нізкія паказчыкі эканамічнай злачыннасці, карупцыі сярод чыноўнікаў. Супастаўляючы гэтыя даныя, відаць, кожны можа зрабіць выснову адносна сувязі прыватнай уласнасці, дзяржавы, падаткаў і карупцыі і прагрэсіўнасці той або іншай сацыя-эканамічнай мадэлі.

Правядзенне інстытуцыянальных пераўтварэнняў уласнасці не магло не адбіцца на беспрацоўі. У 1993 годзе яна дасягнула піка — 15,5%, але ўжо ў 1994 годзе ўпала да 14,4% і ўтрымліваецца на гэтым узроўні да пачатку 1999 года Прэм'ер-міністр Янез Дрноўшэк рабіў усё магчымае, каб не дапусціць нарастання сацыяльнай напружанасці, даючы найменш абароненым групам адрасную фінансавую дапамогу, бясплатнае харчаванне. Да таго ж аўтарытэт ўрада быў дастаткова высокі, бо ён не прывёў да поўнага абясцэньвання ўкладаў і зберажэнняў грамадзян. З 1991 года ВУП краіны ўпаў на 14%. Падзенне працягвалася да першага квартала 1993 года. Потым пачалося паступовае выздараўленне эканомікі, рост вытворчасці тавараў і паслуг. За 1995 год рост ВУП склаў 4,1%, у 1996 годзе — 3,1%, у 1997 годзе — 3,8%, у 1998 годзе — 4%.

Паказальная і дынаміка структуры даходаў краіны. У 1991 годзе сельская гаспадарка давала 5% ВУП, прамысловасць — 37%. Нязначную частку складала будаўніцтва, астатнюю займала сфера паслуг. У 1998 годзе доля будаўніцтва ўпала да 4%, прамысловасці — да 29%, сфера паслуг давала 59% ВУП.

У 1991 годзе ў краіне налічвалася 14541 прадпрыемства, з якіх 33 былі грамадскія (па сутнасці дзяржаўныя), 1336 — сацыяльныя прадпрыемствы (калектыўная форма ўласнасці), 125 — прыватныя, 12770 фірм з абмежаванай адказнасцю (пераважна дзяржаўны капітал), 131 акцыянернае таварыства і 59 кааператываў. Традыцыйнымі галінамі прамысловасці лічацца металургія, вытворчасць мэблі, а таксама спартыўнага абсталявання. Спад вытворчасці адбыўся ў многім з прычыны скарачэння і рэструктурызацыі гэтых галін. Яны, як і ў астатніх краінах СЭУ, былі энергаёмістыя, тэхналагічна адсталыя. высоказатратныя і перагружаныя рабочай сілай. Як толькі славенцы вызначыліся з прыярытэтамі і на поўны ход пайшла прыватызацыя, адразу павялічыўся прыток знешніх інвестыцый. Калі ў 1991 годзе ён складаў 18% ад ВУП, то ў 1995 годзе — ужо каля 31%. Прыняцце законаў, якія абараняюць інтэлектуальную ўласнасць, садзейнічала павышэнню прыцягальнасці рэспублікі для ўладальнікаў вядомых сусветных гандлёвых марак. Дарэчы, пірацкага праграмнага забеспячэння. відэапрадукцыі і кампакт-дыскаў у Славеніі значна менш, чым у іншых пераходных краінах. У выніку ўжо да 1994 года інвестыцыі на душу насельніцтва склалі каля 300 USD, другі паказчык пасля Венгрыі. А ў 1994 годзе Славенія выйшла на першае месца па прыцягненню інвестыцый, якія павялічыліся на 11%, у той час як у іншых транзітыўных краінах назіраўся спад актыўнасці замежных інвестараў. Бум актыўнасці прывёў да рэзкага павелічэння колькасці прыватных фірм. Да пачатку 1999 года іх колькасць перавысіла 100000. У 1993 годзе, самым дрэнным для славенцаў, ВУП на душу насельніцтва упаў да 5000 USD (у 1991 годзе гэты паказчык складаў 7150 USD). Але потым пачаў няўхільна расці — яшчэ адзін індыкатар таго, што былі абраны патрэбныя меры ў правядзенні стабілізацыйнай палітыкі, а таксама правільныя арыенціры ў стратэгічным развіцці краіны.

Прыярытэтнымі напрамкамі ў правядзенні эканамічнай рэформы былі макраэканамічная стабілізацыя, спыненне спаду вытворчасці, правядзенне інстытуцыянальных пераўтварэнняў з мэтаю стварэння рынкавай інфраструктуры, паглыблення падзелу працы на аснове прыватнай уласнасці. Асаблівасцю славенскага шляху з'яўляецца, відаць, аптымальнае выкарыстанне добрых стартавых умоў і адносная палітычная аднароднасць кіраўніцтва рэспублікі, што дазволіла практычна адной групе людзей планаваць і праводзіць рэформы. У астатнім набор макраэканамічных мер толькі ў дэталях адрозніваецца ад выбару Чэхіі або Польшчы. Пачалі з лібералізацыі цэн, адмены датацый стратным прадпрыемствам, дасягнення ўнутранай канверсоўнасці толара, правядзення палітыкі фіскальнай і манетарнай рэстрыкцыі. У Славеніі адсутнічаў шок пры правядзенні тэрапіі, бо праводзілася комплексная, добра прадуманая палітыка ва ўсіх напрамках: як у фінансава-банкаўскай сістэме, так і ў раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржуласнасці. Становічым момантам было тое, што ўрад не запусціў механізм бясконцых індэксацый. Гэта значна зменшыла ціск інфляцыйных чаканняў, дадало даверу да нацыянальнай валюты і прывяло да значнага прытоку ўнутраных і знешніх інвестыцый. У 1993 годзе інфляцыя складала 32,3%, а ў 1994 годзе — 18,3%. З мэтаю павелічэння канкурэнтназдольнасці сваіх тавараў была праведзена нязначная дэвальвацыя толара. Аднак існавалі немалыя адміністрацыйныя абмежаванні на прыток у краіну капіталаў, якія ў многім былі адменены прынятым у 1994 годзе законам аб замежнай валюце. Гэты нарматыўны акт прадугледжваў далейшую лібералізацыю патокаў прамых замежных інвестыцый.

Стабілізацыя толара і зніжэнне СРІ было таксама вынікам адмовы ад дзяржаўных датацый. Перш за ўсё «пацярпелі» металургічныя прадпрыемствы. На шчасце для Славеніі, аб'ём сельскагаспадарчай вытворчасці быў нязначны. Таму дзяржаўнай казне не давялося траціць мільёны долараў на датаванне і падтрымку стратнай сельскай гаспадаркі. І ў гэтым яшчэ адна пазітыўная асаблівасць славенскіх рэформаў. Што датычыць прамысловасці, то ў 1990 годзе субсідыі складалі 20% ад ВУП. Пасля лібералізацыі цэн і шэрага стабілізацыйных мер гэты паказчык зменшыўся да 3% ад ВУП. У выніку да 1994 года ўдалося збалансаваць бюджэт, не дапусціць крытычнага нарастання знешняга доўгу. Аднак не ўсё ішло так, як у эканамічных падручніках. Замест прамых трансфертаў дзяржпрадпрыемствам урад пад ціскам прамыслоўцаў даў некаторым прадпрыемствам адтэрміноўку на выплаце даўгоў, «дараваў» даўгі або працэнты па крэдытах. Адтэрміноўка плацяжоў у бюджэт — гэта форма фінансавага трансферту з бюджэту ў вытворча-камерцыйны сектар, бо рэальны кошт плацяжоў пастаянна змяншаецца з прычыны інфляцыі. У 1993—1994 гадах сума такіх адтэрміновак склала 5—10% ад ВУП. Гэта даказвае абсалютную праваты сцвярджэння Нобелеўскага лаўрэата Б'юкенена, аўтара тэорыі спажывецкага выбару: людзі, у даным выпадку чыноўнікі, надзеленыя пэўнымі паўнамоцтвамі ў рэгуляванні эканамічных працэсаў, нязменна дзейнічаюць «пад сябе», прыкрываючыся выгадамі ўсёй краіны. І тут Славеніі пашанцавала больш за іншых, бо ліберальныя дэмакраты, аўтары эканамічных рэформаў, паслядоўна праводзілі палітыку падзелу палітычнай і эканамічнай улады.

Сярод іншых форм штучнага вылучэння дзяржсектара з рынку не часта, але выкарыстоўваліся ў Славеніі, адзначым дзяржгарантыі на дачу банкаўскіх крэдытаў, нізкапрацэнтнае крэдытаванне, прыярытэтнае выдзяленне ліцэнзій, квот, выкарыстанне розных абменных курсаў пры набыцці замежнай валюты, вызваленне або льготны статут пры падаткаабкладанні. Асноўнай прэтэнзіяй ЕС да Славеніі з'яўляецца высокі пратэкцыянізм у адносінах да айчынных банкаў і фінансавай сістэмы ў цэлым. Трэба адзначыць, што гэтыя меры выкарыстоўваліся ў значна меншым аб'ёме, чым у Венгрыі ці Польшчы. Славенія першая з транзітыўных эканомік зразумела неабходнасць рэальнага выраўноўвання ўмоў гаспадарання для прадпрыемстваў усіх форм уласнасці. Менавіта таму яна і мае самы высокі даход на душу насельніцтва сярод транзітыўных краін. Менавіта таму расце эфектыўнасць выкарыстання рэсурсаў і павышаецца канкурэнтаздольнасць славенскіх тавараў. Прыхільнікі канцэпцый інтэрвенцыянізму, якія маюць устойлівую падтрымку ў іншых

краінах Вышаградскай групы, не атрымалі падтрымкі выбаршчыкаў толькі ў Славеніі.

Адной з гарантый эканамічнага росту і асабліва прыцягнення інвестыцый з'яўляецца прагрэсіўная падатковая сістэма і яе стабільнасць. Як ужо адзначалася, адрознай рысай Славеніі з'яўляецца адсутнасць падатку на дабаўленую вартасць і акцызнага падатку. Асноўныя паступленні ў бюджэт забяспечваюць падатак на прыбытак юрыдычных асоб (стаўкі ад 17 да 45%), карпаратыўны падатак па стаўцы 5—10% на тавары і 0,1—20% на паслугі, падатак на зарплату (22,45% утрымліваецца з працадаўцы і 22,95% — з наёмнага рабочага). Да таго ж існуе 15-працэнтны падатак на дывідэнды. З 1993 года законам устаноўлены пэўныя ільготы для інвестараў. Так, прыбытак, скіраваны на рэінвеставанне, не абкладаецца падаткам. Стымуюецца стварэнне новых рабочых месцаў таксама вывадам з-пад падаткаў сродкаў, прызначаных на гэтую мэту. Зыходзячы са структуры эканомікі, урад аптымальна склаў і размеркаваў сістэму падаткаў, ствараючы пры гэтым спрыяльнае асяроддзе для росту ВУП.

Ёсць яшчэ адзін важны фактар, які дазваляе Славеніі мець прагрэсіўную падатковую сістэму: паспяхова былі праведзены перамовы з замежнымі крэдыторамі. У лістападзе 1993 года 13 заходніх банкаў далі крэдыт у памеры 100 млн. доляраў ураду рэспублікі з мэтаю пакрыцця дэфіцыту бюджэту і стабілізацыі валюты тэрмінам на 7 гадоў пад 5,5% з адтэрміноўкай выплаты працэнтаў. Лета 1995 года было вельмі гарачым для краіны. 8 чэрвеня ўступіў у сілу дагавор з Еўрапейскім Саюзам аб асацыятыўным членстве. А ў Нью-Йорку заходнія крэдыторы выраашылі скасаваць славенскі доўг, што застаўся ў спадчыну ад Югаславіі, у памеры 4,65 млрд. доляраў. Згодна з падпісанай дамовай Славенія абавязана пакрыць 18% агульнай сумы доўгу, або каля 830 млн. USD. Нацбанк рэспублікі ўжо размясціў аблігацыі на суму 430 млн. USD на другасных рынках (тэрмін выплаты па аблігацыях — 2006 год па стаўцы 0,8125 вышэй за LIBOR. 2/3 з 300 заходніх банкаў-крэдытораў ухвалілі пагадненне. Нагадаем, што да пачатку перамоў банкіры патрабавалі выплату 1,2 млрд. USD. Дзякуючы ўзважанай, паслядоўнай эканамічнай палітыцы і дапамозе амерыканскага ўрада Славенія атрымала, відаць, лепшае з транзітыўных краін вырашэнне пытання знешняга доўгу. А гэта, у сваю чаргу, пазітыўна адбілася на фіскальнай палітыцы (зніжэнне падатковага цяжару) і на манетарнай палітыцы (зніжэнне працэнтных ставак як па кароткатэрміновых, так і па доўгатэрміновых крэдытах, лібералізацыя фінансавага рынку і рынку каштоўных папер). Прэм'ер-міністр Славеніі Янез Дрноўшэк з аптымізмам зазначыў, што ў 1996 годзе краіна атрымала вельмі салідны і прэстыжны рэйтынг ад»Moody's» і ад «Standard & Poor's» — АА. Аптымістычна выглядае стан бягучага рахунку. У 1995 годзе баланс складаў 210 млн. USD. За 1998 год Славенія, адна з нямногіх краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, мела збалансаваны бягучы рахунак. Пастаянна растуць валютныя рэзервы. На пачатак 1999 года яны складалі каля 4 млрд. USD. Прапанова грошай строга кантралюецца Нацбанкам і прывязана да ўзроўню інфляцыі. Да таго ж робіцца папраўка на эканамічны рост, каб не выклікаць штучнага скарачэння колькасці нацыянальнай валюты на рынку.

Умовы крэдытавання для ўнутраных спажыўцоў застаюцца адносна стабільнымі ўжо шосты год, а аб'ём рэальнага крэдытавання нават пастаянна павялічваецца. У 1994 годзе стаўка Нацбанка складала 16%, у 1995 годзе яна знізілася да 14%. На пачатку 1999 года яна складала 10%. Рынкавыя крэдытныя стаўкі былі значна вышэйшыя і складалі 16—22%. Пры гэтым працэнтныя стаўкі камерцыйных банкаў былі значна вышэйшыя за інфляцыю, г.зн. рэальная працэнтная стаўка складала 6—10%. Нявысокія тэмпы росту аб'ёмаў крэдытавання абумоўлены трыма ўзаемазвязанымі фактарамі: па-першае, высокімі працэнтнымі стаўкамі, па-другое, складанасцямі ў атрыманні лазык новымі прыватнымі структурамі, па-трэцяе, «стэрылізацыйнымі» мерамі Нацбанка ў адносінах пазычальнікаў.

**Славенія: дынаміка макраэканамічных паказчыкаў 1994-1998 гадоў**

| Індыкатар | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 |
|---|---|---|---|---|---|
| ВУП (%) | 5,3 | 4,1 | 3,1 | 3,8 | 4,0 |
| Прамысловая вытворчасць (%) | 6,4 | 2 | 1 | 1,7 | 3,6 |
| Інфляцыя (%) | 21 | 13,5 | 9,7 | 9,1 | 8,5 |
| Беспрацоўе (%) | 14,4 | 14,3 | 14,3 | 14,4 | 14,4 |
| Прамыя замежныя інвестыцыі (акум. пакзчык) у млрд. USD | 0,4 | 0,6 | 0,8 | 1,6 | 2,5 |
| Гандлёвы баланс (у % да ВУП) | –0,3 | –1 | 0,2 | 0,2 | 0,0 |
| Дэфіцыт бюджэту | –0,2 | 0 | 0,3 | –1,1 | –1,0 |





*Сямён Шарэцкі*

# Беларусам ёсць чым ганарыцца

Калі глянеш на палітычную мапу, дык сярод дзесяткаў вялікіх і малых дзяржаў нельга не прыкмеціць у геаметрычным цэнтры Еўропы адносна невялікую, але і не малую нашу краіну — Рэспубліку Беларусь. І вось яшчэ не так даўно пры выкладанні гісторыі СССР уся характарыстыка гэтай еўрапейскай краіны змяшчалася ў адну кароценькую фразу — «отсталая окраина царской России».

Цяжка сказаць, чаго ў гэтай фразе больш — няведання гісторыі ці цынічнае хлусні? Хутчэй за ўсё, першае спалучаецца з другім, у выніку чаго прыніжаўся цэлы еўрапейскі дзесяцімільённы народ.

Справа ў тым, што Беларусь — гэта не «окраина... России», а самастойная этнічная тэрыторыя, дзе карэнным насельніцтвам з'яўляюцца беларусы, якія сфарміраваліся як нацыя прыкладна ў той жа час, калі фарміраваліся і іншыя ўсходнеславянскія нацыі — вялікарусы і ўкраінцы. У кожнай з названых нацый свае карані, свая мова, свая культура, на працягу стагоддзяў была і свая дзяржаўнасць. Прабацькі беларусаў — групы крывічоў-палачан, дрыгавічоў і радзімічаў — сфарміраваліся шляхам перамешвання і своеасаблівага сімбіёзу славянскіх і балцкіх плямёнаў, у той час як вялікаруская нацыя склалася ў выніку перамешвання і сімбіёзу славянскіх і фінскіх плямёнаў, аб чым гаварыў вядомы рускі гісторык Васіль Ключэўскі.

Незалежна ад Кіеўскага і Наўгародскага княстваў узнікла і амаль увесь час была самастойнай і першая дзяржава на тэрыторыі Беларусі — Полацкае княства, якое, згодна адной са скандынаўскіх сагаў (народных гераічных сказанняў), Адмундавай сагі, ужо ў момант запрашэння ў Наўгародскую Русь варагаў (862 г.) мела сваіх мясцовых князёў.

Такім чынам, сярод беларусаў, велікарусаў і ўкраінцаў няма старэйшага народа, як і няма малодшага. І братамі іх можна назваць толькі таму, што ўсе яны адносяцца да адной сям'і народаў — усходніх славянаў. Але ж, як бачна з вышэйсказанага, роднымі братамі іх назваць ніяк нельга, бо ў фарміраванні іх (у даным выпадку беларусаў і вулікарусаў), апроч усходніх славянаў, удзельнічалі і іншыя, прычым ужо зусім розныя (неславянскія) плямёны. І таму нешто іншае, як існае вераломства, якое спатрэбілася для абгрунтавання імперскіх амбіцый, ляжыць у аснове сцвярджэнняў Лаўрэнція Абэцэдарскага і яго аднадумцаў, якія ўваскрасілі прыдуманую царскімі сатрапамі тэорыю «западного руссизма» і ўслед за апошнімі зноў сталі лічыць, што «Древняя Русь — общая родина белорусского, украинского и русского народов» і што «в Киевском государстве сложилась единая древнерусская народность». На думку гэтых аўтараў, «это единство находило свое выражение в общности языка (при наличии областных диалектов), территории, правовых норм («Русская Правда»), в общности материальной и духовной культуры (стиль архитектурных сооружений, летописи, художественная литература, черты быта и т.д.)». У межах адной старажытнарускай Кіеўскай дзяржавы нібыта пачаўся «процесс сглаживания племенных особенностей» і «старые племенные центры стали менять свой характер, превращаясь в экономические и административные центры отдельных земель». А «ремесленно-торговое население этих центров, происходившее из разных областей Руси, содействовало установлению связей внутри Киевского государства».

На самай жа справе ў кожнага з пералічаных народаў быў свой лёс, што і абумовіла з'яўленне хоць і блізкіх паміж сабою, але ўсё ж такі розных моў і культур. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што пры ўсёй трагічнасці гісторыі беларускага народа яна ў яго вельмі багатая, па-свойму арыгінальная, і хто яе добра ведае, той заўжды будзе ганарыцца тым, што ён беларус.

Па-першае, Беларусь з даўніх часоў прываблівае людзей сваімі прыродна-кліматычнымі ўмовамі, да якіх самі беларусы прывыклі і не заўсёды заўважаюць хараство сваёй зямлі. Тэрыторыя Беларусі — гэта вялізная лясістая раўніна, сярод якой на поўдні і ў цэнтры размешчаны дагледжаныя працалюбівымі людзьмі шырокія палі, а бліжэй да поўначы праглядаюць купамі сінявокія азёры. Ад сярэдзіны Беларусі ў розныя бакі разбягаюцца вузкімі і шырокімі стужкамі шматлікія рэкі. Усё гэта стварае непаўторныя пейзажы. Прынёманскія дубровы і чыстая сінь, як вочы саміх беларусаў, Нарачы, павольнае цячэнне паўнаводнай Прыпяці і кручы бе-

рагоў парожыстага Днепра, бяскрайнасць Палескай нізіны і невысокая гарыстасць Лагойскага, Мазырскага і Навагрудскага ўзвышшаў, панурасць Белавежскай пушчы і зеляніна лясоў Прыдзвіння не могуць не запасці ў душу кожнаму, хто ўбачыў іх хоць адзін раз.

Беларускія лясы, рэкі і азёры — гэта не толькі непаўторнае хараство, але і вялікае багацце, якое, у адрозненне ад карысных выкапняў, увесь час узнаўляецца і якое мы, на жаль, не заўсёды ўмеем рацыянальна выкарыстоўваць. Цяжка пералічыць колькасць і ацаніць каштоўнасць усіх пародаў дрэў, якія растуць на тэрыторыі Беларусі. А колькі ў беларускіх лясах грыбоў, ягад, дзікіх жывёлаў і птушак?! Рэкі і азёры багатыя рыбаю, ракамі і іншымі каштоўнасцямі. Ды не такія ўжо бедныя і нетры зямлі, як гэта доўгі час спрабавалі ўбіваць у галовы беларусаў усё з той жа мэтай, каб пераканаць іх у немагчымасці мець сваю самастойную дзяржаву. Калійныя солі і нафта, торф і буры вугаль, сыравіна для многіх будаўнічых матэрыялаў — вось няпоўны пералік каштоўных выкапняў, якімі багатая беларуская зямля. Багатая яна і разнастайнымі мінеральнымі водамі, што ў спалучэнні са змешанымі лясамі, рэкамі, чыстымі азёрамі і спрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі стварае добрую базу для будаўніцтва і арганізацыі лячэбных установ і дамоў адпачынку.

На тэрыторыі Беларусі, размешчанай непадалёку ад Балтыйскага мора, выпадае дастаткова шмат ападкаў (550 мм і больш), і таму тут, у адрозненне ад суседняй Украіны, па сутнасці, не бывае засухаў. У той жа час, у параўнанні з суседнімі прыбалтыйскімі краінамі, у Беларусі вясной і летам вельмі сіняе неба, нашмат больш сонца і цяпла. Сярэдняя тэмпература паветра дазваляе расці гэткім цеплалюбівым культурам, як кукуруза, пшаніца, грушы, слівы, чарэшні, памідоры, на поўдні расце нават вінаград. Працягласць цёплага перыяду дае магчымасць вырошчваць познаспелыя гатункі бульбы, якія добра захоўваюцца на працягу доўгага часу, многія віды злакаў, гародніны і атрымліваць два-тры ўкосы траў. І калі вось да гэткага ўмеранага клімату дадаць прыдатнасць беларускіх глебаў для вырошчвання культурных раслін, дык адразу становіцца зразумелым, што Беларусь можа забяспечваць сябе разнастайным паўнацэнным харчаваннем.

Па-другое, размяшчэнне ў геаметрычным цэнтры Еўропы, на перакрыжаванні шляхоў з поўначы на поўдзень (і «з Вараг у Грэкі») і з усходу на захад спрыяльна ўплывае на развіццё гандлю і рост гарадоў. Мабыць, менавіта таму лёс так распарадзіўся, што і сталіцаю Беларусі стаў горад, які размясціўся таксама амаль у яе цэнтры і мае гэткую прыгожую назву — Менск (ад слова «мяняць»).

Геаграфічнае размяшчэнне, прыродна-кліматычныя і эканамічныя ўмовы Беларусі спрыяльна адбіліся на тым, што на яе тэрыторыі ў час Вялікага Княства Літоўскага, створанага ў сярэдзіне XIII стагоддзя і ў якім пасля Полацкага княства праходзіў наступны перыяд развіцця беларускай нацыі, сталі развівацца амаль усе галіны прамысловасці, у тым ліку і металургія, сыравінай для якой з'яўлялася балотная руда. Першыя мануфактуры па вытворчасці сталі пачалі ўзнікаць на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў 20-ых гадах XVIII стагоддзя. А да канца названага стагоддзя тут працавалі ўжо буйныя дасканалыя прадпрыемствы гэткага накірунку. Сярод іх трэба назваць Маларыцкую мануфактуру (Брэсцкая вобласць), а таксама Вішнеўскую, пераўтвораную ў 1794 годзе ў Вішнеўскі металургічны камбінат (Валожынскі раён Мінскай вобласці). На першай вытвараліся катлы для вінакурства і розны гаспадарчы інвентар, на другім прадпрыемстве — сельскагаспадарчыя прыстасаванні і прадметы хатняга ўжытку. А заснаваны ў 1730 годзе Налібоцкі металургічны камбінат (Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці) стаў у сярэдзіне XIX стагоддзя ўвогуле адным з буйнейшых металургічных прадпрыемстваў Расійскай імперыі, куды ён адышоў пасля трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.). У розны час камбінат выпускаў паласавое, шынннае, чатырохграннае і круглае жалеза, а пасля і чыгуначныя рэйкі.

У тыя часы на тэрыторыі Беларусі была развітай і шкляная вытворчасць. У першай палове XVIII стагоддзя былі створаны Налібоцкая (Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці) і Урэцкая (Любанскі раён Мінскай вобласці) шкляныя мануфактуры. У гэтым жа стагоддзі былі адкрыты шкляныя прадпрыемствы і ў мястэчку Ілья (Вілейскі раён Мінскай вобласці), горадзе Крычаве (Магілёўская вобласць), вёсцы Ушакі (Чэрыкаўскі раён Магілёўскай вобласці).

Яшчэ больш старажытнай на Беларусі з'яўляецца хімічная вытворчасць. Ужо ў XV стагоддзі тут здабывалі смалу і сыры паташ Пазней сталі выраблялчць мыла, пакост, воцат, драўняны спірт і іншыя прадукты. З даўніх часоў у Беларусі выраблялі будаўнічыя матэрыялы — цэглу, кафлю, цэмент, вапну. Добра была развіта дрэваапрацоўчая прамысловасць, асабліва распіл лесу, вытворчасць запалак і фанеры. У 1723 годзе была заснавана папяровая майстэрня ў Паставах (Віцебская вобласць). З пачатку XVIII стагоддзя пачала развівацца ў Беларусі і лёгкая прамысловасць. У 30-ыя гады ў Слуцку ўжо працавала фабрыка шаўковых паясоў, у 1752 годзе у Нясвіжы (Мінская вобласць) была адкрыта суконная мануфактура. У 1760—1780 гадах пачала дзейнічаць Гродзенская каралеўская мануфактура, у тым ліку суконнае, шаўковае, палатнянае, панчошнае, гарбарнае прадпрыемствы. Стала развівацца і мукамольна-крупяная прамысловасць.

Развіццё хімічнай, лёгкай і харчовай прамысловасці, а таксама гандлю прад'яўляла свае патрабаванні ўзроўню развіцця сельскай гаспадаркі. І тут неабходна адзначыць, што, у адрозненне ад Расійскай імперыі, дзе эканамічныя адносіны на сяле не мяняліся на працягу цэлых стагоддзяў і таму вельмі адставалі ад узроўню развіцця прамысловасці, у Вялікім Княстве Літоўскім ужо напрыканцы XVI стагоддзя была праведзена аграрная рэформа, у выніку якой пры вызначэнні абавязкаў перад дзяржаваю стала ўлічвацца не толькі колькасць, але і якасць зямлі. Істотным пры правядзенні рэформы было разбурэнне абшчыны, у той час як у Расіі абшчыннае землеваладанне заставалася аж да пачатку XX стагоддзя. Ажыццяўленне аграрнай рэформы дазволіла дзяржаве павялічыць паступаючую ў казну суму падаткаў, а таксама павысіць матэрыяльную зацікаўленасць землеўладальнікаў у больш эфектыўным выкарыстанні зямлі.

Усё гэта гаворыць аб тым, што Беларусь перад уваходам у склад Расійскай імперыі была зусім не адсталай ускраінай апошняй, а на яе тэрыторыі існавала зусім іншая еўрапейская дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае, якое па ўзроўню свайго эканамічнага развіцця было нашмат вышэй не толькі за Маскоўскае княства, але нават і за Расійскую імперыю. І ў гэтым сэнсе нам, беларусам, ёсць чым ганарыцца.

А адсталай ускраінай царскай Расіі Беларусь стала пры далучэнні яе тэрыторыі да імперыі, пасля чаго былі закрыты многія металургічныя і шкляныя прадпрыемствы. Прычым гэта рабілася не толькі з-за неабходнасці замены беларускага металу і асобных відаў шкла больш якаснымі і таннымі, але і дзеля таго, каб паставіць прамысловасць Беларусі ў залежнасць ад эканомікі Расійскай імперыі. З мэтаю русіфікацыі тэрыторыі Беларусі з 1773 па 1801 гг. было раздадзена ў асноўным рускім памешчыкам 208550 сялян, якія раней былі дзяржаўнымі. Такім чынам, прычына адсталасці Беларусі ў час знаходжання яе ў Расійскай імперыі крыецца ў правядзенні царскім урадам у Беларусі шавіністычнай вялікадзяржаўнай палітыкі.

* * *

Вядома, што прыродна-кліматычныя і грамадска-гістарычныя ўмовы, у якіх жывуць і дзейнічаюць людзі, значна ўплываюць на характар народа і яго менталітэт. Менавіта таму псіхалагічны склад характару беларусаў адносна роўны і спакойны, як і адлюстраваная ў ім прырода (роўны рэльеф мясцовасці, умераны клімат, павольнае цячэнне рэк). Жыццё сярод лясоў і балот прывучыла беларуса быць у адзіноце, спарадзіла ў яго характары такую рысу, як замкнутасць. І калі да гэтага дадаць той факт, што Беларусь амаль не ведала абшчыннага ладу жыцця, дык, безумоўна, трэба пагадзіцца з прафесарам Ю. Хадыкам, які ў сваім інтэрв'ю карэспандэнту бюлетэня «Избиратель» сцвярджае, што па гістарычнай традыцыі і па сваёй ментальнасці, па спосабу свайго мыслення ў беларускага народа пераважаюць элементы індывідуалізму, а не калектывізму, хоць ён і перажыў на працягу больш як 70 гадоў панаванне камуністычнай сістэмы. Таму беларусы, асабліва ў заходніх раёнах, нашмат больш псіхалагічна падрыхтаваны да ўвядзення прыватнай уласнасці, у тым ліку і на зямлю, чым, скажам, жыхары Расійскай Федэрацыі. Больш таго, пераважна сельскі лад жыцця сфарміраваў у беларусаў асаблівую, я б сказаў, пяшчотную любоў да зямлі, якую беларускія сяляне называюць карміцількай і нават маці. З наяўнасцю сваёй уласнай зямлі беларусы заўсёды звязвалі свабоду і дабрабыт сям'і. У зямлі яны бачылі падмурак сваёй айчыны. Гэта вельмі добра паказаў народны паэт Беларусі Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч) у паэме «Новая зямля».

А дзе ж той выхад? дзе збавенне
З няволі цяжкай, з паланення?
Адзін ён ёсць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ралля;
То — наймацнейшая аснова
і жыцця першая ўмова.
Зямля не зменіць і не здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасць волі, дасць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх не кіне,
Зямля — аснова ўсёй айчыне.

Аднак, як паказвае аналіз характару і менталітэту беларусаў, ім уласціва унікальнае спалучэнне індывідуалізму з гатоўнасцю, у выпадку неабходнасці, да супольных дзеянняў. У Беларусі адвеку існавала талака (супольная праца). Беларусы заўжды гатовы прыйсці адзін аднаму на дапамогу, ці то ў выкананні сельскагаспадарчых работ, ці то ў будаўніцтве дома.

Праца, галоўным чынам на зямлі ва ўмовах умеранага клімату, дзе канчатковыя вынікі шмат у чым залежаць ад добрасумленнасці селяніна, ад своечасовага выканання сельскагаспадарчых работ на якасным узроўні, патрабавала ад беларусаў акуратнасці, абдуманасці, здольнасці да разліку і прадбачання вынікаў ад сваіх дзеянняў. І куды б жыццё ні закінула беларусаў: на Далёкі Усход, ці ў Сібір, у вобласці Цэнтральнай Расіі, ці ў Крым, — усюды іх сядзібы выгадна адрозніваюцца ад іншых дагледжанасцю і акуратнасцю.

Беларусь размешчана не толькі на скрыжаванні гандлёвых шляхоў, аб чым сказана вышэй, але і на стыку дзвюх цывілізацый: заходняй, якая знаходзіцца пад уплывам рымска-каталіцкай і вытворных з яе рэлігій (пратэстанцкай, англіканскай, кальвінісцкай, лютэранскай), і ўсходняй, вызначанай грэка-праваслаўнай рэлігіяй.

Таму тут амаль у кожным горадзе і нават мястэчку жылі і жывуць людзі шматлікіх нацыянальнасцяў (беларусы, палякі, габрэі, рускія, татары і інш.) і розных веравызнанняў (праваслаўнага, каталіцкага, уніяцкага, пратэстанцкага, мусульманскага, іудзейскага, стараверы), што выхавала ў беларускага народа гэткую каштоўную рысу, як талерантнасць. У той жа час барацьба двух накірункаў цывілізацыі на тэрыторыі Беларусі прымушала насельніцтва вагацца паміж імі (заходнім і ўсходнім). Адзначаючы гэта, даследчык Ігнат Абдзіраловіч (сапраўднае про-

звішча Канчылоўскі) у 20-ых гадах нашага стагоддзя пісаў: «Дзесяцёхвекавое ваганне сведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяны, не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго, ні да другога кірунку. Мы не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі і культуры Заходняй Еўропы».

Бясконцыя войны і частыя напады заваёўнікаў зрабілі беларусаў асцярожнымі да чужынцаў і малагаваркімі, стрыманымі. У беларусаў нават ёсць такая пагаворка: «Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе». Пры гэтым у іх увесь час змагаюцца паміж сабою два пачуцці: з аднаго боку — пакорнасць (часамі нават жах) перад сіламі прыроды, больш багатымі і сільнымі людзьмі, уладай, а з другога боку — імкненне не толькі ўмела выкарыстоўваць дары прыроды, але і пераўтвараць і ўпрыгожваць яе; нецярпімасць (нават агрэсіўнасць) да любога прыгнёту, гатоўнасць абараніць незалежнасць сваёй айчыны, пастаяць за сваю годнасць. Верш «Мужык», у якім спачатку паказана асуджанасць беларускага селяніна на непавагу да яго і цяжкую працу, народны паэт Беларусі Янка Купала (Іван Луцэвіч) заканчвае словамі, якія ўсяляюць надзею: «Я буду жыць! — бо я мужык!» — сцвярджае паэт.

Гонарам беларусаў з'яўляецца нацыянальная сімволіка — герб і сцяг. Не драпежныя звер ці птушка, поўныя імкнення авалодаць кім-небудзь або чымнебудзь, захапіць што-небудзь, якія ўзяты ў якасці гербаў некаторых былых імперый, а то і проста дзяржаў, а «Пагоня», якая мае свае вытокі ў самім жыцці беларускага народа, стала агульнадзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага, пачынаючы з канца XIII стагоддзя. Вядомы беларускі гісторык Міхась Ткачоў адзначае, што з канца XIII стагоддзя да 1410 года крыжаносцы больш за 140 разоў хадзілі вайною на Літву і Беларусь, а з 1473 па 1569 год на Украіну і Беларусь зрабілі 75 паходаў крымскія татары. Пералічаныя факты сведчаць пра тое, што самі ўмовы жыцця абавязвалі нашых продкаў увесь час знаходзіцца ў стане гатоўнасці выступіць у абарону сваёй айчыны. Аб гэтым гаворыцца ў вялікакняжацкім лісце жыхарам ад 20 лютага 1387 года: «Згодна старажытным звычаям, вайсковы паход з'яўляецца абавязкам, які выконваецца за кошт уласных магчымасцяў і сродкаў у тым выпадку, калі з'яўляецца неабходнасць пераследу ворагаў, непрыяцеляў нашых... У пераследзе ворагаў, які па-народнаму называецца пагоняю, павінны ўдзельнічаць не толькі рыцары, але і кожны мужчына, які можа насіць зброю, якога б ён ні быў паходжання і стану».

Наступным аргументам, які паўплываў на выбар у якасці герба «Пагоні», з'яўляецца ўплыў сімвалаў хрысціянскай рэлігіі, адным з якіх з'яўляецца святы Георгій (Юрый), які сядзіць на кані, з дзідаю, а пад нагамі каня ляжыць забіты змей. У старажытнай Еўропе Георгій лічыўся абаронцам рыцарства, а ў славянскіх народаў — яшчэ і абаронцам земляробаў і жывёлаводаў.

Непараўнальнай прыгажосцю вызначаецца нацыянальны сцяг беларусаў — белае палотнішча з чырвонаю гарызантальнаю паласою ў цэнтры. Белы колер з'яўляецца сімвалам радасці, дабрадзейнасці і сумлення; чырвоны — храбрасці і адвагі, вернасці Радзіме. Да гэтага трэба дадаць, што белы колер з чырвонымі стужкамі — гэта колеры Ісуса Хрыста, а значыць, сімвалы чысціні і святасці.

І толькі невуцтва і прымітывізм, імкненне новых уладаў разбурыць і знішчыць усё былое з'явіліся сапраўднай прычынай таго, што вось гэтыя нацыянальныя сімвалы беларускага народа былі заменены на незразумелыя, кімсьці прыдуманыя і герб, і сцяг. І ўжо трэба быць зусім ідыётам, каб зневажаць матчыну мову, якая для кожнага прыстойнага чалавека з'яўляецца святой, бо, як падкрэсліў вядомы беларускі паэт Францішак Багушэвіч , «яна нам ад Бога даная».

«На беларускай мове, — пісаў беларус па этнічнаму паходжанню, вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч, — якая называецца русінскай ці ліцвіна-русінскай... размаўляюць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самы багаты і самы чысты говар, ён узнік даўно і цудоўна распрацаваны. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю ў сваёй дыпламатычнай перапісцы».

І сапраўды, ужо ў 1596 годзе была выдадзена «Грамматіка словенска...», у якой яе аўтар Лаўрэнцій Зізаній (Тустаноўскі) спрабаваў абгрунтаваць ролю граматыкі як навукі, а таксама паказаць яе сувязь з рыторыкай, філасофіяй і багаслоўем. Граматыка складалася з Уводзінаў, Арфаграфіі, Правапісу, Сінтаксісу і некаторых іншых раздзелаў. На кожнае правіла ў Граматыцы Зізанія прыведзена шмат прыкладаў і практыкаванняў для замацавання вучэбнага матэрыялу.

На яшчэ больш высокую ступень выданне старабеларускай граматыкі ўзняў Мялецій Сматрыцкі (свецкае імя Максім). Аб высокім узроўні выдадзенай ім у 1619 годзе ў Іўі (Гродзенская вобласць) Граматыкі сведчыць той факт, што яна захоўвала сваё навуковае значэнне на працягу амаль 150 гадоў. «Вратами своей учености» называў Граматыку Сматрыцкага і вялікі рускі вучоны М. Ламаносаў, што гаворыць аб адсутнасці гэткага твору ў Расіі. Больш за тое, да гонару беларусаў, адзначым, што амаль усе наступныя выданні граматык у розных краінах былі ці скарачэннем, ці малазначнай перапрацоўкаю, а то і простым капіраваннем Граматыкі Сматрыцкага.

Беларуская мова выгадна адрозніваецца ад іншых сваёю мяккасцю, мілагучнасцю і пявучасцю. Цяжка знайсці хоць бы яшчэ адну мову ў свеце, на якой можна было б спытаць з такою музыкальнасцю: «Ці лілі, ці не лілі?». Яна простая у вымаўленні і напісанні. На беларускай мове "як чуецца, так і пішацца».

Паколькі на працягу доўгага часу беларуская мова была забаронена як афіцыйная і ўжывалася ў асноўным у сельскай мясцовасці, дык яна захавала сваю дзіцячую пяшчотнасць і маральнасць, не засмечана слэнгам маскультуры і дзяржаўна-імперскімі таталітарнымі ідэалагемамі.У свой час вялікі філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф і фалькларыст, акадэмік Пецярбургскай АН Яўфім Карскі падкрэсліваў, што «вартасць пісьменніка павінна вызначацца настолькі, наколькі мова яго твораў наблiжана да народнай». І ў гэтай сувязі трэба адзначыць, што беларуская літаратурная мова ніколі не адрывалася ад народнай. Менавіта таму і сама беларуская літаратура, можна сказаць, таксама з'яўляецца народнай.

* * *

Беларускі народ зрабіў свой значны ўклад у развіццё сусветнай цывілізацыі і культуры. Напрыклад, нельга ўявіць панараму духоўнага жыцця ва ўсходнеславянскіх землях у XII стагоддзі без яскравага вобраза Еўфрасінні Полацкай (сапраўднае імя Прадслава). І мы, беларусы, можам сапраўды ганарыцца тым, што менавіта наша зямлячка стала першай жанчынай гэтага перыяду, прылічанай да святых.

Еўфрасіння знаходзілася ў цэнтры жыцця ўсяго Полацкага княства, збірала вакол сябе таленавітых людзей. Таму яна стала і першай нашай жанчынай, з якой пачалася ў Беларусі традыцыя дабрачыннай і самаахвярнай дзейнасці на карысць Радзімы. Па яе заказу пабудавана вядомая царква Спаса, якая лічыцца ўзорам полацкай архітэктурнай школы. Еўфрасінні гісторыкі прыпісваюць стварэнне ў Полацку двух манастыроў і бібліятэкі Сафійскага сабора. Полацкі майстар эмальернага старажытнабеларускага мастацтва Лазар Богша стварыў у 1161 годзе для Еўфрасінні Полацкай унікальны крыж, які з'яўляецца набыткам сусветнай культуры.

Ацэньваючы жыццёвы шлях і дзейнасць Еўфрасінні Полацкай, адзін з яе землякоў, які напісаў кнігу пра яе жыццё, назваў гэтую выбітную прадстаўніцу культурна-асветніцкага руху XII стагоддзя «неўвядальнай кветкай райскага саду». А мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі параўнаў Еўфрасінню Полацкую з "запаленай свечкай, якая асвятляла цемру жыцця грамадства».

Другім яркім прадстаўніком хрысціянскага культурна-асветніцкага руху з'яўляецца Кірыла Тураўскі, які характарызуецца ў выданай да 1000-годдзя праваслаўнай царквы на Беларусі кнізе «Путь не печален» як настаўнік набожнасці, прапаведнік і багаслоў-тэограф, аскет-стоўпнік, кніжнік і паэт, аратар.

Паводле даследчыкаў, літаратурная спадчына Кірылы Тураўскага складае 8 слоў (казанняў) і каля 30 малітваў, 10 з якіх і сёння знаходзяцца сярод рукапісаў патрыяршай бібліятэкі. Творы яго адрозніваліся не толькі сваёй змястоўнасцю, але і высокім літаратурным узроўнем, цікавым выкарыстаннем метафар і эпітэтаў. А што да аратарскага мастацтва, дык пасля Іаана Златавуста (каля 350—407 гг.), епіскапа Канстанцінопальскага, у грэка-праваслаўнай царкве яму не было роўных. Таму ён па праву таксама завецца Златасловам (Златавустам), «просиявшим паче всех на Руси».

Багаты ўклад у развіццё сусветнай культуры ўнеслі беларусы і ў эпоху Адраджэння. Прычым у Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў некаторых іншых еўрапейскіх дзяржавах, яна пачалася значна раней, чым, скажам, у Расіі. І гэта з'яўляецца красамоўным сведчаннем усё таго ж факта, што Вялікае Княства Літоўскае да далучэння яго да Расійскай імперыі ў сваім развіцці значна апярэджвала апошнюю. Першыя асветнікі-гуманісты з'явіліся тут ужо ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў. Адным з гэткіх асветнікаў-гуманістаў той пары быў паэт Мікалай Гусоўскі, на думку якога, «дзяржава абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на моц цела, аб чым сведчаць як грэкі, так і рымляне. Іх магутнасць набывала найбольшы росквіт тады, калі квітнелі навукі. А як толькі пачыналі знікаць таленты, сілы іх згасалі, а з заняпаду астатніх упала іх дзяржава і усталявалася рабства. Так і ў нас».

У паэме «Песня пра зубра» М.Гусоўскі паказаў багацце і прыгажосць беларускай прыроды — «...скарбаў прыроды, старажытнай яе прыгажосці і дрэваў, якіх не кранула сякера, і траваў, па якіх не хадзілі, звяроў на лугах»... «Нашы лясы, — па меркаванню паэта, — гэта нашыя каштоўнасці і багацця крыніца».

І не інакш як светачам беларускай культуры можна назваць усходнеславянскага першадрукара, мысліцеля-гуманіста, асветніка, вучонага і пісьменніка эпохі Адраджэння Георгія (Францішка) Скарыну. Падобна М.Ламаносаву, але толькі на два стагоддзі раней, ён стаў усебакова адукаваным і вядомым вучоным — волатам еўрапейскага ўзроўню, якіх патрабавала і нараджала эпоха Адраджэння. Атрымаўшы пачатковую адукацыю ў родным Полацку і Вільні, Скарына вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта, дзе атрымаў вучоную ступень бакалаўра. У 1512 годзе Ф.Скарыне была прысуджана ў Падуанскім універсітэце ступень доктара медыцыны. Ён меў таксама ступень доктара «вольных навук».

Такім чынам, калі гаварыць словамі таго ж М. Ламаносава, які сябе называў універсітэтам, дык гэткім беларускім універсітэтам быў Скарына. І вельмі шкада, што подзвіг і роля гэтага беларускага волата да сённяшняга дня не ацэнены па праву на сваёй Радзіме, хоць менавіта ён, засвоіўшы дасягненні еўрапейскай культуры Адраджэння, надаў Адраджэнню своеасаблівы нацыянальны характар.

Не было такой грамадска-палітычнай праблемы, па якой не выказаў бы свайго меркавання яшчэ адзін беларускі асветнік эпохі Адраджэння — Сымон Будны, які сцвярджаў, што «грамадства павінна быць аб'яднана духам вучэння, а не аўтарытэтам асобы». Будны выступаў за неабходнасць развіцця нацыянальнай культуры і рэлігійнай свабоды. Увогуле ён лічыў, што толькі на аснове свабоды можа быць поўнае развіццё асобы і яе здольнасцяў. Вялікі ўклад унёс у ас-

ветніцтва ў тыя гады і Васіль Цяпінскі (Амельяновіч), якога Сымон Будны называў мілым братам.

Аб вялізным творчым патэнцыяле беларускай нацыі ў сярэднія вякі гаворыць і той факт, што пакуль «Расійская зямля» ўсё яшчэ чакала нараджэння «собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов» (М. Ламаносаў), беларус са Случчыны Ілля Капіевіч пераклаў і выдаў па даручэнню Пятра I за параўнальна кароткі тэрмін (з 1688 па 1706 г.) больш за дзесяць кніг. Ён жа склаў і выдаў першы ў Расіі падручнік па арыфметыцы, першыя слоўнікі — руска-лацінска-нямецкі і руска-лацінска-галандскі. Пераклаў і выдаў на рускай мове байкі старажытнагрэчаскага байкапісца Эзопа, вучэбныя кнігі па навігацыі. Дарэчы, дарадцам бацькі Пятра I цара Аляксея, па царкоўных справах і выхавацелем яго дзяцей быў таксама вядомы беларус — Сімяон Полацкі (Самуіл Пятроўскі-Сітніяновіч).

Неацэнны ўклад унеслі беларусы ў развіццё друкарскай справы. Першым беларусам, які заснаваў друкарню, быў Іван (Ян) Літвін. Але, на жаль, гэта было ў Лондане. У 1480 годзе Літвін выдаў індульгенцыю папы Сакста, накіраваную супраць турэцкіх заваёўнікаў. Пазней ім было надрукавана яшчэ некалькі кніг.

Першае ў гісторыі беларускае выдавецтва стварыў Ф. Скарына ў Празе, дзе ў 1517—1519 гадах пракаменціраваў і надрукаваў 23 кнігі Бібліі. Вярнуўшыся не пазней за 1521 год на радзіму, Скарына стварыў выдавецтва ў Вільні, дзе выдаў на царкоўнаславянскай мове «Малую падарожную кніжку» (каля 1522 г.).

Адным з першых друкароў і гравёраў XVI стагоддзя быў Пётр Мсціславец, які нарадзіўся ў горадзе Мсціслаўлі. Потым ён пераехаў у Маскву, дзе разам з Іванам Фёдаравым (Хведаровічам) стварыў друкарню. У 1564 годзе яны выдалі першую кнігу на царкоўна-славянскай мове «Апостал», а ў наступным годзе — «Часоўнік». Але кансерватызм рускага духавенства і перашкоды свецкіх уладаў з'явіліся тымі прычынамі, якія прымусілілі друкароў пакінуць Маскву і пераехаць у Заблудаў (цяпер Польшча), дзе яны стварылі новую друкарню. А пасля П.Мсціславец пераехаў у Вільню, а Хведаровіч, аб беларускасці якога сведчыць геральдычная трактоўка друкарскай адзнакі, паехаў у Львоў і там заснаваў першую на тэрыторыі сучаснай Украіны друкарню.

Такім чынам, менавіта дзякуючы беларусам друкарская справа пачала развівацца ў Лондане і Празе, Вільні, Маскве і на Украіне.

Асаблівым гонарам беларусаў з'яўляюцца створаныя ў XVI стагоддзі Статуты Вялікага Княства Літоўскага (1529, 1566, 1588 гг.), што сведчыць аб адносна высокім узроўні прававой навукі ў дзяржаве. Самы непасрэдны ўдзел у іх стварэнні прымалі выбітныя дзяржаўныя дзеячы — канцлеры Вялікага Княства Літоўскага Астафій Валовіч і Леў Сапега, а таксама вучоны-прававед Андрэй Волан. Менавіта дзякуючы ім у Статутах былі закладзены асновы дэмакратычнага шляху развіцця дзяржавы. Так, Леў Сапега падкрэсліваў, што «ніхто не ўтрымаў працяглы час улады, скіраванай супраць людзей». Прычым, за падтрыманне гармоніі і справядлівасці ў грамадстве асаблівая адказнасць ускладалася на вышэйшую асобу ў дзяржаве. На гэты конт той жа Волан пісаў: «І ён (маецца на ўвазе гаспадар. — **С.Ш.**) павінен не толькі ўтрымліваць сябе ад прычынення крыўды іншым, але таксама стрымліваць сквапнасць сваіх пракурораў, якія валодаюць яго маёмасцю і вядуць яго справы».

«Пахвальна тое, што маральна», — лічыў Волан. І тут зноў нельга не адзначыць, што ўсё гэта пісалася і рабілася тады, калі ў суседняй дзяржаве — Маскоўскім княстве, а пасля і Расійскай імперыі — усталёўвалася абсалютная ўлада цара (манарха). На жаль, А. Лукашэнку і яго атачэнню больш падабаецца менавіта гэткая форма кіраўніцтва, а не дэмакратычная.

Цяжка змераць уклад, які ўнеслі беларусы ў развіццё тэхнічных і гуманітарных навук. Вось толькі некалькі прыкладаў. У 1650 годзе ў сталіцы Нідэрландаў Амстэрдаме выйшла кніга «Вялікае мастацтва артылерыі». Аўтарам яе быў беларус Казімір Семяновіч. Чытаючы названую кнігу, нельга не звярнуць увагу на высокі ўзровень агульнай адукацыі аўтара, веданне ім антычнай літаратуры і сучасных яму дасягненняў сусветнай навукі. Задоўга да М.Ламаносава К. Семяновіч сфармуляваў закон аб захаванні руху. На 35 гадоў апярэдзіў выбітны беларус і нямецкага вучонага Готфрыда Вільгельма Лейбніца ў адкрыцці кінетычнай энергіі. Наогул, кніга К.Семяновіча была на працягу 1,5 стагоддзя самай грунтоўнай і аўтарытэтнай навуковай працай у Еўропе па артылерыі і піратэхніцы. Яна перакладалася на французскую, нямецкую, англійскую мовы. У перакладзе на нямецкую мову кніга мелася ў бібліятэцы Пятра I. І таму міжволі ўзнікаюць пытанні: чаму ў школьных падручніках ёсць прозвішча К.Цыялкоўскага і няма прозвішча К.Семяновіча? Чаму ў парку імя М.Горкага г.Мінска ёсць бюст першага і няма другога? І адказ тут можа быць толькі адзін: тлумачыцца гэта праўдзеннем усё той жа вялікадзяржаўнай расійскай палітыкі. Як мага хутчэй трэба паправіць гэтую недарэчнасць!

Прыкладна гэткі ж лёс напаткаў і іншых выбітных вучоных-беларусаў: Сцяпана Аскерку, які ў 1760 годзе намнога раней за французскіх сацыялістаў-утапістаў Сен-Сімона і Шарля Фур'е і англічаніна Роберта Оуэна, напісаў сваю работу па ўдасканаленню эканамічных адносін у аграрным сектары; філосафа Казіміра Нарбута, які, у адрозненне ад свайго нямецкага калегі філосафа І.Канта, стваральніка вучэння аб «рэчах у сабе», якіх нельга пазнаць, верыў, што чалавек здольны спасцігнуць ісціну, і сцвярджаў, што толькі «абмежаванасць нашых органаў пачуццяў з'яўляецца прычынаю таго, што аб шматлікіх прадметах не ведаем, што яны існуюць»; геолага-даследчыка Ігната Дамейку, імем якога названы вулканічны ланцуг гор у Андах, а таксама адкрыты ім мінерал (дамейкіт) і адзін з партовых гарадоў Чылі (Пуэрта-Дамейка); філолага-славіста, заснавальніка беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнографа і фалькларыста, акадэміка Пецярбургскай АН Яўхіма Карскага і іншых, якімі па праву можа ганарыцца беларускі народ як сваімі лепшымі сынамі.

Праславіліся беларусы і сваёй воінскай доблесцю. Шматлікія подзвігі Давыда Гарадзенскага; перамога Вялікага князя Альгерда над татарамі на рацэ Сініе Воды (1362 г.), у выніку чаго былі вызвалены і далучаны да Вялікага Княства Літоўскага Кіеўская і Полацкая землі; удзел войск Вялікага Княства Літоўскага на чале з Андрэем Полацкім і яго малодшым братам Дзмітрыем (сынамі вялікага князя Альгерда) на баку Дзмітрыя Данскога ў Кулікоўскай бітве (1380 г.); перамога над Тэўтонскім ордэнам пад Грунвальдам (1410 г.), дзе з 90 харугваў саюзных (Польшчы і ВКЛ) войск 40 харугваў былі войскі Вялікага Княства Літоўскага пад камандаваннем вялікага князя Вітаўта; перамога Канстанціна Астрожскага пад Оршай на рацэ Крапіўна (8 верасня 1514 г.) над маскоўскім войскам, у выніку чаго было прыпынена памкненне Масквы авалодаць суседнімі тэрыторыямі Вялікага Княства Літоўскага і ўзрос аўтарытэт апошняга як моцнай еўрапейскай дзяржавы, — вось старонкі нашай гераічнай гісторыі мінулага. Ды калі зазірнуць у гісторыю і савецкага перыяду, дык таксама трэба не забывацца пра тое, што першым двойчы Героем Савецкага Саюза стаў беларус Грыцавец Сяргей Іванавіч, а таксама пра той уклад, які ўнёс беларускі народ у перамогу над фашысцкай Германіяй.

Маючы вялізны творчы патэнцыял, беларускі народ ніколі не мог змірыцца з тым, што ён быў гвалтоўна пазбаўлены сваёй дзяржаўнасці, а яго Радзіма далучана да Расійскай імперыі. Пацвярджэннем таму з'яўляецца ўся гісторыя знаходжання беларусаў у складзе Расіі, якая, пачынаючы з паўстання Тадэвуша Касцюшкі і заканчваючы абвяшчэннем Беларускай Народнай Рэспублікі, з'яўляецца гісторыяй бесперапыннай барацьбы беларускага народа за сваю незалежнасць. Пры гэтым барацьба беларусаў за нацыянальную незалежнасць заўжды спалучалася з барацьбой і за дэмакратыю. Прыкладам таго з'яўляецца паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Выдаваная ім газета «Мужыцкая праўда» абвясціла лозунг, які і сёння не страціў сваёй актуальнасці: «Не народ для ўрада, а ўрад для народа». І гэтым таксама Беларусь істотна адрозніваецца ад Расіі, дзе амаль усе паўстанні супраць прыгоннага права праходзілі ў выглядзе бунтаў, якія ўзначальваліся мсціўцамі-дыктатарамі (С.Разін, Е.Пугачоў і інш.).

Сфарміраваныя на працягу шматвяковай гісторыі ўстойлівыя нацыянальныя рысы, важнейшай з якіх з'яўляецца імкненне да самаідэнтыфікацыі і незалежнасці, дапамаглі нашаму народу захаваць сваю беларускасць і ў гады бальшавізму, калі яго русіфікацыя ўзмацнілася з новай сілаю. Больш за тое, у гэтыя гады беларусы не толькі захавалі сябе як этнічна самастойны народ, але і працягвалі ствараць сваю новую літаратуру, музыку, развіваць мастацтва, навуку і г. д. Асабліва хацелася б адзначыць поспехі беларускай літаратуры, якая, пачынаючы з В.Дуніна-Марцінкевіча і Ф.Багушэвіча і заканчваючы пісьменнікамі сённяшняга дня, здзейсніла сапраўдны подзвіг і як бы запоўніла той прагал, які быў дапушчаны ёю ў XIX стагоддзі з прычыны забароны беларускай мовы як афіцыйнай. Едкая сатыра В.Дуніна-Марцінкевіча ў яго «Пінскай шляхце» па сваёй мастацкай сіле ніколькі не саступае сатыры самых вядомых у сусветнай літаратуры сатырыкаў, так як і раманс М.Багдановіча «Зорка Венера» па паэтычнасці можна паставіць у адзін шэраг з лірыкай самых вядомых класікаў у гэтым жанры. Сусветных вяршынь драматычнага майстэрства дасягнуў і Я.Купала ў сваёй «Паўлінцы», дзе арганічна спалучыліся трагічнае і камічнае, раскрыты тыповыя вобразы беларусаў. І цяжка назваць у сусветнай літаратуры хаця б яшчэ адзін твор, дзе б у вершаванай форме, з гэткай тонкасцю і паэтычнасцю было апісана вясковае жыццё, як у паэме Я..Коласа «Новая зямля». Аб высокім узроўні беларускай літаратуры сведчаць раманы К.Чорнага і творы М.Лынькова, паэзія А.Куляшова, П.Броўкі, М.Танка і А.Астрэйкі, байкі К.Крапівы і У.Корбана, паэзія сучасных нашых лаэтаў Н.Гілевіча, Р.Барадуліна і Г.Бураўкіна. А які ўклад у беларускую і сусветную літаратуру ўносіць ні з кім не параўнальны В.Быкаў, які, як ніхто ў свеце, умее паказаць паводзіны самага простага чалавека ў самых складаных абставінах! Ды колькі іх усіх — нашых выбітных пісьменнікаў і паэтаў, стварыўшых адну з багацейшых у свеце сваю сучасную нацыянальную літаратуру!

Неўміручымі з'яўляюцца сучасныя песні І.Лучанка і дасягнутая слава беларускага балета пад кіраўніцтвам В.Елізар'ева. І вечна будуць званіць званы Хатыні, не толькі нагадваючы свету аб тых ахвярах, якія панёс беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны, але і дэманструючы людзям той высокі ўзровень мастацтва, якога дасягнулі аўтары гэтага мемарыялу (архітэктары Ю.Градаў, В.Занковіч, Л.Левін і скульптар С.Селіханаў).

Усім гэтым мы, беларусы, можам і павінны па праву ганарыцца. Але ж не толькі ганарыцца, але і захоўваць ад разбурэння і зняважання невуцтвам і цемрашальствам, якіх, на жаль, Беларусь яшчэ не пазбавілася...

*Уладзімір Падгол*

# Талака

## Частка 1. ВЫНІКІ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАМПАНІІ

Прэзідэнцкая кампанія, апошні дзень якой прыйшоўся на 16 мая, прынёс шэраг вынікаў, што кардынальна змянілі сітуацыю на палітычным полі Беларусі. У трэцім нумары часопіса «Грамадзянская альтэрнатыва», аналізуючы ход прэзідэнцкай кампаніі, я спыніў свой аналіз на даце 11 мая. Менавіта ў гэты дзень давялося здаваць свой артыкул. Напрыканцы артыкула я выказаў свой прагноз. Нагадаю яго:

*«Выбары не адбудуцца».*

Выбары ў большасці рэгіёнаў Беларусі не праходзілі.

Пасля 16 мая ў камісію па выбарах Прэзідэнта да В.Ганчара паступілі пратаколы, што падпісалі старшыні і сябры абласных камісій па выбарах — выключна сябры БНФ. Па гэтых пратаколах Прэзідэнтам Беларусі абраны Пазьняк. Камісія Ганчара прыняла рашэнне абвясціць толькі лічбы прыходу выбаршчыкаў — 53,02%. А вось вынікаў галасавання па асобах камісія прыняла рашэнне не абвяшчаць *«з-за дапушчаных у ходзе выбараў парушэнняў, што паўплывалі на вынікі выбараў:*

*— стварэння дзяржаўнымі органамі перашкодаў для свабоднага ажыцьцяўлення грамадзянамі Рэспублікі Беларусь права выбраць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;*

*— адсутнасці права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання выбарчых праграмаў кандыдатаў у Прэзідэнты і вядзення агітацыі «за» ці «супраць» кандыдатаў;*

*— парушэння Закона «Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» кандыдатам у Прэзідэнты З.Пазьняком, які дапусціў распаўсюджванне несапраўдных звестак пра другога кандыдата ў Прэзідэнты і дзейнасць Цэнтральнай камісіі, а таксама публічныя заклікі да байкатавання выбараў...»*

Журналісты надрукавалі лічбы вынікаў выбараў, якія атрымалі з уласных крыніц: па Гарадзеншчыне за Пазьняка прагаласавала 458 453, за Чыгіра 127 804. Усяго на Гарадзеншчыне 850 тысяч 723 выбаршчыкі. (Газета «Пагоня» за 20 траўня 1999 года).

Газета *«Навіны» за 25 траўня* паведаміла чытачам, што крыніца ў Цэнтрвыбаркаме дала наступныя лічбы прагаласаваўшых па Беларусі: *«за Чыгіра — 1,5 мільёна, за Пазьняка — 2,3 мільёна».*

Галоўны сацыяльна-палітычны і псіхалагічны вынік выбараў 16 мая — абвастрэнне цэлага комплексу супярэчлівасцяў, якія вызначаюць ход палітычных і грамадскіх працэсаў на Беларусі:

1. Паміж суб'ектамі апазіцыі;
2. Паміж шэрагам апазіцыйных структур і Лукашэнкам;
3. Паміж Лукашэнкам і структурамі Захаду;
4. Паміж некаторымі структурамі Захаду і апазіцыяй;
5. Паміж выбаршчыкамі і апазіцыяй;
6. Паміж выбаршчыкамі і Лукашэнкам;

### 1. СУПЯРЭЧЛІВАСЦІ ЎНУТРЫ БНФ

За тыдзень за 16 мая падзеі на Беларусі развіваліся даволі драматычна. Вось як успрымаў і ацэньваў іх Зянон Пазьняк у лісце да сяброў БНФ:

*«Беларускіх выбаршчыкаў (і мяне як кандыдата) уцягваюць у безадказную, дрэнную справу.*

*Напрацягу 9-га і 10-га траўня я меў шэраг тэлефонных размоваў з кіраўнікамі раённых выбарчых камісіяў. (Апытаныя дзесяткі раёнаў па ўсіх вобласцях.) Высьветлілася, што амаль нідзе на гэты час пакватэрнае галасаваньне не праводзілася (акрамя Дзятлаўскага і Лунінецкага раёнаў). Амаль нідзе няма сьпісаў выбаршчыкаў. Нідзе не створаныя ўчастковыя выбарчыя камісіі. Толькі ў палове гэтых раёнаў ёсьць скрыні для галасаваньня і меньш чым у палове раёнаў ёсьць выбарчыя бюлетэні. (На 20-ць апытаных мной раёнаў — 18 тысячаў бюлетэняў.) Такая сітуацыя, фактычна, па ўсёй Беларусі. Па краіне рэальна прагаласавала на гэты час — самае вялікае — некалькі дзесяткаў выбаршчыкаў. Тым часам 10-га траўня кіраўніцтва ЦВК афіцыйна паведаміла, што за чатыры дні па Беларусі прагаласавала 1 мільён 379 тысячаў выбаршчыкаў (16 адсоткаў ад усіх выбаршчыкаў). Тое, што такая колькасьць прагаласаваных у прынцыпе немагчымая (гэта рэальна немагчыма зрабіць), даказваецца нават простым арыфметычным дзеяньнем, калі падзяліць гэтыя 1 мільён 379 тысячаў на рэальную колькасьць выбарчых групаў, што ходзяць па кватэрах. Участковых камісіяў практычна не існуе, а на аснове тэрытарыяльных камісіяў (1621 чалавек у 172-х камісіях — можна стварыць ня болей, чым 810 групаў (па два чалавекі), а фактычна — значна меньш. У рэальнасьці працуе невялікая колькасьць людзей.*

*11 траўня лічбу прагаласаваных павялічылі да 1 мільёна 752 тысячаў (22,8 адсоткаў). 12-га траўня — да 2-х мільёнаў 494 тысячаў прагаласаваных (32 адсоткі).*

*Ідзе нахабная фальсіфікацыя галасаваньня з боку кіраўніцтва ЦВК. Даюцца фантастычна павялічаныя, неіснуючыя лічбы прагаласаваных. Адбываецца цынічны, адкрыты падман грамадзкасьці і крымінальнае парушэньне Закону.*

*Тыя сябры Народнага Фронту, якія ўвайшлі ў выбарныя камісіі, выказваюць абурэньне дзеяньнямі кіраўніцтва ЦВК і адмаўляюцца працаваць у камісіях.*

*Я неаднаразова пісьмова зьвяртаўся да кіраўніцтва ЦВК з патрабаваньнем выконваць Канстытуцыйнае заканадаўства аб выбарах. Аднак мае звароты не былі прынятыя пад увагу. Цяпер выбары ператварылі ў крымінальную авантуру, у ашуканства, зь якім можна параўнаць толькі лукашэнкаўскія «рэфэрэндумы».*

*Усё гэта непрымальна для мяне як кандыдата ў Прэзідэнты і палітыка. Гэтым сьведчу, што адмаўляюся ад удзелу ў сумніўных выбарах і здымаю сваю кандыдатуру.*

*Зьвяртаюся са шчырай падзякай да выбаршчыкаў, што хацелі галасаваць за мяне, да ўсіх сяброў Народнага Фронту, што зьбіралі подпісы за маю кандыдатуру.*

*Я б ня раіў беларускім выбаршчыкам удзельнічаць у гэтым ненармальным галасаваньні, каб ня стаць ахвярамі і саўдзельнікамі ашуканства.*

*Сябрам Беларускага Народнага Фронту прапаную спыніць усялякі ўдзел у выбарчай кампаніі, дзе творыцца крымінал.*

*13 траўня 1999 года. Зянон ПАЗЬНЯК.»*

Напярэдадні 16 мая Пазьняк зняў сваю кандыдатуру і заклікаў сяброў БНФ, якія ўваходзілі ў выбарчыя камісіі, пакінуць камісіі. Ён матываваў сваё рашэнне фальсіфікацыяй вынікаў выбараў, якая вядзецца з боку сяброў Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта і нежаданнем мець дачыненне да амаральнай справы. Частка фронтаўцаў пакінула камісіі, частка пайшла на выбары і пачала іх праводзіць.

15 і 16 мая некаторыя лідэры БНФ, у прыватнасці С.Папкоў і А.Крыварот, правялі ва ўправе БНФ прэс-канферэнцыі, на якіх давялі да журналістаў інфармацыю пра тыя рэгіёны, у якіх сябры камісіі па выбарах склалі свае паўнамоцтвы.

Зянон Пазьняк даў наступную ацэнку непаслухмяным сябрам БНФ:

*«На сёньняшні дзень свой фактычны выбар на карысьць сумніўнага прагматызму засьведчылі тры сябры фронту: спсп. Ю.Хадыка, В.Сіўчык і В.Вячорка. Прытым спадар Хадыка пасьля майго зьняцьця сваёй кандыдатуры і выхаду фронтаўцаў з выбарчых камісіяў адкрыта заклікаў па радыё «Свабода» працягваць незаконнае галасаваньне тых фронтаўцаў, якія яшчэ засталіся ў камісіях... Маральны выбар, які адбыўся і яшчэ ідзе, прывядзе к аздараўленьню Народнага Фронту... Асобы, якія не захацелі прытрымлівацца маральнай пазіцыі Фронту, адыйдуць і пакінуць ягоныя шэрагі»* (23 мая).

Свой адказ Хадыка зрабіў на Сойме БНФ 30 мая:

*«Вы павінны зразумець, што палітыка самаізаляцыі, самазадавальнення ёсць злачынства супраць Беларусі, супраць яе нацыянальных інтарэсаў...*

*З.Пазьняк усё ж рэалізаваў «рашучы» варыянт С.Папкова. Рэалізаваў з парушэннем Статута Фронту, ігнаруючы рашэнні Сойма, І дамовы што з Чыгіром, што з Ганчаром. Праігнараваўшы ахвяры, прынесеныя сябрамі БНФ, і скампраметаваўшы сам БНФ... Усё гэта выстройваецца ў пэўную невыпадковую лінію. Лінію, скіраваную на задавальненне перабольшаных амбіцый адной асобы. Лінію, якая вядзе да ізаляцыі Фронту, кампраметацыі ідэі Адраджэння, расколу БНФ...» (Даклад на Сойме 30.05 1999. Надрукавана ў газеце «Пагоня» 10 чэрвеня.)*

Такім чынам, для шараговых апалітычных выбаршчыкаў выбары 16 мая не пакінулі ў свядомасці ніякага адбітку.

Для большасці выбаршчыкаў апазіцыйнага электарату выбары прынеслі расчараванне, бо яны чакалі магчымасці прагаласаваць, чакалі чалавека з «палітычным ружжом» — урнай для галасавання, але не дачакаліся.

Для мізэрнай часткі апазіцыйнага электарату, якому ўдалося ўкінуць бюлетэнь у урну, задавальненне цягнулася нядоўга. Калі Пазьняк зняў сваю кандыдатуру і заклікаў сяброў БНФ выходзіць з камісій, у прагаласаваўшых таксама наступіла расчараванне.

У агульным стане свядомасці большай часткі выбаршчыкаў адбыліся істотныя трансфармацыі:

1. Ад чакання цуду — замены Лукашэнкі на новага суперкуміра, да роспачы, што моцнай альтэрнатывы Лукашэнку не паўстала.

2. Ад надзеі, што 16 мая Беларусь убачыць масавае галасаванне — своеасаблівую дэманстрацыю пратэсту супраць дыктатарскага рэжыму, — да краху надзеі. Толькі ў асобных рэгіёнах насельніцтва магло пабачыць участкі, урны, выбары. 16 мая ў боль-

шасці рэгіёнаў Беларусі аказалася дэманстрацыяй бяссілля апазіцыі. Былі нават такія выбаршчыкі, што мэтанакіравана шукалі, дзе прагаласаваць, і не знаходзілі.

3. Ад веры, што апазіцыйныя лідэры здольны прадэманстраваць насельніцтву свае лепшыя якасці, — да разбурэння гэтай веры. Так прыхільнікі Пазьняка замест змагара з Лукашэнкам убачылі змагара з жанчынамі (жонкай Чыгіра і Ванінай, якіх Пазьняк патрабаваў выключыць з БНФ за тое, што яны — сябры БНФ — апынуліся ў камандзе Чыгіра), а таксама ўбачылі ў Пазьняку змагара з журналістамі, Ганчаром, унутранай апазіцыяй, Чыгіром, Масквой. З усімі, акрамя Лукашэнкі.

Прыхільнікі Чыгіра спадзяваліся на шырокі народны пратэст супраць рэжымук і за вызваленне Чыгіра з турмы, але яго не адбылося. На пікеты ў падтрымку Чыгіра з патрабаваннем ягонага вызвалення выходзіла, як правіла, некалькі чалавек. А на дэманстрацыю ў падтрымку Чыгіра ў Мінску выйшла каля 800 чалавек.

Прыхільнікі Чыгіра спадзяваліся, што Масква зробіць з Чыгіра Шарамета-2. Напачатку так і было. ТБ Расіі вельмі шырока паказала старт прэзідэнцкай кампаніі на Беларусі. Але потым пра выбары абсалютна нічога не казалі па ТБ Расіі.

Гэтыя чаканні яскрава праявіліся ў пытанні, якое задалі З.Пазьняку сябры Таварыства беларускай мовы ў Літве:

Сябра Рады ТБК: *Нас зьдзівіла, што Вы адмовіліся ад удзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах. У нас былі надзеі, што выбары выкрышталізуюць сытуацыю ў Беларусі, былі надзеі на, можа, ня поўную перамогу, але на сілу, якая ўмацуе дэмакратаў, якія ідуць на гэтае мерапрыемства. Чаму з гэтага ўсяго атрымаўся нейкі пшык, плюс Лукашэнку?(Газета «Наша ніва» за 14 чэрвеня.)*

Пасля 16 мая ўсе суб'екты палітычнага поля Беларусі далі свае ацэнкі вынікаў выбараў.

Пашыраны Прэзідыум Вярхоўнага Савета 13-га склікання даў станоўчую ацэнку выбарам.

Зянон Пазьняк ацаніў выбары як *«разбуральную выбарчую правакацыю»* (Тэкст выступу З.Пазьняка на Сойме 30 траўня 1999 г.)

Сойм БНФ па сённяшні дзень аналізуе праект Звароту да дэпутатаў Вярхоўнага Савета, у якім так ацэньваюцца асобныя этапы выбараў:

*«... колькасць подпісаў за М.Чыгіра была меншая за неабходныя 100 000»;*

*«...мы выказваем недавер Старшыні ЦВК сп.Ганчару В.І і заяўляем, што палітычная падтрымка далейшых дзеянняў Вярхоўнага Савета шмат у чым будзе залежаць ад яго прынцыповай пазіцыі ў дачыненні да арганізатараў выбараў 16 траўня».*

Тэкст гэтага звароту не быў прыняты на Сойме БНФ 30-га траўня таму, што абмеркаванне вынікаў выбараў зацягнулася і да моманту прыняцця рашэння кворуму ўжо не было. Прыняцце Звароту было перанесена на чарговы, чэрвеньскі Сойм і зноў такі не адбылося, што сведчыць аб падзеле галасоў у БНФ наконт ацэнкі выбараў.

За некалькі дзён да 30-га мая выконваючы абавязкі старшыні БНФ Л.Баршчэўскі і адзін з лідэраў БНФ, А.Крываротт, накіравалі да Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шарэцкага ліст з просьбаю даць сваю персанальную ацэнку выбарам і дзейнасці Ганчара.

У адказ Шарэцкі запрасіў на перамовы Баршчэўскага і Хадыку і спрабаваў пераканаць іх у неабходнасці палітычнай падтрымкі Ганчара таму, што Ганчар мае вялікія грошы.

Унутры БНФ пасля выбараў 16 мая сябры фронту падзяліліся на два супрацьлеглыя лагеры. Адны цалкам падтрымалі Пазьняка, его выхад з кампаніі і ацэнкі ўнутранай апазіцыі. Другія ацанілі дзеянні Пазьняка як антыдэмакратычныя і разбуральныя. Менавіта гэтая думка выказвалася ў шэрагу выступаў на Сойме БНФ 30 мая. Высновы аб антыдэмакратычнасці Пазьняка рабіліся на той падставе, што напярэдадні 16 мая Сойм збіраўся два разы і абодва разы прымаў рашэнне ўдзельнічаць у выбарах да канца. А Пазьняк, у парушэнне рашэнняў Сойму, заклікаў сяброў БНФ выходзіць з выбарчых камісій. Па Статуту БНФ паміж з'ездамі вышэйшым кіраўнічым органам БНФ ёсць Сойм, а не Старшыня БНФ. Такім чынам, Пазьняк мог здымаць сваю кандыдатуру як асоба і тут прэтэнзіяў да яго быць не магло, але заклікаць да выхаду з камісіяў, насуперак рашэнням Сойму, не меў права. Пазьняк на гэта пярэчыў, што ён не заклікаў, а прапаноўваў. Але гэты аргумент апанентамі Пазьняка ў разлік не прымаўся. Разбуральная дзейнасць Пазьняка, па меркаванню ягоных апанентаў, мела сваім зместам вынішчэнне выбарчых камісій, якія ствараліся на пяць год. Пасля выхаду сяброў БНФ з камісіяў палітычныя сапернікі БНФ атрымалі шанс увесці сваіх людзей у камісіі па выбарах на месцах.

Пазьняк пасля выбараў даў ацэнкі і пэўным асобам:

*«...асобныя намесьнікі старшыні паводзілі сябе безадказна і суб'ектыўна. Паводзіны спадара Хадыкі (публічнае ахайваньне старшыні Фронту, заклік да ўдзелу ў крымінальным галасаваньні, калі ўсё ўжо было зразумела і вырашана і г.д.) не пакідаюць ў мяне ніякіх сумненьняў аб яго далейшым знаходжаньні на пасадзе намесьніка старшыні БНФ. (Тут пярэйдзеныя ўжо ўсе межы.)» (27—30 траўня 1999 года.)*

Падрабязныя тлумачэнні сваім дзеянням падчас перадвыбарнай кампаніі Пазьняк даў у гутарцы з сябрамі Таварыства беларускай мовы ў Літве, стэнаграму якой надрукавала газета «Наша ніва»:

*«...ў апошні час я атрымаў дакладныя агентурныя зьвесткі з гэтай жа арганізацыі, так сказаць, КГБ, што Ганчар у Латвіі быў завербаван ФСБ. Яны прыехалі да мяне ў Варшаву...*

*Сытуацыя з выбарамі атрымалася такая. Усе важныя палітычныя акцыі, якія на Беларусі робяцца ўжо даўно, кантралююцца Масквою. Паколькі Масква ажыцьцявіла акупацыю, яна паставіла свайго прэзыдэнта, і агенты ФСБ займаюць усе ключавыя пазыцыі ў Беларусі. Міністры: Латыпаў, скажам, замежныя справы, ключавая пазыцыя, палкоўнік КГБ, ён жа не скрывае гэтага, яны адкрыта праводзяць палітыку. Старшыня КГБ, намесьнік старшыні КГБ, кіраўнік савета бяспеки Шэйман і ўсе члены безапаснасьці, літаральна ўсе — гэта супрацоўнікі ФСБ і грамадзяне Расеі. Праводзіцца такая акупацыйная палітыка.*

*Так вот, галоўная задача Масквы — зьнішчыць Народны Фронт. Таму што калі яны захапілі ўладу ў Беларусі, то павінны захапіць і апазыцыю. Яны павінны стварыць сваю апазыцыю. Гэта правіла спэцслужбаў. Таму ўсе гэтыя чатыры гады ішоў іхны накат, маўляў, аб'ядніць усех дэмакратаў, зрабіць каардынацыйны савет... Гэта ўсё элементарныя нормы працы спэцслужбаў. Ствараюць мноства маргінальных партый і вялікі рух стараюцца ўцягнуць у агульную працу з імі. А працы ніякой ня можа быць, таму што за імі нічога не стаіць. Але ў іх ёсьць галасы. Яны ўводзяць гэтае балота, пачынаецца валтузьня і вялікая арганізацыя зьнішчаецца, расьцягваецца. Так была створана Хартыя. Але Хартыю ўжо раскусілі даўно, яна ўжо нічога ня значыць. Але яна была створана з мэтай расьцягнуць Народны Фронт, замяніць яго другой, больш шырокай канцэптуальна як бы ідэяй і выкарыстаць гэта на выбарах. Гэта мы праваліл ўсё.*

**(ДАВЕДКА: ХАРТЫЯ-97 створана з удзелам лідэраў БНФ Вячоркі, Баршчэскага і інш. Тэкст Хартыі пісаў В.Вячорка, адным з першых падпісаўшых тэкст Хартыі быў Васіль Быкаў. Хартыя атрымала прэмію (20 000 даляраў) ад Урада ЗША.)**

*Прыехалі ў Варшаву Чыгір, Ганчар...*

*Калі б мы правалі гэтыя выбары, калі б, скажам, разьведка не спрацавала, то мы мелі б рэальнага прэзыдэнта. Мы б у гэтым годзе Лукашэнку выгналі. Але яны гэта ўсё палажылі на нуль. Іхная задача была выкарыстаць Народны Фронт, бо няма іншай арганізацыі, самі б яны не арганізавалі. Чаму яны да мяне прыехалі? Таму што трэба, каб я пайшоў, і трэба каб Фронт падключыць, безь мяне немагчыма. Яны адкрыта пра гэта сказалі.*

*Далей. Яны на Фронце выяжджаюць. Паколькі кіраўнік ЦВК Ганчар, у любой сытуацыі яны робяць прэзыдэнтам Чыгіра. Як толькі Чыгір робіцца прэзыдэнтам, яму ствараюць інфармацыйнае поле адпаведнае, міжнароднае і пад яго пачынаюць падцягваць усю гэту маргінальную крыклівую масу, усіх гэтых там Шушкевічаў, Шарэцкіх ды ўсю гэтую дзіўную публіку, за якімі нічога не стаіць. І аб'яўляецца, што вот утварылася апазыцыя, вот ужо ёсьць прэзыдэнт.*

**(ДАВЕДКА: За месяц да 16 мая дыпламаты заходніх краін паведамілі лідэрам апазіцыі, што не прызнаюць абранага прэзідэнта, бо ў выбарах не ўдзельнічае Лукашэнка і, адпаведна, ягоны электарат.)**

*Для Лукашэнкі гэта чыгунная баба, якую вешаюць у яго над галавой, і кажуць: ты вот хочаш інцегрыравацца, дык вот ты давай сначала пусьці нашыя банкі туда (а ён жа не пускае!) рускія, ты дай нам нафтавы комплекс, ты заплаці нам за газ і гэтак далей. А не будзеш — так мы Чыгіра зробім прэзыдэнтам. А Лукашэнка хоча быць прэзыдэнтам Расеі. Яны яму прапануюць губэрнатара. Ня хочаш — так мы Чыгіра зробім прэзыдэнтам. Яны вешаюць на яго Чыгіра як альтэрнатыву, і гэта рэальна. Чыгір ужо як бы ёсьць прэзыдэнт. Калі б Лукашэнка пайшоў на канфлікт з Масквой, яны б яго маглі элемэнтарна прыбраць. Лукашэнка гэта разумеў, барацьба была вельмі складаная. І вот калі яны прыехалі, яны прапанавалі, каб я ўдзельнічаў у выбарах, таму што трэба падцягнуць наш электарат, трэба зьняць Лукашэнку, Чыгір расколе вэртыкаль, мы паднімем усё грамадзтва. Канешне ж вы, Зянон Станіслававіч, ня можаце ў этай сытуацыі выйграць, но для обшчэга дзела і так далей...*

*— Вам сказалі, што вы ня можаце?..*

*— Ну а як жа, хо! Як быццам бы я ня знаю, што іменна я і выграў бы ў этай сытуацыі.*

**(ДАВЕДКА: Нягледзячы на тое, што Пазьняк зняў сваю кандыдатуру, ён набраў у неафіцыйным падліку больш галасоў, чым Чыгір).**

*Некатарыя рэчы, якія я вам расказваю, ніхто ня ведае, акрамя маіх бліжэйшых памочнікаў і намесьнікаў.*

*Значыць, я да іх прыезду падрыхтаваў мэмарандум «Аб дзяржаўнай пазыцыі» і прапанаваў Чыгіру падпісаць. Там сказана, што мы абодва выступаем на выбары, абодва працуем на адну справу і прытрымліваемся такіх дзяржаўных пазыцый: беларуская мова дзяржаўная, незалежная Беларусь і поўнае адкіданьне палітыкі інтэграцыі з Расеяй, ніякіх саюзаў, ніякіх узаемаадносін з Расеяй не павінна быць, толькі на аснове міжнароднага права і сваіх нацыянальных інтарэсаў, дагаварныя, так сказаць. Так як Літва, так як Эстонія. Чыгір, як чалавек не палітычны, а даволі просты, адразу сказаў: ну, калі я гэта падпішу, то мне Масква ўсе грошы абрэжа. І пасьля гэтага я яму задаю пытаньне: а хто вас фінансіруе. Ну, есьць із Масквы саатветствуюшчые кругі, фірмы. Ганчар кажа: із Канады бізнесмэны...»*

Так вот якая сытуацыя. Мы ня можам, бо нам грошы абрэжуць. Мне ўсё ясна. Хаця я ўжо ведаў. Я ведаў, што грошы ідуць ад ВПК і зьвязаных зь ім

фірмаў і ад Беразоўскага. Агульная сума 6 млн. даляраў. Гэта каласальная сума. Ельцын страціў на свае выбары 2 мільёны, здаецца. Далей. Гэту справу курыравала ФСБ і ў канцы ланцужка стаяў Прымакоў.

Цяпер другое. Яны прапанавалі — Фронту трэба ісьці на выбары. Што нам рабіць? Нельга ісьці на выбары, таму што нас аблапошаць у любой сытуацыі, і што б мы ні рабілі, — іхныя ключавыя пазыцыі і яны робяць прэзыдэнтам Чыгіра. На нашай сьпіне, бо мы ж будзем працаваць. Фронт будзе пахаць, а прэзыдэнтам зробяць Чыгіра... Што нам рабіць? Гэта ня проста так, гэта вырашаецца лёс Беларусі і Фронта, і мой асабісты. І трэба прымаць рашэньне.

Першы варыянт — не ідзём на выбары. Што адбываецца? Мы Канстытуцыю 94 года прызнаём, мы ўвесь час казалі, што павінны быць прэзыдэнцкія выбары, што канчаецца яго (Лукашэнкі) тэрмін, а тут паяўляецца Чыгір, і мы кажам — мы не ідзём на выбары. Чым мы растлумачым народу? Што Ганчар — ФСБ, што Чыгіра Масква падтрымлівае? Яны скажуць — чэпуха, вы с ума сашлі! Мы сябе асьмяём, мы нічога не дакажам. Нават калі б дакументы былі — гэта ня доказ. Гэта каму, электарату дакажаш?..

Гэта так гуляў Кебіч, які асноўны свой факт прыпас на самы пасьледак. Калі Лукашэнка абакраў сьцюардэсу. Мы ўсе ведалі ў парламенце, што так было. Таму што ў яго параноя, праяўленьне фізычнай хваробы, ён сапраўды абакраў гэтую сьцюардэсу. І Кебіч прыпас гэты факт на апошнія дні. Думаў, што зваліць Лукашэнку. І ён гэты факт выдаў. А ўсе пашлі за Лукашэнку, бо ніхто не паверыў. Ёсьць правілы, якія дзейнічаюць у псыхалёгіі.

Так вот, калі б мы не пайшлі на выбары, мы нічым бы гэтага не растлумачылі. У нас не было аргумэнтаў, а супраць нас аргумэнтаў было дастаткова: Фронт струсіў, іспугаліся Чыгіра, ані не хацят участваваць, ані прэдацелі... І пайшла вална такая (у нас жа няма сваіх сродкаў масавай інфармацыі). І вось пад гэту хвалю яны пачынаюць выбары. Чыгір і гэтак далей. І ім вялікія сродкі. Яны ідуць у фронтаўскія структуры, нас не пытаюць. Ідуць у Смаргонь і кажуць — рэбята, памажыце, нам трэба сваліць этава Лукашэнку, мы гатовы, нам памагаюць таварышчы із Масквы, долар за подпісь даём. Частка Фронту сказала б, што Пазьняк здурэў, бо трэба ісьці Лукашэнку заваліць, а частка... Раскалолі б Фронт, перакупілі б і зьнішчылі. І гэта сур'ёзнае дзела. Значыць, на выбары трэба ісьці. Я павінен быў ісьці на выбары і я цудоўна ведаў, што нас растопчуць, толькі потым. Мяне зьнішчаць, толькі потым.»

**(Газета «Наша ніва» за 14 чэрвеня).**

Уяўленне пра выбары, іх схаваныя матывы, прычыны Пазьняк атрымліваў ад розных асобаў. Паўплываў на фарміраванне ўяўлення Пазьняка пра выбары і Г.Карпенка. Калі 10 студзеня Вярхоўны Савет 13-га склікання прымаў рашэнне аб прызначэнні выбараў, Г.Карпенка выступіў з прапановай выбары прызначыць і больш нічога не рабіць. Маўляў, няхай улада нешта робіць ці не робіць, а ў залежнасці ад дзейнасці ўлады і прымаць рашэнні. Карпенка быў упэўнены, што Ганчар будзе з выбараў рабіць фальсіфікацыю. Таму ён на тым пасяджэнні галасаваў супраць прызначэння Ганчара на пасаду Старшыні Цэнтральнай Камісіі па выбарах прэзідэнта.

У размовах са мной, матывуючы сваё галасаванне супраць Ганчара, Карпенка сцвярджаў, што план выбараў пад кіраўніцтвам Ганчара мае маскоўскія карані. Усё, што расказаў пра маскоўскі след выбараў Пазьняк, неаднаразова расказваў мне Карпенка. На пачатку выбараў праездам праз Варшаву Карпенка сустракаўся з Пазьняком і доўга абмяркоўваў з ім сітуацыю па выбарах...

Ужо тады Генадзь Дзмітрыевіч ведаў, што пры канцы чэрвеня ў Варшаве мусіў быць праведзены саміт міністраў замежных спраў для абмеркавання сітуацыі на Беларусі. На яго былі запрошаны ён — Г.Карпенка і А.Саннікаў. На гэтай сустрэчы планавалася асобная сустрэча Карпенкі з Мадлен Олбрайт. А на ліпень планаваліся сустрэчы Карпенкі ў ЗША з кіраўнікамі гэтай краіны. Плануемыя кантакты з амерыканцамі сведчылі, што ў ЗША хочуць бліжэй пазнаёміцца з Карпенкам і, мажліва, бачаць у ім адзінага сур"ёзнага саперніка Лукашэнкі.

Карпенка пры гэтым задаваў пытанні: *«Ці ёсць мне сэнс уваходзіць у выбары 16 мая? Ці не замараюся я? Ці не змарную дарэмна сродкі і сілы?»* Акрамя гэтага.ю Карпенка ў каторы раз упэўнена сцвярджаў, што дзеянні апазіцыі, Захаду і Масквы прымусяць Лукашэнку бліжэй да восені пайсці на выбары Прэзідэнта. Генадзь Дзмітрыевіч быў упэўнены, што яму дастаткова некалькі разоў выступіць па тэлебачанні, і пры кантролі міжнародных назіральнікаў ён выйграе выбары ў Лукашэнкі.

Думаю, што Г.Карпенка дзейнічаў так, каб зберагчы і структуры БНФ, і добрае стаўленне да сябе Пазьняка да сваіх выбараў.... Карпенка падчас гэтых выбараў не адзін раз казаў лідэрам БНФ, што Пазьняк — адзіны адданы нацыянальнай ідэі палітык, які даказаў сваю адданасць на справе, і што ён, Карпенка, гатовы ўвайсці у каманду Пазьняка...

Як вядома, усе выбары кантралявалі сябры БНФ і палітычныя лідэры — кіраўнікамі абласных выбарчых камісій былі старшыні абласных арганізацый БНФ. Яны падводзілі вынікі выбараў па абласцях і перадавалі пратаколы, падпісаныя некалькімі членамі камісій — сябрамі БНФ, В.Ганчару. Калі б Ганчар пайшоў на фальсіфікацыю на карысць Чыгіра, тады б БНФ мог гэтыя пратаколы (копіі) прад'явіць журналістам і дыпламатам. Менавіта гэтыя пратаколы і сталі прычынай маральна-псіхалагічнай вайны Пазьняка і лідэраў абласных арганізацый БНФ.

На пачатку чэрвеня кіраўнікі абласных радаў БНФ сустрэліся ў Варшаве з Пазьняком для аналізу і ацэнкі вынікаў выбараў. Вынікі размовы пасля спрэчак набылі наступныя сустрэчныя формулы-прапановы:

Пазьняк:

*«Калі не згодны са мной, пішыце заявы і пакідайце Фронт».*

Кіраўнікі абласных радаў:

*«Толькі пасля Вас...»*

БНФ пасля выбараў апынуўся ў стане «клінча». Гэта калі баксёры стаяць сашчапіўшы рукі і ніводзін не можа нанесці ўдар. БНФ раскалоўся на дзве часткі. Адна хоча пераабраць Пазьняка (яе ўзначальваюць Ю.Хадыка, В.Вячорка, Бяляцкі, Івашкевіч), другая частка хоча ачысціць фронт ад «здраднікаў» (З.Пазьняк, С.Папкоў, А.Крыварот, Ю.Беленькі) . Зараз барацьба ідзе за падбор дэлегатаў на з'езд БНФ, які пачнецца 31 ліпеня. Абодва бакі вядуць падбор дэлегатаў. Яны прысутнічаюць як пры непасрэдным вылучэнні кандыдатаў на з'езд у радах, так і на абласных канферэнцыях БНФ, на якіх ацэньваецца зробленае і выпрацоўваюцца планы на будучыню. Пры напружанай унутранай барацьбе абодва бакі не надаюць вялікай увагі 21 ліпеня, калі скончыцца тэрмін пяцігадовага прэзідэнцтва Лукашэнкі і Шарэцкі стане па Канстытуцыі-94 выконваючым абавязкі прэзідэнта Беларусі.

Падчас абласных канферэнцый БНФ, на якіх абіраюцца кіраўнікі абласных арганізацый, перад удзельнікамі выступаюць прадстаўнікі абедзвюх груповак. Папкоў пры гэтым транслюе просьбу Пазьняка выключыць з БНФ кіраўнікоў абласных арганізацый, якія падпісалі пратаколы па выбарах, бо яны, такім чынам, па меркаванню Пазьняка — Папкова, далі мажлівасць Ганчару шантажыраваць Фронт фальшывымі пратаколамі.

Хадыка, Вячорка, Івашкевіч, Бяляцкі выступаюць з крытычных пазіцый наконт дзеянняў Пазьняка.

Паказальнымі для расстаноўкі сіл сталі абласныя канферэнцыі ў Гродне і Магілёве. На іх выступаў С.Папкоў, які прапаноўваў дэлегатам канферэнцыі прагаласаваць за выключэнне з БНФ кіраўнікоў абласных арганізацый: Магілёўскай — А.Фёдарава і Гродзенскай — М.Баўсюка. На абедзвюх канферэнцыях дэлегаты не выканалі жадання Пазьняка і аднагалосна зноў абралі сваіх кіраўнікоў.

Пры гэтым на канферэнцыях было прынята рашэнне звярнуцца да Сойму БНФ з тым, каб ён да з'езда прыпыніў паўнамоцтвы С.Папкова і А.Крыварота *«ў сувязі з дэзарганізацыяй структур БНФ шляхам аддання загадаў праз галовы кіраўнікоў абласных структур у раённыя арганізацыі аб выхадзе сяброў БНФ з камісій па выбарах прэзідэнта Беларусі». («Народная воля» за 17 чэрвеня)* На Сойме БНФ пры галасаванні за гэтае рашэнне галасы падзяліліся і рашэння не прынялі. Што сведчыць пра прыкладна роўны падзел БНФ на прыхільнікаў Пазьняка і ягоных апазіцыянераў. У двух рэгіёнах — Гродзенскай і Магілёўскай абласцях — Пазьняк ужо прайграў. На з'езде дэлегаты з гэтых абласцей прагаласуюць супраць абрання Пазьняка старшынёй БНФ.

Супярэчлівасці паміж групамі БНФ ужо сёння дасягнулі такога ўзроўню, што калі на ўправе БНФ абмяркоўвалі мэтазгоднасць падачы заявы на правядзенне антыфашыстоўскай акцыі на 20 чэрвеня — напярэдадні даты нападу гітлераўскіх фашыстаў на СССР, дык палова ўправы прагаласавала «за», а палова «супраць». Гэта сведчыць пра недзеяздольнасць БНФ.

Баршчэўскі перакананы, што калі не змяніць структуру кіраўніцтва БНФ, то замест «Папковых» прыйдуць новыя паклоннікі Пазьняка, якія бяздумна будуць выконваць ягоныя загады. Баршчэўскі прапануе ўвесці пасаду старшыні БНФ на Беларусі, а пасаду выконваючага абавязкі старшыні — для таго, хто за мяжой. Такім чынам, Пазьняк паўстане перад выбарам. Калі хочаш прэтэндаваць на пасаду старшыні — вяртайся. Калі не, тады застанешся выконваючым абавязкі старшыні, але гэта пасада без улады, пасада з адказнасцю, але без правоў — стан, у якім некалькі год знаходзіўся Баршчэўскі. Да з'езда Баршчэўскі хоча распрацаваць ідэалагічную і псіхалагічную платформу.

Калі арганізацыйная схема Баршчэўскага будзе прынята, тады вялікая верагоднасць таго, што менавіта яго абяруць старшынёй БНФ.

Перспектыва развіцця падзей у нацыянальнай частцы апазіцыі можа мець наступныя вынікі:

1. На з'ездзе БНФ Пазьняка не абіраюць старшынёй.

Тады Пазьняк хутчэй за ўсё выступіць з заявою пра парушэнні падчас галасавання і будзе лічыць сябе старшынёй БНФ. Яго падтрымаюць прыхільнікі, і на Беларусі ўзнікнуць два БНФ. Мінюст атрымае падставу не рэгістраваць БНФ увогуле. Маўляў, спачатку разбярыцеся паміж сабой.

2. На з'ездзе БНФ Пазьняка зноў абіраюць старшынёй.

Тады з БНФ выходзіць значная частка інтэлектуалаў. БНФ ператвараецца ў секту з апантаных пазьнякоўцаў.

Такі зыход часткова адбыўся на з'ездзе БНФ у 1995 годзе. Тыя, хто пакінуў кіраўніцтва БНФ (В.Голубеў, Ул.Анцулевіч, В.Івашкевіч, В.Чуйко), арганізавалі грамадскую арганізацыю «Беларуская перспектыва».

На гэты раз апазіцыянеры Пазьняку ўнутры БНФ пачалі рыхтаваць новы рух на базе існаваўшых да ўтварэння БНФ грамадскіх арганізацый накшталт «Талакі».

5—6 чэрвеня пад Баранавічамі на турбазе «Лясное возера» сабраліся былыя сябры Канфедэрацыі беларускіх аб'яднанняў. У сярэдзіне 80-ых Канфедэрацыя злучала каля 60 нацыянальна арыентаваных суполак. Толькі ў Мінску было 20 розных суполак. Вядомасць набылі такія суполкі, як «Тутэйшыя», «Пагоня», «Узгор'е», «Талака». Падчас сустрэчы на

«Лясным возеры» каля 200 сяброў абралі каардынацыйны савет Канфедэрацыі. У яго ўвайшлі Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Алесь Суша, Сяргей Вітушка, Алесь Бяляцкі.

Новы адроджаны грамадскі рух можа выканаць некалькі функцый. Па-першае, калі лідэрам БНФ застанецца Пазьняк, тады шэраг уплывовых палітычных лідэраў — Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Алесь Бяляцкі — пачнуць інтэнсіўна фарміраваць структуры адроджанага руху, ён набудзе моц, павялічыць уплыў сярод насельніцтва і стане сапраўдным агульным рухам для ўсіх антытаталітарных сіл на Беларусі. БНФ у такім выпадку ператворыцца ў маргінальную секту і будзе выконваць на палітычным полі Беларусі ролю пудзіла для электарату.

Калі ж Пазьняк не здолее перамагчы ўнутраную апазіцыю, тады новыя лідэры БНФ не будуць фарміраваць «Талаку», а ўсе намаганні кінуць на рэфармаванне дзейнасці БНФ. Тады ўсе сілы будуць змарнаваны. БНФ, на мой погляд, мае скалапсіраваны рэйтынг. Гэта азначае, што любыя дзеянні сяброў БНФ ужо не змогуць значна падняць аўтарытэт арганізацыі. Вельмі ўжо трывалы стэрэатып БНФ у менталітэце насельніцтва. У камуністаў існавала ідэалагема: *«Мы говорим партия — подразумеваем Ленин, мы говорим Ленин, подразумеваем — партия».* Такі ж самы стан у свядомасці людзей адносна БНФ: «Мы слышим БНФ, а понимаем — Пазьняк, мы говорим Пазьняк, а слышим — БНФ».

Ідэалагічным аргументам апазіцыі Пазьняку ўнутры БНФ ёсць ацэнка яго дзейнасці як сектанцкай, якая вядзе да звужэння шырокага нацыянальнага руху, утварэння з шэрага грамадзян і палітыкаў, што знаходзяцца ў апазіцыі да дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, ворагаў. Насуперак гэтаму ўнутраная апазіцыя Пазьняку прапануе тактыку прыцягвання ў нацыянальны рух як мага больш шырокага кола людзей.

У палітычнай галіне апазіцыя бачыць недахоп Пазьняка ў вылучэнні ініцыятыў, што вядуць да халастой, безвыніковай працы.

12 чэрвеня Пазьняк даслаў свой «Зварот» да сяброў БНФ, у якім даў свае ацэнкі Вярхоўнаму Савету, настроям насельніцтва і выклаў сваю праграму дзеянняў.

Вось што ён піша:

*«Для большасці жыхароў Беларусі зразумела, што антыдэмакратычны антыбеларускі рэжым неабходна ліквідаваць»*

Такая ацэнка настрояў насельніцтва, на мой погляд, не адпавядае рэчаіснасці і значна перабольшана. Прычым, калі б сапраўды большасць жыхароў *«зразумела, што антыдэмакратычны антыбеларускі рэжым неабходна ліквідаваць»,* тады Пазьняку было б лагічным пагадзіцца з колькасцю прагаласаваўшых пад час выбараў. Гэтая ацэнка ў псіхалагічным ракурсе мяняе месцамі Ганчара і Пазьняка.

Вось ацэнка Пазьняка выбарам, што адбыліся 16 мая:

*«Маскоўскі разбуральны план прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі ўдалося спыніць у апошні момант з істотнымі псыхалягічнымі і палітычнымі выдаткамі для Вызвольнага руху».*

Гэтая ацэнка (параўнайце з ацэнкай, якую далі выбарам еўрапейскія структуры і дзярждэпартамент ЗША) не толькі не супадае, але мае супрацьлеглы маральны ацэначны вектар.

Гэткія ж супрацьлеглыя ацэнкі даюць Пазьняк і еўрапейскія структуры Вярхоўнаму Савету 13-га склікання:

*«Практыка паказала няздольнасць існуючай апазыцыйный групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня да дзеяньняў і асэнсаванай палітычнай працы. Шхняя бяспрынцыпная падтрымка прамаскоўскага выбарчага праекту, а таксама парушэньняў заканадаўства і фальсыфікацыяў, якія былі зроблены кіраўніцтвам Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, ёсьць працяг іхных папярэдніх антыбеларускіх рашэньняў (ратыфікацыя вынікаў незаконнага рэферэндуму 1995 года — забарона дзяржаўнага сьцяга, гэрбу, мовы, ратыфікацыя незаконнага расейска-беларускага «саюзу» ад 2 красавіка 1996 году і інш.), уключаючы здраду і правал імпічманту ў 1996-м годзе. «Ініцыятывы асобаў зь Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ня могуць больш прымацца пад увагу» (12 чэрвеня).*

Параўнайце:

*«Паўночнаатлантычная Асамблея падзяляе меркаванне, што Канстытуцыя 1994 года ёсць легітымны вышэйшы юрыдычны дакумент Рэспублікі Беларусь, а Вярхоўны Савет, абраны згодна з гэтай Канстытуцыяй, ёсць легітымны заканадаўчы орган краіны» (27—31 мая).*

Пазьняк, ігнаруючы Вярхоўны Савет 13-га склікання, прапануе перад 20 ліпеня стварыць Грамадзянскі Парламент Беларусі:

*«...У якасьці мэханізму перайманьня ўлады ад правячага рэжыму прапануецца стварыць Грамадзянскі Парлямант Беларусі (ГПБ)... Дэпутаты ГПБ выбіраюцца (дэлегуюцца арганізацыямі, ці шляхам збору квоты подпісаў) ад 260 выбарчых акругаў, зацверджаных для Вярхоўнага Савета. Парадак і мэханізм фармаваньня ГПБ вызначаецца адмысловым палажэньнем, якое прымае арганізацыйная рабочая група па стварэньні ГПБ. Ён дзейнічае з 21 ліпеня 1999 года да пачатку працы новага Вярхоўнага Савету, які выбіраецца па новым выбарчым дэмакратычным законе эўрапейскага ўзору.*

*Грамадзянскі Парлямант (у адрозьненьне ад прэзідэнта і яго структураў улады) будзе валодаць значнай доляй легітымнасьці, што дасьць магчымасьць паставіць наступныя задачы:*

*— прыняць палажэньне аб Часовым Урадзе Беларусі;*

*— прызначыць кіраўніка ўраду і зацьвердзіць Часовы Ўрад Беларусі;*

*— прыняць грамадзянскія заканадаўчыя акты ў абарону дзяржаўнай незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі;*

*— прыняць закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету, заснаваны на дэмакратычных прынцыпах эўрапейскага ўзору;*

*— стварыць умовы і арганізаваць выбары ў Вярхоўны Савет».*

Але мы ведаем, што ўсе еўрапейскія арганізацыі прызнаюць легітымнасць Вярхоўнага Савета. Адпаведна, па міжнароднай практыцы, ні БНР і ягоныя структуры, ні ГПБ не будуць прызнаныя ніводнай краінай, бо няма практыкі ўтварэння падвоенай правасуб'ектнасці.

Мае размовы з шэрагам ужо абраных дэлегатаў з"езда БНФ паказалі, што для шмат каго з сяброў БНФ аргументы легітымнасці не ёсць асноўныя і пераканаўчыя.

Не выключана, што на з"ездзе БНФ на рашэнне дэлегатаў паўплываюць матэрыяльныя аргументы.

У матэрыяльным аспекце аргументы Вячоркі, Івашкевіча, Бяляцкага даволі пераканаўчыя. Яны прапануюць і захаваць, і павялічыць матэрыяльную падтрымку франтаўскіх структураў на месцах. Справа ў тым, што на працягу апошніх некалькіх год гэтыя палітыкі вынаходзілі сродкі для забеспячэння дзейнасці франтаўскіх структур на месцах арэндай офісаў, камп'тэрамі, друкаваннем газетаў, аплатай тэлефонаў і на іншыя расходы. Усведамленне таго, што ўсё гэта можна страціць, можа моцна паўплываць на галасаванне ці за Пазьняка, ці супраць яго.

Такім чынам, можна сцісла акрэсліць і падсумаваць супярэчнасці Пазьняка і ягонай апазіцыі:

**А.**

1. Пазьняк лічыць, што выратаваў БНФ ад разгрому акцыяй «выбары». Што выбары былі праектам Масквы, якая хацела ўтварыць для Лукашэнкі апазіцыю з прамаскоўскіх лідэраў, знішчыўшы БНФ.

2. Апазіцыя Пазьняку ўнутры БНФ лічыць, што выбары былі унікальнай магчымасцю ўтварыць адзіную апазіцыю Лукашэнку, што паўплывала б і на адносіны Захаду да Беларусі і апазіцыі. Што выбары маглі б стаць дэмакратычнай дэманстрацыяй пратэсту супраць дыктатуры і падтрымкі дэмакратычных каштоўнасцей. Замест гэтага выбары ператварыліся ў дэманстрацыю слабасці апазіцыі, яе «склочнасці».

**Б.**

1. Пазьняк лічыць, што трапна выяўляе ворагаў — агентаў Масквы, якія маскіруюцца і хочуць разбурыць апазіцыю.

1. Апазіцыя Пазьняку лічыць, што такія дзеянні разбураюць адзінства апазіцыі. Утвараюць, замест барацьбы з дыктатарскім рэжымам, барацьбу ўнутры апазіцыі з ворагамі-фантомамі.

**В.**

1. Пазьняк ігнаруе Вярхоўны Савет 13-га склікання і заклікае ўтвараць новыя заканадаўчыя органы на базе грамадзянства БНР накшталт ГПБ.

2. Апазіцыя Пазьняку ўнутры БНФ прытрымліваецца прынцыпаў еўрапейская легітымнасці, на падставе якіх Вярхоўны Савет 13-га склікання адзіны легітымны прадстаўнічы-заканадаўчы орган на Беларусі.

**Г.**

1. Пазьняк бачыць БНФ войскам, якое мусіць падпарадкоўвацца загадам камандзіра, а сябе Пазьняк лічыць камандзірам накшталт Напалеона.

2. Апазіцыя Пазьняку бачыць БНФ дэмакратычнай арганізацыяй, якая дзейнічае на падставе Статута, па якому вышэйшым кіраўнічым органам ёсць з"езд, Сойм, а не асоба.

**Д.**

1. Пазьняк дазваляе сабе абразы апанентаў. Крытыку ў свой бок ацэньвае як варожыя выпады. Думкі, што супярэчаць ягоным, ацэньвае як не вартыя ўвагі ці бязглуздыя.

2. Апазіцыя — усё наадварот.

Ацэнкі прэзідэнцкім выбарам па версіі апазіцыі далі і кіраўнікі еўрапейскіх структур. Так, Вік, кіраўнік назіральнай групы АБСЕ на Беларусі, у прыватнай размове з Баршчэўскім заявіў, што ў апазіцыі ўсе фальсіфікатары. І Чыгір, які сфальсіфікаваў подпісы за сваё вылучэнне, і БНФ, які, маючы асноўную колькасць прадстаўнікоў у выбарчых камісіях, сфальсіфікаваў вынікі галасавання, і Ганчар, які сфальсіфікаваў лічбы прыняўшых удзел у галасаванні.

Кіраўнік рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыян Севярын на прэс-канферэнцыі ў Мінску 18 траўня заявіў, што мэтай знаходжання рабочай групы ПА АБСЕ ў Мінску на завяршальным этапе выбараў (група прыбыла ў Мінск 14 траўня) не з'яўлялася назіранне за імі. Што ж датычыць яго асабістага меркавання аб выбарах, то А.Севярын кваліфікаваў гэтыя выбары не больш як «палітычную падзею», якую трэба разглядаць *«у якасці пункту адліку для больш асэнсаваных, больш сур'ёзных і канструктыўных перамоваў, якія павінны прывесці да станоўчых вынікаў з пункту вырашэння канстытуцыйнага крызісу»,* падзею, з якой неабходна атрымаць пэўныя ўрокі як АБСЕ і міжнароднай супольнасці, так і беларускім уладам і апазіцыі.

Дзярждэпартамент ЗША зрабіў заяву па сітуацыі на Беларусі, якую прэзентаваў прэс-сакратар дзярждэпартамента Джэймс Рубін. Выбары былі ацэнены наступным чынам:

*«Дзярждэпартамент ЗША звяртае ўвагу на спробу беларускай апазіцыі правесці прэзідэнцкія выбары... Ініцыятыва апазіцыі па правядзенню выбараў прадэманстравала намаганні дэмакратаў на Беларусі правесці дыялог с беларускім народам, які рэжым Лукашэнкі працягвае не*

*прызнаваць...» («Белорусская деловая газета». 24 мая).*

Еўрапарламент ацаніў выбары як «кансультацыі з насельніцтвам».

У дэкларацыі Паўночнаатлантычнай асамблеі «Аб сітуацыі на Беларусі», што была прынята пасля выбараў 16 мая, ні слова не сказана пра прэзідэнцкія выбары.

Такім чынам, дэмакратычнае замежжа ацаніла выбары не як выбары, а як палітычную акцыю ці нават сацыялагічную «кансультацыю».

А вось адносна легітымнасці Лукашэнкі першая міжнародная ацэнка была адназначная:

*«Паўночнаатлантычная Асамблея заяўляе, што 20 ліпеня гэтага года заканчваюцца паўнамоцтвы Прэзідэнта Лукашэнкі і з гэтага часу ён не можа лічыцца дэмакратычна абраным кіраўніком дзяржавы» (27—31 мая)*

(Паўночнаатлантычная Асамблея створана ў 1955 годзе. Аб'ядноўвае 32 парламенты Еўропы і Паўночнай Амерыкі.)

У вышэйцытаванай заяве дзярждэпартамента ЗША дадзена наступная ацэнка дзеянням Лукашэнкі:

*«... Гэта драматызавала канстытуцыйны і палітычны тупік, які стварыў прэзідэнт Лукашэнка, адышоўшы ад Канстытуцыі краіны ў 1996 годзе і сваімі дзеяннямі па падаўленню правоў чалавека. Гэта ініцыятыва паказала ўсім ягоную няздольнасць аб'яднаць краіну і забяспечыць палітычную стабільнасць... Злучаныя Штаты будуць працягваць аказваць магутную падтрымку дэмакратыі і захаванню правоў чалавека на Беларусі і будуць настойваць на тым, каб міжнародная супольнасць займала такую ж пазіцыю».*

## АЦЭНКА ВЫБАРАЎ І ПАЛІТЫЧНЫХ ЛІДЭРАЎ У НЕЗАЛЕЖНЫМ ДРУКУ

У незалежным друку ацэнкі арганізатарам выбараў былі даволі жорсткія. М.Халезін у артыкуле «Проект «Гончар»» («Навіны». 19 траўня) пісаў так:

*«...С.Шарецкий, С.Шушкевич и В.Гончар...пренебрегая нормами морали, пошли на обман избирателей, верящих в искренность намерений известных деятелей оппозиции... Немногие знали, что честного проведения выборов, равно как и провозглашения имени нового президента, не планировалось изначально...»*

І.Халіп у газеце «Имя» (20 мая) пісала:

*«А в случае с выборами — нас предали свои же. Едва ли не все участники действа выглядели не слишком прилично: и Зенон Пазьняк, дня не проживший, чтобы не учинить какую-нибудь склоку... даже с экрана белорусского телевидения (теперь-то уж точно никто не сможет сказать, что у нас в стране со свободой слова не все в порядке — видали, в «Панораме» лидеры БНФ ситуацию комментируют?), и сам Виктор Гончар, ежедневно бодро докладывающий о невероятных цифрах проголосовавших, зная прекрасно, что это вранье, в котором его рано или поздно уличат сами избиратели...»*

Муркаванне Ю.Дракахруста: *«В 53,2% не поверят ни в Беларуси, ни на Западе, ни на Востоке».(«БДГ». 21 мая).*

Федута ў «Белорусской деловой газете» заявіў, што *«оппозиции больше нет»*. Вядома ж такое меркаванне, на мой погляд, публіцыстычнае перабольшаванне, але тэндэнцыю да падзення рэйтынга апазіцыі і яе дзеяздольнасці яно адлюстроўвае даволі трапна.

Аналізуючы ацэнкі выбараў на Беларусі ў незалежным друку, вядома, трэба ўлічваць пазіцыі аўтараў. Усе вышэйназваныя аўтары па розных прычынах не ёсць прыхільнікі Ганчара і Шарэцкага. Але, як і ўсе журналісты, гэтыя аўтары адчуваюць пульс грамадска-палітычнага жыцця, маюць пастаянную сувязь з чытачамі і валодаюць інфармацыяй. Але вось цікавая асаблівасць незалежнага друку Беларусі. Газета «Свободные новости» была бадай адзінай газетай, якая цалкам падтрымлівала дзеянні Ганчара. Тым не менш на яе старонках былі надрукаваны наступныя меркаванні:

*«Обнародованием нереальных цифр участников голосования Гончар подорвал доверие населения к оппозиции, ее помыслам и методам. Теперь мысль о несправедливости Лукашенко будет вытеснена мыслью об обмане и несправедливости его противников. Причем для оппозиции этот момент имеет большее значение, чем для властей. Ибо аморальные методы, применяемые президентом, большинству неизвестны. А любые действия оппозиции, которые могут быть расценены как обман, благодаря официальной пропаганде стали известны всем. Особенно если обвинения в фальсификации звучат из уст лидеров БНФ. Все это смазало пропагандистский эффект от прошедшей кампании, оттолкнуло от оппозиции ее потенциальных сторонников. Гончар сильно облегчил властям задачу. Официальным СМИ даже не нужно ничего опровергать». («Свободные новости». 21—28 мая).*

Асаблівага аналізу патрабуе ацэнка выбараў Вярхоўным Саветам. Спачатку пазнаёмімся з фрагментамі *«Заявы пашыранага пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання аб выніках выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 мая 1999 года».*

*«Белорусской оппозиции, <u>сплотившейся</u> вокруг легитимного Верховного Совета, неимоверными усилиями удалось под жестким давлением власти перехватить политическую инициативу и удерживать ее в течение первой половины 1999 года. На правовом поле Конституции Республики Беларусь 1994 года в этот период работали десятки тысяч членов избирательных комиссий, координаторов предвыборных штабов кандидатов и <u>миллионы избирателей республики</u>...*

*...Президиум Верховного Совета отмечает, что процедура выборов президента Республики Беларусь была проведена <u>в соответствии с Конституцией и законодательством Республики Беларусь»</u> (падэкрэслена аўтарам) («Народная воля». 3 чэрвеня).*

У гэтых фрагментах «Заявления» канцэнтравана ўтрымліваюцца факталагічныя, эмацыйныя і юрыдычныя ацэнкі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці.

1. Наконт *«сплотившейся оппозиции».*

Пачынаючы з моманту падліку колькасці подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты і на працягу ўсяго астатняга тэрміна выбараў, шэраг лідэраў БНФ фактычна знаходзіліся ў стане вайны з Вярхоўным Саветам, прадстаўленым Цэнтрвыбаркамам. Лідэры БНФ засыпалі Ганчара паперамі з патрабаваннямі праверыць подпісы за вылучэнне Чыгіра. А Ганчар напачатку не адказваў на гэтыя патрабаванні, чым правакаваў Пазьняка на зняцце сваёй кандыдатуры, а потым адказаў у духу «не лезьце не ў сваю справу». З кожным днём маральна-псіхалагічная вайна паміж цэнтрвыбаркамам і часткай БНФ мацнела і скончылася масавым выхадам сяброў БНФ з камісій па выбарах ды зняццем Пазьняком сваёй кандыдатуры. Вось табе і *«сплотившаяся оппозиция»*!

2. Наконт *«миллионов избирателей».*

Ніводная камісія па выбарах не мела спісаў выбаршчыкаў. Таму нават зыходзячы з гэтага немажліва казаць пра лічбы прагаласаваўшых. Тыя сябры камісій па выбарах, што хадзілі з урнамі па кватэрах, захоўвалі гэтыя урны дома. Кантролю за захаваннем цэласнасці урнаў не было. Мне ў прыватных размовах шэраг сяброў камісій расказвалі, як яны вечарам ускрывалі урны, падлічвалі галасы, а потым бліжэй да 16 мая памнажалі колькасць прагаласаваўшых на 100, каб у выніку атрымаліся тыя самыя мільёны. Шэраг дыпламычных супрацоўнікаў шукалі па ўсёй Беларусі камісіі з урнамі. У выніку адшукалі ў Гродне і Гродзенскай вобласці, у «пацёмкінскай вёсцы» у Мінску, якую паказвалі ўсім дыпламатам, ды ў «Аўтобусе Антончыка».

3. Наконт *«соответствия Конституции и законам».*

Падчас падрыхтоўкі выбараў Ганчаром свядома не былі ўтвораны ўчастковыя камісіі па выбарах, што ёсць парушэнне законаў і Канстытуцыі 1994 года. Сутнасць гэтага парушэння ў тым, што ў большасці рэгіёнаў выбаршчыкі не мелі выбарчых камісій і з-за гэтага не маглі рэалізаваць свае канстытуцыйнае права выбіраць.

Некаторыя чытачы могуць мне запярэчыць, што камісіі ва ўсіх рэгіёнах было немажліва ствараць, бо не хапала людзей. Адкажу — хапала. Тысячы палітычна актыўных грамадзян засталіся без працы падчас выбараў. Але самае парадаксальнае, што нават Цэнтрвыбаркам Ганчара у сваёй выніковай Заяве падкрэсліў наяўнасць парушэнняў законаў падчас выбараў.

Увогуле тэкст заявы Прэзідыума ВС-13 напісаны ў духу дакументаў ЦК КПСС. Калісьці партыйныя ідэёлагі пісалі аб савецкім народзе, які *«сплотился вокруг коммунистической партии»*, аб *«миллионах трудящихся, что поддерживают политику партии...»*. Гэты фантом імгненна рухнуў падчас перабудовы. Калі дзейнасць Вярхоўнага Савета будзе працягвацца і надалей такімі метадамі, як праводзіліся і ацэньваліся выбары, тады і яго чакае палітычны нябыт.

Тэкст «заявления» напісаны па-руску, што адразу выклікала абурэнне нацыянальна свядомай часткі насельніцтва. А 21 ліпеня Шарэцкі, які стане выконваючым абавязкі Прэзідэнта Беларусі, спадзяецца на падтрымку менавіта гэтай часткі.

Калі падагульніць усе ацэнкі выбараў нейкім трапным вобразам, тады лепей за В.Карбалевіча не скажаш:

*«Итак, для оппозиции выборы закончились большим конфузом, по самому худшему из возможных сценариев. Она проиграла блестяще проведенный и уже практически выигранный матч, смазав концовку, забив в самом финале два гола в собственные ворота» («Свободные новости» 21—28 мая).*

## ЯКІЯ БЫЛІ ШАНСЫ ПАДЧАС ВЫБАРАЎ?

У першую чаргу, на мой погляд, трэба разгледзець меркаванне М.Чыгіра:

*«... наиболее благоразумным вариантом было бы приостановление процесса голосования. Сбор голосов без списков избирателей создал условия для фальсификации итогов голосования... Считаю, что значимость выборов была бы не меньшей, если бы ЦИК их приостановил. Это позволило бы многих участников уберечь от преследований и репрессий, сохранить материальные ресурсы»* (Газета «БДГ». 28 июня. Михаил Чигирь: «ОБВИНЕНИЯ, ПРЕДЪЯВЛЕННЫЕ МНЕ, АБСУРДНЫ»).

Зараз можна казаць, што як толькі Чыгіра пасадзілі, шмат хто бачыў наступны працяг выбараў:

1. Пазьняк звяртаецца ў ЦВК з прапановаю «прыпыніць выбары, бо ягоны сапернік Чыгір, знаходзячыся за кратамі, не можа весці паўнавартасную перадвыбарную барацьбу.

2. ЦВК прыпыняе выбары, і дэмакратычныя апазіцыя вядзе барацьбу за вызваленне палітычнага вязьня.

3. Над Лукашэнкам увесь час вісіць пагроза ўзнаўлення выбараў.

4. Пазьняк узначальвае барацьбу за вызваленне Чыгіра на Захадзе і тым самым падвышае свой рэй-

тынг. Рэйтынг Чыгіра таксама расце. А ў Лукашэнкі падае.

5. Лукашэнка, ведаючы пра гэта, трымае Чыгіра ў турме.

6. Вельмі верагодна, што Чыгіра ў такім выпадку напаткаў бы лёс аднаго з двух: Г.Карпенкі, В.Ткачова. Апошні — былы супрацоўнік КДБ Беларусі, які пасля адстаўкі займаўся пошукам кампрамату на наменклатуру. Яго арыштавалі, абвінавацілі ў забойстве Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на Лукашэнку. Урэшце Ткачова знайшлі раніцой у камеры павешаным, хоць разам з ім у камеры сядзела яшчэ некалькі чалавек.

Але такі варыянт развіцця падзеяў — з прыпыненнем выбараў быў нявыгадны не толькі Лукашэнку. Такі варыянт быў нявыгадны ў першую чаргу Пазьняку, бо не мог жа ён працаваць на агента Масквы і КББ Чыгіра! Гэта невыгодна было Ганчару, бо ён мусіў на выбарах паказаць сябе здольным арганізатарам і стаць галоўным ПЕРАМОЖЦАМ выбараў. Акрамя гэтага псіхалагічнага набытку. Ганчар, як прагматычны бізнесовец, проста быў абавязаны падчас выбараў набыць і грашовы капітал, і капітал у выглядзе людскіх структураў. Прыпыненне выбараў да вызвалення Чыгіра было нявыгаднае і Шарэцкаму, бо тады ягоная роля пасля 21 ліпеня выконваючага абавязкі Прэзідэнта ператвараўся б у ролю «стрелочника», які мусіў бы прызначыць дзень выбараў, як толькі Чыгір выйдзе на свабоду. Тады Шарэцкі заставаўся б нават не на другіх ролях, а значна далей за спінай Лукашэнкі, Чыгіра і Пазьняка.

Для Лукашэнкі гэты варыянт быў бы самым непрыемным. Але унікальнай асаблівасцю выбараў прэзідэнта па версіі апазіцыі было тое, што ўдзельнікі барацьбы змагаліся кожны за сябе, кожны супраць другога і ніхто супраць Лукашэнкі.

Дарэчы, гэтую асаблівасць засведчыў і М.Чыгір у адным з інтэрв'ю.

«**Вопрос журналиста:** *Как вы можете охарактеризовать роль Виктора Гончара в прошедшей кампании?*

**Ответ Чигиря:** *Я ожидал от Виктора Гончара более четкого выполнения договоренностей и обязательств»*

Ці маглі выбары 16 мая мець яшчэ нейкія варыянты, каб умацаваць пазіцыю апазіцыі і рэзка знізіць рэйтынг Лукашэнкі?

На мой погляд такі шанс быў. І яго мелі і Зянон Пазьняк, і жонка Чыгіра, якая пасля арышту мужа практычна ўзначаліла передвыбарны штаб мужа... Яго меў і Ганчар.

Па меркаванню Алеся Бяляцкага, памылкай Цэнтрвыбаркама стала тое, што не былі створаны ўчастковыя камісіі па выбарах. Іх было немажліва зрабіць паўсюль, але ж можна было стварыць участковыя камісіі, якія б ахаплівалі большыя тэрыторыі. Людзі для работы ў такіх камісіях былі. Але яны так і засталіся незадзейнічанымі. Больш шырокая сетка камісій дазваляла ахапіць выбарамі большую частку насельніцтва. І прадэманстраваць выбаршчыкам, што апазіцыя дзейнічае, прычым мірнымі сродкамі.

Другім недахопам, што датычыў арганізацыі выбараў, была адсутнасць у структуры выбараў судовага органа, які б вызначаў парушэнні законаў як з боку уладных структур, так і з боку кандыдатаў у прэзідэнты і сяброў іх каманд. Такі орган мог быць утвораны Вярхоўным Саветам, і яго кіраўніком прызначаны, напрыклад, член Канстытуцыйнага суда М.Пастухоў. Адсутнасць Трацейскага суддзі і імкненне Ганчара судзіць і ацэньваць прывялі да напружанай сітуацыі, недаверу да Ганчара і стварылі умовы для выхаду Пазьняка з выбараў, а разам з ім і членаў шэрага камісій.

Больш таго, недавер да Ганчара з боку даволі вялікай часткі сяброў БНФ прывёў да расколу паміж Вярхоўным Саветам на чале з Шарэцкім і БНФ. А ў сітуацыі, калі 21 ліпеня Шарэцкаму, што заступіць на пасаду выконваючага абавязкі Прэзідэнта Беларусі, спатрэбіцца масавая падтрымка, такі раскол можа прывесці да адсутнасці такой падтрымкі. А Захад, як вядома, улічвае ў сваіх дзеяннях як легітымны бок дзеянняў палітыкаў, так і наяўнасць масавай падтрымкі лідэраў.

Тэхналогіі перадвыбарнай барацьбы, што выкарыстоўвалі Чыгір і Пазьняк, былі настолькі неэфектыўныя, што пра кандыдатаў у прэзідэнты даволі вялікая частка электарату проста не ведала. Кандыдаты выпусцілі ўлёткі з праграмамі даволі мізэрным накладам, надрукавалі свае платформы ў незалежным друку, і на гэтым барацьба за галасы выбаршчыкаў скончылася.

Хоць абодва палітыка мелі магутную электаральную зброю. У палітычным арсенале Пазьняка і Чыгіра была мажлівасць выкарыстаць некалькі тэхналогій, якія б значана павысілі іхны рэйтынг і разбурылі рэйтынг Лукашэнкі . Пазьняк мог:

Узначаліць Народны трыбунал з пяці судовых камісій і праводзіць збор подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты ды і астатнюю выбарную кампанію разам з пасяджэннямі трыбунала.

Дзейнасць гэтых камісій мусіла насіць выязны характар. Сябры камісій маглі выязджаць на сустрэчы з выбаршчыкамі ў розныя гарады. Улады, адпаведна, наладжвалі б перашкоды сустрэчам, што мела б моцны грамадскі рэзананс. Такая тэхналогія была апрабавана ў Беларусі ў 1995 годзе, калі Сяргей Антончык, прачытаўшы свой даклад у Вярхоўным Савеце па карупцыі ў камандзе Лукашэнкі, правёў сустрэчы з выбаршчыкамі больш чым у дзесяці гарадах краіны. На гэтыя сустрэчы збіраліся сотні людзей. Падзеі вакол даклада і сустрэч Сяргея Антонавіча абмяркоўвалі тысячы выбаршчыкаў. Грамадства было тады моцна ўзрушана. Тады ездзіў адзін Антончык. Зараз паехалі б дзесяткі палітычных лідэраў. Магла б утварыцца сапраўдная вясновая рэвалюцыя ў свядомасці шэрага выбаршчыкаў — менавіта тых людзей, якія маюць у менталітэце перавагу дэструктыўных арыентацый. Жыццё пагоршылася, і шмат людзей чакалі адказу на пытанне, хто вінаваты, узмацняліся таксама ірацыянальныя чаканні палітычнага лідэра, які пакажа вінаватага і пакарае яго.

Пазьняк напачатку з энтузіязмам паставіўся да гэтай тэхналогіі. Але потым адмовіўся ад яе.

Менавіта такую ж тэхналогію магла выкарыстаць каманда Чыгіра. Маючы ў камандзе былога міністра ўнутраных спраў генерала Ю.Захаранку, палкоўніка Барадача, можна было б наладзіць моцны электаральны наступ на Лукашэнку. Сустрэчы нават гэтах двух афіцэраў з выбаршчыкамі ў межах прэзідэнцкай кампаніі «За Чыгіра і супраць Лукашэнкі» маглі моцна паўплываць на свядомасць выбаршчыкаў. Вера ў Лукашэнку была б моцна разгайдана і разбурана, а вера ў Чыгіра значна б пабольшала.

Але гэтага не адбылося. А ўявіце сабе, што абедзве каманды выкарысталі дэструктыўныя тэхналогіі. Электаральны ўдар па Лукашэнку меў бы магутную моц. Па часу можна было выкарыстаць гэтыя тэхналогіі, пачынаючы са збору подпісаў, — у сакавікк, красавіку, маі.

Другой электаральнай тэхналогіяй для абодвух кандыдатаў у Прэзідэнты магла стаць:

для Пазьняка — сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі;

для Чыгіра — сустрэчы эканамістаў з выбаршчыкамі.

Сустрэчы маглі мець ідэалагемны падмурак у выглядзе ідэалагемаў «Пабудуем наш Дом—Беларусь у XXI стагоддзі!»;

«Давайце разам будаваць Беларусь — наш Дом, наш Храм!».

Гэтыя тэхналогіі маглі моцна ўздзейнічаць на выбаршчыкаў з канструктыўным менталітэтам.

Тэхналогія інтэнсіўных сустрэч пісьменнікаў з выбаршчыкамі была апрабавана ў Беларусі ў 1987—88 годзе. Групы пісьменнікаў на чале з Рыгорам Барадуліным, Васілём Сёмухай, Генадзем Бураўкіным, Уладзімірам Арловым наведалі дзесяткі гарадоў, сустрэліся з дзесяткамі тысяч выбаршчыкаў, далі сотні інтэрв'ю. Уздзеянне на свядомасць людзей мела такі моцны эфект і рэзананс у грамадстве, што славянасабарысты, спужаўшыся, выклікалі з Расіі альтэрнатыўны дэсант пісьменнікаў — інтэграстаў.

Іх сутнасцю былі б ідэалагемы, што і Чыгір, і Пазьняк лепш, чым Лукашэнка, могуць будаваць, ствараць, гаспадарыць. А узровень жыцця людзей значна знізіўся, і людзі чакалі цудатворцаў, якія змогуць рэзка змяніць жыццё. Чыгір паспрабаваў паўплываць на гэтыя чаканні абяцаннем, што заробак пры ім будзе не 30 даляраў, як пры Лукашэнку, а 100. Але для даверу для гэтага абяцання не хапала прэзентацыі чыгіроўскай каманды таленавітых эканамістаў.

Пазьняк да таго ж, прымаючы рашэнне аб удзеле ў выбарах, разглядаў мажлівасць правядзення збору подпісаў за правядзенне рэферэндуму з пытаннем «Ці падтрымлівацеце ВЫ інтэграцыю Беларусі ў Еўрапейскі Саюз?». Але Пазьняк з самага пачатку адкінуў гэтую акцыю, матывуючы тым, што такі збор подпісаў выкліча ў адказ захады Лукашэнкі па правядзенню рэферендуму аб інтэграцыі ў Расію.

Зараз, паважаны чытач, Вы мне можаце засупярэчыць, што ўсе мы разумныя па часе. Дзе жа ты быў раней са сваімі тэхналогіямі? Адкажу. Напярэдадні прыняцця Пазьняком рашэння аб удзеле ў выбарах, 8 студзеня, на сустрэчы з Пазьняком у Варшаве, я падрабязна выклаў яму гэтыя тэхналогіі. Мне вядома, што кіраўніцтва каманды Чыгіра таксама ведала пра мажлівасці ўплыву на выбаршчыкаў па вышэйапісаным версіям.

Яшчэ адным мажлівым пярэчаннем мне з боку чытачоў можа быць такое: рэпрэсіі не далі б правесці ўсё задуманае. Было б шмат ахвяраў. Вядома ж, улады б не давалі памяшканняў, спрабавалі арыштоўваць палітыкаў. Але, па-першае, амаль усе лідэры ведалі пра гэтыя планы, мажлівыя наступствы і выказалі згоду на такі сцэнар. Па-другое, рэжым баіцца выкарыстоўваць рэпрэсіі супраць наступальных лідэраў. Антончыка ў 1995 годзе падчас паездак баяліся арыштаваць, бо пасля даклада па карупцыі арышт Антончыка стварыў бы з яго палітычную зорку. Вось знік Захаранка. Але калі б ён пастаянна выступаў, быў на людзях, улады б не толькі не ладзілі б на яго замаху, але нават змушаны былі б ахоўваць яго.

Урэшце перадвыбарная кампанія атрымалася пасіўнай, без масавых сустрэч з выбаршчыкамі калі не кандыдатаў у прэзідэнты, дык хоць бы іхных давераных асоб.

Яшчэ адной прычынаю зрыву выбараў былі інтрыгі вакол статуса гэтай палітычнай акцыі. На пачатку выбараў паміж Ганчаром і Пазьняком была дамоўленасць, што будуць сапраўдныя выбары. Так і разумелі сітуацыю абсалютна ўсе удзельнікі, акрамя лічаных адзінак з боку арганізатараў. Але ж калі Ганчар не стаў утвараць участковыя камісіі, не стаў рыхтаваць спісы выбаршчыкаў, стала зразумела, што выбараў не будзе, а будзе палітычная акцыя. Аб гэтым на прыватных сустрэчах з лідэрамі БНФ і пачаў гаварыць В.Ганчар. Гэтая падмена статуса акцыі і прывяла да дэмаршу Пазьняка.

Калі б з самага пачатку была дамова пра арганізацыю сіламі апазіцыі на 16 мая палітычнай дэманстрацыі пад умоўнаю назваю «Беларусь выбірае...», дык 16 мая на вуліцы і плошчы гарадоў Беларусі вышлі б дзесяткі тысячаў людзей. Менавіта так рыхтаваўся зрабіць БНФ перад выхадам Пазьняка з выбараў. І тады ўвесь свет пабачыў бы дэманстрацыю пратэсту супраць дыктатарскага рэжыму і за дэмакратыю ў Беларусі. Планаваліся масавыя

паказальныя галасаванні. Прычым для адных галасаванне можна было б праводзіць за кандыдатаў у дэпутаты, а для жадаючых — за адстаўку Лукашэнкі. Замест гэтага ў большасці рэгіёнаў атрымаўся пшык.

Яшчэ адной мажлівасцю зрабіць выбары 16 мая масавай акцыяй — дэманстрацыяй дэмакратычнага выбару насельніцтвам — была б спроба прыцягнуць да ўдзелу у выбарах у якасці кандыдатаў як мага больш палітычных лідэраў. Гэта можна было б зрабіць даволі проста. Сфарміраваць адзіныя групы па збору подпісаў і збіраць подпісы адразу за некалькіх асоб: і за Пазьняка, і за Чыгіра, і за Статкевіча, і за Шушкевіча... І вось, маючы спіс з 10 ці болей кандыдатаў, да ўдзелу ў падрыхтоўцы да выбараў было б прыцягнута значна болей грамадзян. Бо той, каму падабаецца Шушкевіч, быў бы ў гэтых выбарах пасіўны, бо не хацеў бы ісці галасаваць за астатніх. Такая вялікая каманда кандыдатаў і іх прыхільнікаў магла б лёгка разварушыць грамадскасць. А з улікам уласцівасцяў працы афіцыйных СМІ, яны б толькі і расказвалі пра выбары апазіцыі.

## НАБЫТКІ І СТРАТЫ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Па-першае, аб набытках. У асаблстым плане самы важкі набытак у С.Шарэцкага. Калі б 16 мая быў абраны Прэзідэнт Беларусі, тады б Шарэцкі не стаў безальтэрнатыўным выконваючым абавязкі Прэзідэнта. Зараз стане. Шарэцкаму быў аб'ектыўна выгадны працэс без вынікаў. Калі б Цэнтральная Камісія па выбарах Прэзідэнта пад кіраўніцтвам В.Ганчара абвясціла, што прэзідэнтам абраны, напрыклад, ці Чыгір, ці Пазьняк, тады б статус Шарэцкага як выконваючага абавязкі Прэзідэнта Беларусі падпадаў бы пад сумненне. Увогуле атрымлівалася б абсурдная сітуацыя: А. Лукашэнка — Прэзідэнт Беларусі дэ факта + (Чыгір ці Пазьняк) наноў абраны Прэзідэнт, ды + С.Шарэцкі — выконваючы абавязкі Прэзідэнта.

Але перамога Ганчара-Шарэцкага можа апынуцца піравай. Бо працэс выбараў дыскрэдытаваў у пэўнай частцы актыўнага апазіцыйнага электарату як Ганчара, так і Шарэцкага, які падтрымаў ягоныя дзеянні.

Другім набыткам ёсць набытак Ганчара. Вось як ён сам піша пра гэта: *«Что касается позитивных сторон, то мы сейчас знаем о реальном потенциале...на уровне реальных людей в регионах, которые могут что-то реально сделать... Эта кампания впервые позволила создать уникальную всереспубликанскую структуру, которая управляема, даже когда лидер этой структуры делает алогичные и неадекватные заявления» («Народная воля». 22 мая).*

Калі перавесці гэтае выказванне з дыпламатычнай мовы на паліталагічную, дык трэба сказаць так: *«Пасля выбараў дзеяздольная і прагматычная частка БНФ можа працаваць пад маім кіраўніцтвам незалежна ад таго, што будзе факсаваць Пазьняк».*

Выбары апазіцыі, трагедыя на Нямізе, падзеі ў Югаславіі паўплывалі на павышэнне электаральнага рэйтынгу Лукашэнкі.

Па звестках сацыялагічнай лабараторыі «Зеркало» інфармагенцтва «Белапан», адказваючы на пытанне, чаму б яны сёння галасавалі за Лукашэнку, выбаршчыкі ўказвалі наступныя асноўныя прычыны:

а. Падвышэнне мінімальнага заробку;

б. Прыпыніліся размовы і заявы наконт уступлення Беларусі ў Саюз з Югаславіяй;

в. Выказванне Лукашэнкі пра 52 шрамы на сэрцы пасля трагедыі на Нямізе.

г. Канцоўка выбараў апазіцыяй Прэзідэнта, калі лідэры апазіцыі перасварыліся.

Апазіцыя страціла падтрымку шэрага заходніх краінаў у сваіх спробах правесці прэзідэнцкія выбары і адхіліць Лукашэнку ад улады.

Пазіцыя заходніх дзяржаў адносна бачання стратэгіі развіцця падзей на Беларусі была выкладзена пасламі Германіі і Францыі на сустрэчы ў рэзідэнцыі пасла Германіі Вінкельмана 16 мая з 19 да 24 гадзін. Падчас гэтай сустрэчы прысутнічалі Л.Баршчэўскі, С.Багданкевіч, А.Лябедзька, Т.Процька, М.Грыб... Паслы заявілі, што выказваюць агульную пазіцыю дыпкорпуса Захаду. Яны не падтрымліваюць пазіцыю Шарэцкага і Ганчара, якія на сустрэчы з імі заявілі, што 21 ліпеня вельмі верагодна, што дзесяткі тысячаў людзей выйдуць на плошчу перад палацам Прэзідэнта і пральецца кроў. Паслы лічаць, што неабходна адмовіцца ад выбараў Прэзідэнта ў 1999 годзе і рыхтавацаа да выбараў у парламент у 2000 годзе. Паслы не збіраюцца пасля 21 ліпеня пакідаць Беларусь, бо практыка паказала неэфектыўнасць папярэдняга выезду паслоў з Беларусі.

У Бухарэсце 11—14 мая на перамовах з прадстаўнікамі АБСЕ таксама абмяркоўваліся мажлівыя шляхі кантакту апазіцыі і ўладаў. Баршчэўскі выказаў наступныя прынцыпы, выкананне якіх дазволіць апазіцыі пайсці на выбары:

1. Доступ да электронных СМІ.
2. Вызваленне палітзняволеных.
3. Захаванне незалежнасці Беларусі.

Але і паслоў, і прадстаўнікоў ОБСЕ прыводзіць у шок азнаямленне з праектам выбарчага кодэкса, які цяпер абмяркоўваецца ў палатах лукашэнкаўскага парламента. Па гэтаму праекту ўжо на этапе збору подпісаў можна не дапусціць да выбараў любога кандыдата. Але гэта не засмучае, напрыклад, Багданкевіча. Ён лічыць, што будзе ўдзельнічаць у любых выбарах у любыя палаты.



# Частка 2. НОВЫ ПАЯДЫНАК ЛУКАШЭНКІ З АПАЗІЦЫЯЙ

23 чэрвеня адбылося закрытае пасяджэнне Вярхоўнага Савета 13 склікання. На ім планавалася разглядзець шэраг пытанняў, звязаных са стратаю Лукашэнкам легітымнасці пасля 20 ліпеня. Аднымі з галоўных пытанняў, якія кіраўніцтва ВС-13 планавала разгледзець, былі пытанні ўвядзення пасля 20 ліпеня пасады першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, бо В.Новікаў, які раней займаў гэтую пасаду, перайшоў у каманду Лукашэнкі і паехаў працаваць дарадцам пасла Беларусі ў Малдавію. На пасаду свайго першага намесніка Шарэцкі планаваў В.Ганчара. Кіраўніцтва таксама планавала разгледзець структуру ўрада і мажлівых кандыдатаў на пасады ва ўрадзе, які створыць Вярхоўны Савет.

На пасаду прэм'ера Шарэцкі думаў прызначыць Лашкевіча. Шарэцкаму прапаноўвалі на гэтую пасаду з Масквы Мясніковіча, але ён адмовіўся. Лашкевіч меў неблагія сувязі ў Маскве. Па ўласных словах Лашкевіча, на пасаду кіраўніка тэлезавода «Рубін» уладкоўваў Г.Зюганаў. Відавочна, што фінансаванне дзейнасці ўрада і каманды Прэзідэнта, пры прызначэнні Лашкевіча прэм'ерам, было б вырашана. Адпаведна Лукашэнка атрымаў бы ў форме ўрада пры Шарэцкім вельмі моцнага ворага. Бо за Шарэцкім стаялі бы моцныя, уплывовыя структуры з Масквы.

Шарэцкі планаваў, што Прэм'ер будзе мець трох намеснікаў: па адукацыі і культуры, па прамысловасці і эканоміцы, па сельскай гаспадарцы.

Але ўжо на этапе папярэдняга абмеркавання супраць гэткага падзелу ўлады выступілі С.Домаш і М.Грыб. Домаш планаваў на пасаду першага намесніка вылучыць сябе. Такім чынам, узнікала мажлівасць канфлікту паміж Ганчаром -Шарэцкім з аднаго боку і Домашам — з другога. Супярэчлівасць паміж імі пагражала ўзарваць адзінства ў Вярхоўным Савеце. Да іх мог далучыцца і С.Багданкевіч.

Планавалася таксама прыняць зварот да Лукашэнкі, у якім яму будзе прапанава добраахвота скласці з сябе паўнамоцтвы і ў гэтым выпадку гарантавана пэўная недатыкальнасць. Кожны будзе несці адказнасць за зробленае, калі гэта будзе даказана. Калі фальсіфікацыю рэферэндуму рабіў Шэйман, а не Лукашэнка, дык Шэйман і панясе адказнасць за гэта.

Усе гэтыя абставіны паўплывалі на стаўленне Лукашэнкі да пасяджэння дэпутатаў Вярхоўнага Савета 23 чэрвеня 1999 г., калі іх выгналі з рэстарана і дэпутаты працягвалі праводзіць пасяджэнне, стоячы ў двары. Яны прынялі Зварот Вярхоўнага Савета і разышліся. У гэтым Звароце прынцыповай была заява, што дэпутаты будуць працягваць сваю дзейнасць. Дэпутаты нагадалі Лукашэнку, што пасля 20 ліпеня тэрмін ягоных паўнамоцтваў скончыцца, а захаванне ўлады сілай лічыцца «дзяржаўным злачынствам». Апазіцыянеры заявілі, што дзеянні Лукашэнкі па ўтрыманню ўлады сілай *«могуць прывесці да масавага грамадзянскага непадпарадкавання ўладам, якія страцілі сваю легітымнасць, і ўсе наступствы за такое развіццё падзеяў лягуць на вас і ваш урад». Дэпутаты ў Заяве выказалі гатоўнасць распачаць з Лукашэнкам перамовы, каб разам знайсці выйсце к «канстытуцыйнага крызісу».*

Пасяджэнне Вярхоўнага Савета 13 склікання 23 чэрвеня па свайму псіхалагічнаму сэнсу можна параўнаць з тым пасяджэннем Вярхоўнага Савета, на якім прымалася рашэнне аб правядзенні выбараў Прэзідэнта 16 мая. Зараз, па сутнасці, па-еўрапейску легітымны Вярхоўны Савет прыняў рашэнне пасля 20 ліпеня ўзяць уладу — прызначыць Прэзідэнта па Канстытуцыі 1994 года.

Шарэцкі плануе выконваць абавязкі Прэзідэнта не з Беларусі, а з нейкай суседняй краіны.

Ён таксама плануе абіраць Прэзідэнта не ўсенароднымі выбарамі, а на Вярхоўным Савеце, як у Латвіі. Пры гэтым ён заяўляе, што адным з кандыдатаў мог бы стаць Васіль Быкаў. Перад тым як абіраць прэзідэнта на Вярхоўным Савеце, Шарэцкі плануе ўнесці змены ў Канстытуцыю, каб паменшыць паўнамоцтвы Прэзідэнта і ператварыць Беларусь у парламенцкую рэспубліку.

Шарэцкі ўпэўнены, што Масква не будзе ўводзіць войскі, калі народ паўстане супраць Лукашэнкі. Быццам бы яму абяцалі гэта з Масквы.

Падрыхтоўка акцыі «сустрэчы» пяцігоддзя прэзідэнцтва Лукашэнкі, падчас якой дзесяткі тысяч грамадзян могуць выйсці на плошчу на несанкцыянаваны мітынг, вядзецца адразу некалькімі палітычнымі лідэрамі. В.Сіўчык прызначаны ад БНФ каардынатарам па падрыхтоўцы акцыі. Рыхтуюцца «Малады Фронт», прадпрымальнікі.

У арсенале апазіцыі ёсць наступныя сродкі разбурэння веры ў Лукашэнку:

1. Абвінавачванні ў паніжэнні ўзроўню жыцця.
2. Абвінавачванні ў карупцыі і сувязях з крымінальным светам.
3. Абвінавачванні ў сувязях з Мілошавічам, які аддаваў загады аб забойстве албанцаў у Косаве.
4. Абвінавачванні ў абароне сапраўдных вінаватых у трагедыі на Нямізе.
5. Уціск інтэлігенцыі.

Падрыхтоўка да прэзідэнцкага свята супала са стварэннем Сяргеем Антончыкам новай грамадзянскай структуры — незалежнага фонду падтрымкі беспрацоўных, а таксама асобаў з нізкімі даходамі, які называецца «Альтэрнатыўная біржа працы».

1. Гэта біржа плануе выплачваць усім, хто мае заробак ніжэй за 30 млн. рублёў, дадатковыя грошы. Для беспрацоўных плануецца знаходзіць часо-

вую працу, а таксама аказваць юрыдычныя паслугі пры ўладкаванні на працу і звальненні. Структуры «біржы» створаны на 40 прадпрыемствах Мінска.

Трэба ўлічыць і той факт, што па выніках сацыялагічных даследаванняў, якія правёў інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Прэзідэнце больш за 70% апытаных лічаць, што становішча ў эканоміцы Беларусі пагаршаецца. 85% апытаных у красавіку лічаць галоўнай праблемай рост цэнаў. Аб гэтым адкрыта ўжо кажуць прэзідэнцкія ідэолагі (перадача БТ «Дыялогі», размова з намеснікам міністра эканомікі Турам). Такое становішча абавязкова скончыцца пошукам ВОРАГА, і калі б Лукашэнка ні падстаўляў «стрелочников», урэшце людзі знойдуць ВОРАГА ў Лукашэнку.

Уцёкі старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Някляева за мяжу, у Варшаву, засведчылі, што надзеі той часткі інтэлігенцыі, якая спадзявалася на спрыянне рэжыму Лукашэнкі развіццю беларускай культуры, марныя. Някляеў неаднаразова спрабаваў наладзіць з Лукашэнкам дыялог. Адкрыта пра гэта казаў і вось — уцёк.

Унутры каманды Лукашэнкі адбываюцца падзеі, якія могуць мець дваістыя наступствы з пункту гледжання ўздзеяння на менталітэт выбаршчыкаў. Так, 21 ліпеня сілавымі структурамі быў арыштаваны крымінальны аўтарытэт Віктар Лагвінец, які меў сярод крымінальнікаў мянушку «Витя-колхозник». Лагвінец — сябра І.Ціцянкова. У шыкоўным палацы Лагвінца неаднаразова гасцяваў Генеральны пракурор Беларусі А.Бажэлка. У легальным бізнесе Лагвінец меў фірму «Контагруп», у якой працуюць дачка першага намесніка Генеральнага пракурора Міхаіла Снегіра і дачка яшчэ аднаго намесніка генпракурора — Петра Іваненкі. Бажэлка не даваў ордэра на арышт, і сілавікі пайшлі на затрыманне Лагвінца падчас ад`езду Ціцянкова ў Германію.

Да Лукашэнкі гэты арышт мае дачыненне таму, што Ціцянкоў у свой час уключыў крымінальнага аўтарытэта ў склад афіцыйнай дзяржаўнай дэлегацыі, якая на чале з Лукашэнкам наведвала Сірыю. Такім чынам, апазіцыя атрымала шанец казаць выбаршчыкам, што Лукашэнка наблізіў да сябе крымінальнікаў, а Лукашэнка мае шанец паказаць, як ён ачышчаецца ад карупцыі і крыміналу. Але каб выбаршчыкі паверылі Лукашэнкі, трэба здымаць Ціцянкова і Бажэлку з намеснікамі. Гэта для Лукашэнкі — як подзвігі Геракла. Наўрад ці ён здольны на такія ўчынкі.

Такім чынам, у лагеры апазіцыі можна зафіксаваць наступныя рэальныя і мажлівыя супярэчнасці:

РЭАЛЬНЫЯ:

1. Паміж буйнымі групоўкамі унутры БНФ;

2. Паміж часткай БНФ і Вярхоўным Саветам (Шарэцкім);

3. Паміж Шарэцкім і Ганчаром, з аднаго боку, і дыпламатамі — з другога.

МАЖЛІВЫЯ:

1.Паміж групоўкамі ўнутры Вярхоўнага Савета;

2. Паміж новым лідэрам БНФ і Пазьняком;

3. Паміж Лукашэнкам і апазіцыяй;

4. Паміж Лукашэнкам і выбаршчыкамі;

5. Паміж Лукашэнкам і Захадам.

Для Лукашэнкі супярэчнасці застаюцца традыцыйнымі, але яны набываць новы змест.

Паміж Лукашэнка і Захадам: Захад прызнае Лукашэнку нелегітымным і будзе патрабаваць правесці выбары. Частка заходніх дыпламатаў (немец і француз) будуць настойваць на правядзенні спачатку выбараў у палаты ў 2000 годзе, а потым прэзідэнцкія. Але выбарчы закон, які абмяркоўвае палата, Захад не ўспрыме і будзе прапанаваць змяніць яго. Мадэль нармальнага выбарчага закона распрацавана групай М.Пліска, М.Грыб, А.Лябедзька.

Паміж Лукашэнка і апазіцыяй: частка апазіцыі, прадстаўленая Вярхоўным Саветам, можа пайсці па шляху змен Канстытуцыі і абрання Прэзідэнта на пасяджэнні Вярхоўнага Савета. Частка з боку БНФ можа спрабаваць арганізаваць новыя выбары прэзідэнта па Канстытуцыі 1994 года.

Наяўнасць гэтых супярэчнасцяў Лукашэнка можа выкарыстаць для разбурэння электаральнага рэйтынга апазіцыйных лідэраў у свядомасці выбаршчыкаў.

Такім жа чынам апазіцыя можа выкарыстаць супраць Лукашэнкі падзеі электаральнага фону.

Электаральны фон на Беларусі пасля 16 мая азначаецца наступнымі падзеямі:

— Крахам прэзідэнцкай кампаніі апазіцыі.

— Падзеннем узроўню жыцця.

— Трагедыяй на Нямізе.

— Капітуляцыяй Мілошавіча і інфармацыйнымі патокамі са СМІ Расіі аб масавых забойствах.

Адразу пасля трагедыі на Нямізе апазіцыя зрабіла Заяву, у якой абвінаваціла Лукашэнку:

«АДКАЗНАСЦЬ ЗА КРОЎ 30 МАЯ НЯСЕ РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ» («Народная воля». 3 чэрвеня) І праз некалькі дзён грамадская камісія даручыла Праваабарончаму цэнтру «Вясна-96» правесці грамадзянскае расследаванне прычын трагедыі. Такім чынам уладныя структуры аказаліся пад агнём апазіцыі. Памочнік пракурора Таранаў даў газеце «Советская Белоруссия» інтэрв'ю, у якім пагражаў усім, хто будзе праводзіць расследаванне, крымінальнай адказнасцю. Гэта сведчыла пра тое, што ўлады напалохаліся. З боку ўладных структур, пачынаючы з Лукашэнкі, пастаянна ішлі заявы, што ў смерці 52-х чалавек няма вінаватых. А апазіцыя, абвінаваціўшы Лукашэнка, пачала збіраць матэрыял.

Падзеі ў Югаславіі, пра якія беларускія выбаршчыкі атрымліваюць інфармацыю ў асноўным з расійскіх каналаў, мелі наступныя акцэнты:

1. Мілошавіч пагадзіўся на умовы НАТА;

2. Войскі НАТА ўвайшлі ў Югаславію-Косава;

3. 200 расійскіх дэсантнікаў захапілі аэрадром у Косаве;

4. Сербы кідаюць дамы і бягуць у Югаславію;

5. Албанскія ўзброеныя баевікі ўвайшлі ў Косава;

6. Кожны дзень НАТА знаходзіць масавыя пахаванні албанцаў, якія налічваюць сотні трупаў. Прычым знаходзяць фотаздымкі сербскіх паліцэйскіх, якія гвалцілі жанчын, забівалі дзяцей і здымалі ўсё на фотаплёнку.

17 мая Лукашэнка, пасля такіх паведамленняў па ТБ Расіі з'явіўся на тэлеэкране БТ і абвінаваціў краіны НАТА ў тым, што яны не збіраюцца адбудоўваць тое, што разбамбілі, і Расію у тым, што марудна ўводзяць свае войскі ў Югаславію — «бросили своих бедолаг на произвол судьбы».

ТБ Расіі паведаміла таксама, что масавыя пахаванні пачалі даследаць эксперты ААН. Пастаянныя адкрыцці масавых пахаванняў сведчаць пра тое, што ў хуткім часе Мілошавіч паўстане перад тэлегледачамі як Пол Пот.

А Лукашэнка працягвае бараніць Мілошавіча. У нейкі момант Лукашэнка паўстане перад усімі як лепшы сябр і абаронца сучаснага Гітлера. Тым больш, што на пытанне журналістаў, ці збіраецца Лукашэнка даць Мілошавічу палітычны прытулак, Лукашэнка адказаў, што зробіць усё для дапамогі Мілошавічу.

Лукашэнка выкарыстаў югаслаўскую тэму па даўно адпрацаванай тэхналогіі. Спачатку з Масквы дэпутат Дзярждумы Ілюхін па ТБ Расіі заявіў, што мае звесткі пра тое, што быццам бы Беларусь будзе наступнай ахвярай НАТА. Прычым будзе разыграны сцэнар такі ж, як і ў Югаславіі. Толькі ролю албанцаў у Беларусі выканаюць палякі. Лукашэнка на наступны дзень пацвердзіў гэты сцэнар:

*«То, что сказал Виктор Илюхин, для меня не является новостью. Я уже намекал, примерно год назад, что такие проблемы существуют, но просил это не оглашать...» («Белорусская газета». 14 июня 1999 г.)*

Выкарыстанне тэхналогіі электаральнай агрэсіі супраць апазіцыі метадам прыпісвання ёй сувязей с Захадам, які хоча скінуць Лукашэнку і разбамбіць Беларусь, як Югаславію, мае дваістую функцыю. Па-першае, у свядомасці адданых Лукашэнку выбаршчыкаў замацоўвае адданасць яму, робячы Лукашэнку ў вачах паклоннікаў ахвяраю Захаду. З другога боку, у вачах Захаду робіць Лукашэнку экстрэмістам, які сам, як Мілошавіч, правакуе сітуацыю на Беларусі з палякамі. А для палітыкаў Захаду наяўнасць у палітычным лідэры рысаў непрадказальнасці, экстрэмізму, схільнасці да тэрарызму і рэпрэсіяў — самая заганная рыса. Дастаткова згадаць, што калі лідэры Маладога фронту правялі конкурс на самага меткага стралка на прызы Лі Харві Освальда і пра гэта паведамілі сусветныя СМІ, дык пасля гэтага Маладому фронту не далі многіх грантаў, якія ўжо было вырашана даць.

Такім чынам, Лукашэнка з кожнай такой заявай пра «как в Косово» адштурхоўвае ад сябе тых палітыкаў на Захадзе, якія імкнуцца наладзіць ягоны дыялог з апазіцыяй.

Калі падагульніць аналіз працэсаў, што ідуць у Беларусі і дасягнуць пэўнай кульмінацыі 21 ліпеня, то можна зрабіць пэўную выснову.

Маральна-псіхалагічная вайна, што ідзе ў стане апазіцыі паміж часткамі БНФ, паміж часткай БНФ і Вярхоўным Саветам, пры ўсіх хібах і недахопах палітыкі Лукашэнкі, нават пры страце ім легітымнасці, не пахісне трываласці Лукашэнкі на пасадзе Прэзідэнта і дазволіць яму праводзіць сваю палітыку без істотных перашкод.

*Уладзімір Мацкевіч*

# Даволі прайграваць, давайце вучыцца перамагаць!

Многа гадоў мы снoўдаемся ў змрочным тумане, крочым за падслепаватымі павадырамі. Мы зрабілі многа памылак, мы не зрабілі многага з таго, што абавязаны былі зрабіць. Стан нашай Радзімы — гэта адзнака і нашым дзеянням. Дзе знаходзіцца Беларусь у 1999 годзе? Ці то суверэнітэт, ці то паўкалонія. Ці то рынак, ці то сацыялізм. Ці то будуць дэмакратычныя законныя выбары, ці то паўторыцца звыклы фарс.

Мы так больш не хочам.

А без нас вярхі нічога не могуць.

У тым ліку і «дэмакратычныя вярхі», тыя, хто прывык успрымаць сябе лідэрамі апазіцыі. Мы шмат гадоў называем сябе дэмакратамі, цяпер надышоў час праверыць — ці такія мы сапраўды. Прыйшоў час вучыцца дэмакратыі. Вучыцца сур'ёзна, сістэматычна і, галоўнае, практычна. Вучыцца самім, вучыцца ў іншых, потым вучыць іншых.

Мы толькі тады зможам пачаць вучыцца дэмакратыі, калі зразумеем некалькі простых рэчаў:

«Дэмакратыя трымаецца на перакананасці ў тым, што простыя людзі могуць тварыць цуды».

**Хэры Эмерсан Фосдык.**

Менавіта простыя людзі, а не «героі» або тыя, хто хоча гэтых простых людзей куды-небудзь скіраваць і павесці. Няхай лідэрамі становяцца лепшыя з нас, але менавіта мы вырашаем — хто лепшы. Няхай лепшыя становяцца лідэрамі, а не правадырамі-важакамі. Мы самі выбіраем шлях, а лідэры здольныя толькі хутчэй за іншых рухацца па гэтым шляху, бо правадыры пастаянна імкнуцца дыктаваць і навязваць. Мы кажам гэта не толькі аб Лукашэнку, але і аб «правадырах беларускай дэмакратыі».

Чаму ім да гэтага часу гэта ўдаецца?

**«Для таго, каб перамагло зло, дастаткова ўжо таго, каб добрыя людзі нічога не рабілі».**

**Эдмунд Берг.**

Гэта прама датычыць нас. Псеўдадэмакратызм беларускай дэмакратыі ўзнікае менавіта таму, што «добрыя людзі нічога не робяць», каб дэмакратыя ў Беларусі была, не кажучы ўжо пра тое, каб «тварыць цуды». Але ж тварылі! Камунізм паў не таму, што яго разбурыў Сямён Шарэцкі, а таму, што мінскія, аршанскія, гомельскія і салігорскія рабочыя сказалі: мы так больш не хочам. Беларусь стала суверэннай таму, што беларусы пагадзіліся з БНФ — мы хочам быць незалежнымі, няхай усё вырашаецца ў Мінску, а не недзе яшчэ. Тады Пазьняк яшчэ не быў правадыром, а толькі першым сярод нас, а Шарэцкі быў яшчэ адным з «іх», як і Ціхіня, і многія іншыя.

Што здарылася потым?

«Парадаксальна, але як толькі на грамадзянскую супольнасць уздзейнічала прыватызацыя і камерцыялізацыя, высветлілася, што групы, арганізаваныя ў адчайнай спробе абараніць інтарэсы грамадскасці, сталіся **ангажаванымі на ролю лобі,** якое адстойвае прыватныя інтарэсы і адкрыта рабуе грамадскае багацце».

**Бенджамін Р.Барбер.**

З гэтым мы сутыкаемся не толькі ў Беларусі. Пра тое, што небяспека для дэмакратыі ёсць у самой дэмакратыі, у самой грамадзянскай супольнасці, ведаюць даследчыкі і аналітыкі ва ўсім свеце. Нельга аддаваць лёс дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці ў рукі невялікай купкі людзей, якія хутка пачнуць лічыць сябе «сапраўднымі дэмакратамі» і хутка засвояць, што ў іх ёсць свае прыватныя інтарэсы, адрозныя ад нашых агульных. Дэмакратыя — гэта штодзённая праца ўсіх нас.

«Дэмакратыя — гэта праяўленне сталасці, а не дробязнасці; добрай волі, а не бязглуздасці характару; адданасці ідэалам, а не карыслалюбству».

**Эразм Кохак.**

Прафсаюзныя лідэры становяцца «прафсаюзнай арыстакратыяй», захапляючыся драбноцем. Палітычныя лідэры — ангажуюцца на ролю лобі або ператвараюцца ў правадыроў з сварлівым характарам і празмернымі амбіцыямі. Бліжэйшыя да іх памагатыя пачынаюць дамагацца абароны менавіта сваіх уласных карыслівых інтарэсаў, а не ідэалаў, якімі кіраваліся першапачаткова.

Чаму гэта адбываецца з людзьмі?

«Часам быць суб'ектам, падначаленым закону, вельмі цяжка, але гэта — адзіная надзейная і канкрэтная абарона супраць тыраніі, дэмагогіі і ўлады натоўпу».

**Джын Бетке Эльштэйн.**

Так, гэта цяжка, што людзі імкнуцца даць сабе адпачынак, расслабіцца. «Не будзем звяртаць увагі на тое, што наш лідэр стаў дэмагогам, бо ён хоча дабра, таму спрашчае сітуацыю, прыхарошвае нашы дасягненні. Ён не хлусіць, ён проста хоча даходліва данесці нашы ідэі да шэрага натоўпу». Занадта позна людзі заўважаюць, што дэмагог стаў тыранам. Цяпер для яго існуе толькі ён сам, а ўсе астатнія — натоўп, які трэба весці, якому трэба хлусіць на яго-ную ж карысць. Ён забыў, што ён толькі адзін з нас.

«Спажыўцы карыстаюцца найпрасцей рыторыкай, дзе ў наяўнасці толькі займеннік «я». Грамадзяне вынаходзяць агульную мову, галоўны займеннік у якой — «мы»».

**Бенджамін Р.Барбер.**

Лідэры-спажыўцы злоўжываюць займеннікам «я», кажучы: «Я зрабіў, я вырашыў, я вам даў». Забываючы пры гэтым, што мы рабілі ўсё гэта разам, што без нас ён нічога зрабіць не мог бы. «Простыя людзі»-спажыўцы таксама могуць злоўжываць займеннікам «я», кажучы: «Мне што, больш за ўсіх трэба? А што я буду мець з гэтага? Што ён робіць асабіста для мяне?» Проста спажыўцы і лідэры-спажыўцы вартыя адзін аднаго. Мы маем такіх лідэраў, якіх заслужылі.

Ці ёсць абарона ад гэтага? Так.

«Гісторыя Амерыканскай рэвалюцыі разгортвае перад намі незабыўнае эпічнае палатно і служыць для нас унікальным урокам; бо гэтая рэвалюцыя адбылася ж не сама па сабе, а стала творам людзей, аб'яднаных **агульнымі мэтамі,** і перамагла дзякуючы наяўнасці **ўзаемных абавязацельстваў**».

**Ханна Арэндт.**

«Свабода заключаецца ў тым, што можна зрабіць у даны час і ў даным месцы. Дэмакратыя — гэта форма палітычнага жыцця, якая дае магчымасць людзям карыстацца свабодай, разумеючы яе як адказнасць, зыходзячы з таго, што ёсць справы, дзеля якіх трэба пакутаваць».

**Джын Бетке Эльштайн.**

Толькі ўзаемныя абавязацельствы могуць аб'яднаць усіх, «з якога б краю ні была іххата», у грамадзянскую супольнасць; калі мы гэта «мы», можам самі вырашаць і рабіць. «Мы» грамадзянскай супольнасці адрозніваецца ад «мы» камунізму і натоўпу тым, што не адмаўляе «я», тым, што дакладна падзяляе сферу прыватнага і грамадскага і ў роўнай меры абараняе і тое і другое. «Мы» у камунізме вышэй і важней за «я». А ў грамадзянскай супольнасці «я» вольны і абаронены ў прыватным жыцці гэтак жа, як «мы» свабодныя і абароненыя ў грамадскім. Я — грамадзянін, мы — грамадзянская супольнасць.

«Грамадскасць — гэта нешта большае, чым рынак для інфармацыі, публіка для прадстаўлення або рэспандэнт для апытання грамадскай думкі».

**Джэй Роўзен.**

Гэта нешта большае ўзнікае толькі тады, калі мы ўсе актыўныя і адказваем па сваіх абавязацельствах адзін перад адным. Лідэрамі становяцца толькі тыя, хто здольны прыняць на сябе большыя абавязацельствы, чым іншыя, і выканаць іх. Калі ж лідэр забывае на свае абавязацельствы, то ўсе забываюць, што ён лідэр. Мала мець агульныя мэты, неабходна прыняць узаемныя абавязацельствы. Без гэтага не можа быць адкрытай і публічнай палітыкі, а толькі закулісная, цёмная і мафіёзная. Тады палітыкі робяцца безадказнымі, іх кантакты з намі зводзяцца да таго, каб расказаць нам, што яны ўсё ведаюць і разумеюць, паказацца «выратавальнікамі» айчыны, дэмакратыі або яшчэ чаго-небудзь. Тады яны пачынаюць лічыць, што палітыка — гэта іх прыватная або прафесійная справа, і гэтую ідэю спрабуюць унушыць усім.

Але гэта не так.

«Публічная палітыка — грамадзянскае дзеянне як такое, накіраванае на дасягненне грамадзянамі больш глыбокага кантролю над сваёй будучыняй».

**Дэвід Мэцьюз.**

Гэты кантроль неабходны пастаянна. Нельга разлічваць, што аднойчы ўстаноўлены закон і парадак будуць уладарыць вечна, што будучыня можа быць гарантаваная нам як пенсія. Для будучыні трэба працаваць, і гэта асаблівая работа, работа па культываванню і захаванню ва ўласнай душы свабоды і чалавечай годнасці, свабоды і адказнасці за сваю і чужую свабоду.

«Я часта думаю, ці не занадта вялікія надзеі мы ўскладаем на канстытуцыі, законы і суды. Гэта — дарэмныя надзеі, паверце мне, дарэмныя надзеі. Свабода жыве ў душы чалавека; калі ў ягоным сэрцы памірае свабода, яе не выратуеш ніякай канстытуцыяй, ніякімі законамі, ніякім судом...»

**Суддзя Лернід Хэнд.**

Мы не можам спадзявацца на Канстытуцыю-94, як не разлічваем і на канстытуцыю-96. Мы доўга былі наіўнымі дэмакратамі, час рабіцца дэмакратамі-рэалістамі. Надышоў час вучыцца дэмакратыі на практыцы. Беларусам трэба ўстанавіць поўны кантроль над сваёй будучыняй, а не давяраць сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей безадказным «палітыкам». Палітыкам можа быць толькі той, хто бярэ на сябе абавязацельства зрабіць нешта для дасягнення нашых агульных мэт, і яму для гэтага патрэбна наша дапамога. Значыцца, мы і павінны ўскласці на жадаючых быць палітыкамі гэтыя абавязацельствы.

«Грамадзянства мае на ўвазе два віды аджказнасці: захаванне ўмоў «дамовы» адносна справядлівасці, але таксама і ўдзел у сацыяльным партнёрстве».

**Уільям М.Салівэн.**

## Як нам найлепшым чынам выкарыстаць сваю свабоду і правы ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму ў 1999 годзе

У суверэннай Беларусі яшчэ ніколі не было дэмакратычнай улады. У 1990—1992 гадах дэмакратыя мела некаторыя поспехі, знаходзячыся ў меншасці. З 1993 года мы прайграем адну пазіцыю за другой. Галоўнай падзеяй 1999 года з'яўляюцца прэзідэнцкія выбары. Незалежна ад таго, адбудуцца яны ці не, менавіта прэзідэнцкія выбары будуць вызначаць хаду падзей, расстаноўку сіл і самавызначэнне кожнага грамадзяніна.

Мы хочам, каб ужо ў гэтым годзе перамагла іншая тэндэнцыя.
Мы павінны пачаць выйграваць.

Выйграючы крок за крокам, пазіцыю за пазіцыяй, мы можам разлічваць на поўную перамогу дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці ў нашай краіне.

Для гэтага нам неабходна аб'яднацца пад агульнымі мэтамі і ўзяць на сябе ўзаемныя абавязацельствы. Толькі рухаючыся да агульных мэт, падмацоўваючы рух узаемнымі абавязацельствамі, добраахвотна прынятымі на сябе, мы зможам сказаць:

Толькі мы самі кантралюем нашу агульную будучыню.
Толькі мы самі адказныя за свае перамогі і паразы.

Мы ведаем свае правы і ведаем, дзе яны выкладзены. Савецкая ідэалогія спрабуе давесці нам, што абавязкі гэткія ж неад'емныя, як і правы, таму не трэба іх абмяркоўваць. Гэта не так. Чалавеку дадзены натуральныя неад'емныя правы, а вось абавязацельствы ён прымае на сябе сам, не існуе неад'емных абавязкаў. Існуюць толькі тыя абавязацельствы, якія чалавек прыняў і падпісаў у дамове з іншымі людзьмі. Абавязацельствы могуць быць толькі ўзаемныя. У лютым 1998 года лідэры апазіцыі, аб'яднаўшыся ў Нацыянальны выканаўчы камітэт (НВК), апублікавалі дамову з выбаршчыкамі. Гэта добры прыклад, але пакуль у дамове не пададзены другі бок, гэта не дамова, а так — папера. Нехта бярэ на сябе абавязацельствы, якія робяцца такімі толькі пасля таго, як другі бок прызнае і пацвердзіць іх, беручы на сябе сустрэчныя абавязацельствы.

Калі палітыкі не бяруць на сябе ніякіх абавязацельстваў, то яны робяцца безадказнымі. Гэтая безадказнасць стымулюе нават крымінальнікаў да палітычнай актыўнасці. Калі абавязацельствы палітыкаў сфармуляваны расплывіста і няпэўна, то грамадзянская супольнасць не можа кантраляваць выкананне імі абавазацельстваў. Членаў Палаты прадстаўнікоў можа кантраляваць толькі прэзідэнт, ён іх прызначыў — яны яму абавязаны. Лідэраў партый кантралююць члены партый. Але ў Беларусі мы страцілі гэты кантроль. Цесныя адносіны лідэраў партый аднаго з адным, членства іх у розных органах, безадказнасць за свае дзеянні прыводзяць да незмяняльнасці партыйных лідэраў, якіх бы памылак яны ні дапускалі. У БНФ лідэр захоўвае свае пазіцыі нават знаходзячыся ў эміграцыі. Карпенка страціў лідэрства ў ПНЗ толькі з развалам самой партыі. Дабравольскі і Шлындзікаў саступілі лідэрства Багданкевічу па ўзгадненню ў выніку аб'яднання сваіх партый. Усе лідэры захоўваюць свае пазіцыі нягледзячы на паразы і на невыкананне сваіх абавязацельстваў. Пачынаць дэмакратыю трэба з сябе. Наша найважнейшая задача — дэмакратызаваць дэмакратычную апазіцыю.

Хто ж можа выступаць бакамі ў дамове паміж лідэрамі апазіцыі і простымі членамі?

З боку палітычных лідэраў гэта могуць быць:

1. Вярхоўны Савет і ягоны Прэзідыум,
2. Нацыянальны выканаўчы камітэт,
3. Кансультатыўны савет палітычных партый (С.Багданкевіч, М.Статкевіч, А.Бухвостаў, Ю.Хадыка,..).

З боку шырокай апазіцыі: рэгіянальныя аб'яднанні дэмакратычных сіл: камітэты ў падтрымку Хартыі-97, міжпартыйныя групы і г.д. з удзелам прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый, клубаў выбаршчыкаў.

Чаму неабходны дамоўныя адносіны паміж палітычнымі лідэрамі і прадстаўнікамі шырокай апазіцыі?

1. Сучасныя лідэры апазіцыі — тыя самыя людзі, якія ўзначальвалі апазіцыю ў 1994—1996 гадах. Гэта пад іхным кіраўніцтвам былі прайграны:

— прэзідэнцкія выбары;
— рэферэндум і выбары вясной 1995 года;
— супрацьстаянне закона і дыктатуры ў лістападзе 1996 года;
— прэзідэнцкія выбары 16 мая 1999 года.

2. Для ўсіх дзеянняў і мерапрыемстваў, якія плануюць палітычныя лідэры, ім неабходна масавая падтрымка. Яны клічуць нас на мітынгі і дэманстрацыі, прыцягваюць да тэхнічнай выканальніцкай работы. Далучаючы нас, яны не клапоцяцца пра тое, каб мы ўдзельнічалі ў прыняцці рашэнняў і планаванні дзеянняў. Але абвінавачваюць нас у сваіх няўдачах — малаколькаснасць мітынгаў і дэманстрацый, мала выканаўцаў даручэнняў, адсутнасць масавай падтрымкі іхных ініцыятыў.

3. Лідэры не могуць дамовіцца паміж сабою па прынцыповых пытаннях, але ўцягваюць нас у дыскусіі па другарадных ідэалагічных і дактрынальных.

4. Лідэры не хочуць лічыцца з тым, што ў рэгіёнах і на ўзроўні пярвічных арганізацый мы ўжо даўно аб'яднаныя і маглі б дзейнічаць разам.

5. Мы пазбаўлены інфармацыі аб сапраўдным стане спраў у апазіцыі, аб ступені гатоўнасці або негатоўнасці да тых ці іншых дзеянняў, таму ўдзельнічаем у палітыцы не з поўнай свядомасцю, а як «гарматнае мяса», якое заманьваюць прывабнымі мэтамі.

Тэзісы-прынцыпы
адносін шырокай апазіцыі
да сучасных палітычных лідэраў

1. Мы падзяляем разам з вамі нашы агульныя мэты, каштоўнасці і задумы, але не верым, што вы здольныя выканаць гэтыя задумы і дасягнуць мэт.

Каля 100 тысяч грамадзян Беларусі падпісалі Хартыю-97, дзе сфармуляваны асноўныя нашы мэты і каштоўнасці. Каля 300 тысяч чалавек паставілі подпісы ў падтрымку кандыдатаў у прэзідэнты ў ходзе прэзідэнцкай кампаніі 1999 года. Мы ведаем, што мы з тымі, хто імкнецца да СУВЕРЭНІТЭТУ, ДЭМАКРАТЫІ і РЭФОРМАЎ. Гэтыя мэты і каштоўнасці бясспрэчныя, усё астатняе на даным этапе барацьбы з дыктатурай неістотнае, таму мы катэгарычна адмаўляемся ўдзельнічаць у ідэалагічных спрэчках, якія вядуць лідэры на старонках незалежных газет.

2. Мы лічым, што вы не здольныя дасягаць нашых агульных мэт таму, што вам не хапае падтрымкі рэгіянальных і перыферыйных грамадска-палітычных структур.

Пра гэта сведчаць даныя сацапытванняў, пра гэта мы ведаем са зносін з людзьмі штодня. Мы і самі нясхільныя падтрымліваць персанальна кожнага з вас, хоць падзяляем вашы мэты і каштоўнасці.

3. Калі вы будзеце мець шырокую масавую падтрымку, толькі тады і з'явіцца ў вас здольнасць выканаць задуманае.

Таму што нашы мэты дасягаюцца не апаратнымі гульнямі, а масавымі дзеяннямі. А масавыя дзеянні павінны быць сінхронныя і ўзгодненыя, гэтая ўзгодненасць дасягаецца дзеяннямі лідэраў. Вы ж пакуль занятыя высвятленнем адносін паміж сабою. Атрымліваецца замкнёнае кола, амаль рэвалюцыйная сітуацыя ў дэмакратычнай апазіцыі. Дэмакратычныя лідэры не могуць мабілізаваць грамадзян на супраціўленне, грамадзяне супраціўляюцца рэжыму як умеюць, але не хочуць слухаць дэмакратычных лідэраў. Ды і як гэта магчыма, калі адны кажуць збіраць подпісы пад Хартыяй-97, іншыя, наадварот, збіраць толькі пад патрабаваннямі імпічменту або выбараў і г.д. Адны збіраюць сваіх прыхільнікаў на мітынг у Дзень Канстытуцыі, іншыя заклікаюць не ўдзельнічаць у гэтым мітынгу, а толькі ў тым, што будзе праз два тыдні.

4. Мы, актывісты рэгіянальных і перыферыйных грамадска-палітычных структур, гатовыя аказваць падтрымку ўласнымі намаганнямі па мабілізацыі і актывізацыі грамадства толькі тым палітычным лідэрам, чые дзеянніх будзем ведаць і разумець механізмы кантролю гэтых дзеянняў.

Мы не можам самі падтрымаць такога лідэра, пра якога думаем, што ён спалохаецца і здрадзіць у крытычны момант, і тым больш не можам іншых заклікаць яго падтрымаць. Добрыя былі б мы, калі б падтрымлівалі Краўчанку! А чым астатнія ад яго адрозніваюцца? Мы падтрымаем толькі таго, каго можам кантраляваць і ў каго можам спытаць за ягоныя дзеянні і ўчынкі.

5. Механізм кантролю за дзеяннямі і ўчынкамі палітычных лідэраў і структур ёсць прадмет нашых абмеркаванняў і дыскусій, якія павінны закончыцца дамовай.

Адцягненне актыўнай часткі шараговых членаў палітычных партый і структур на спрэчкі вакол малазначных пытанняў ёсць тыповая дэмагогія. Мы больш не хочам удзельнічаць у гэтым. Настаў час дзейнічаць, таму тэмы абмеркаванняў на палітычных сходах і кангрэсах павінны быць толькі практычныя.

